# Няхай выбачае юнацтва

Уловіць вуха матыў, прамільгне знаёмая мелодыя, а сэрца зоймецца ад хвалявання — дзесьці там, у імгненні твайго юнацтва, у даўнім часе жыцця, застаўся кавалачак цябе. Балючы, востры, жывы больш, чым ты сябе зараз адчуваеш. Музыка здольная выявіць квінтэсэнцыю моманту гісторыі, часу, проста адрэзка чалавечага жыцця. Усяго колькі гукаў ухапілі, паланілі, зашыфравалі і пакінулі ТАМ частку тваёй душы.

## Кругі на вадзе

У раздзеле «Госці» сацыяльнай сеткі «Аднакласнікі» паглядаў на мяне з фота незнаёмы мурлаценькі дзядзька на фоне дагледжанай сядзібы: альтанка, мальвы, ружы, сад, ставок з рыбкамі, трактар, аўто… Дабрабыт у поўным наборы. Усё, што многім па справядлівасці здаецца сапраўдным рэальным шчасцем. Не пазнала дзядзьку, вось прозвішча — рэдкае, пакручастае — спыніла: калісьці чула. Перабрала транзітнікаў класа, школы, і ва ўспамінах жыхароў роднага горада такога прозвішча не вялося. Інстытут? Без зачэпкі. Работа? Не! Дзе ж яно магло сустракацца?

* * *

Самая мініяцюрная, мілавідная дзяўчынка групы першага курса музычнага вучылішча — Зарана, быццам трынаццацігадовае дзяўчо. Прыгожая, каб не гэтая недазрэласць кволай постаці. Быццам сарвалі кветку ў завязі. Усё ж яе невысокая постаць і адсутнасць зманлівых форм не надавалі характару Зараны і кроплі інфантыльнасці. Не яркасць, не кідкасць выдзялялі дзюймовачку Зарану з дзявочага шэрагу студэнтак. Твар яе паланіў нейкай надзвычайнай жаноцкасцю. Лагодны пагляд вялікіх блакітных вачэй апавіваў спакоем і спагадай, дарыў упэўненасць: у гэтай галоўцы не здольная затрымацца брудная думка альбо перастане такой звацца; гэтыя пяшчотныя вусны не здольныя прамовіць грубага слова, ружовыя шчокі з ямачкамі цёпла будуць усміхацца нават у самы цяжкі момант жыцця. Жаноцкасць ва ўсім: у хадзе, паводзінах, гутарцы, паставе. Прытым сціпласць і ціхмянасць яе характару не перашкаджалі Заране пры патрэбе абараніць праўду ад няпраўды. Так натуральна і бяскрыўдна прамаўляла яна словы нязгоды, быццам бег вясновага ручайка мімаходзь вызваляла ад парожкаў смецця.

Чарнявы мацак па мянушцы Докер, які паступіў у нафтатэхнікум, здаецца, проста ад балды — не збіраўся ён станавіцца нафтавіком, — увязаўся следам за каханай дзяўчынай: Зарана прыехала ў Наваполацк вучыцца ў музычным вучылішчы. У першы ж тыдзень навучальнага года Докер заявіўся ў чужое гуртжытло да хлопцаў яе групы з торбай бутэлек і сумеў за вечар з усімі дамовіцца, што ні адзін з іх не пасягне на Зарану. Бо тая ад трынаццаці сваіх гадоў належала яму. Падзялілася з сяброўкай і Зора таямніцай свайго хуткаспелага кахання. І павялося ў студэнцкім асяроддзі: хлопцы не без цікаўнасці, з захапленнем зырылі на смяшлівую, зорнавокую Зарану… як на сястру.

Праз год Заранін Докер адбыў на вайсковую службу ў Германію. У ячэйцы насценнай фанернай скрыначкі пры вахцёрцы ў

фае гуртжытла, куды паштарка прыносіла пошту, пад першай літарай Заранінага прозвішча на працягу года штодзённа чакаў Зарану новы ліст ад салдата, а то і два. Танны канверцік без марак і ўпрыгожваючых эксслібрысаў, коштам у капейку, а ў наборы — яшчэ выгадней, з дробным, роўным мужчынскім почыркам радаваў сваёй абавязковасцю і надзейнасцю не толькі вока і душу адрасаткі… Раптам майскімі днямі ячэйка апусцела.

Група змовілася надыходзячым летам, пасля заканчэння другога курса паехаць у Крым на мора. Падрадзіліся ў тамашнім саўгасе збіраць таматы ў полі. Докер сваёй каханай вандроўку забараніў. Зарана аслухалася, яна эпісталярна паведаміла кавалеру, што ўсё-такі паедзе на поўдзень. Гэтае маленькае выпакутаванае непаслушэнства прыдало Заране ўпэўненасці і самапавагі, рысам яе твару — глыбіні, задумлівасці, нейкай прыцягальнай адметнасці. Дзяўчына стала яшчэ прыгажэйшай: ухажоры паўднёвыя і свойскія пчаліным роем віліся вакол Зоры.

Прыезджых хлопцаў мясцовыя білі. Дубасілі гасцей крымчане жорстка і бязлітасна. Звычайна ў самы разгар бойкі хтосьці з «іх пераможцаў» узлятаў на другі паверх гуртжытла, на хаду кулаком выбіваў «апошнюю перашкоду» — драўляную плашку ніколі не зачыняных на ключ дзвярэй дзяўчачага пакоя, уторкваў у праём тупаватую, разгарачаную бойкай фізіяномію, аглядаў студэнтак, мігам крутануўшыся, адкрываў нагой дзверы і апынаўся ў праходзе цалкам, хапаў на рукі збянтэжаную Зарану, быццам ёй штосьці пагражае. Пад зайздроснымі позіркамі хлопцаў і дзяўчат выносіў яе на калідор. На тым канфлікт стухаў да наступнага разу. Здавалася, бойкі толькі дзеля таго і распачыналіся, каб «выратаваць» Зарану, хоць ні адзін з герояў так і не атрымаў прыхільнасці. Але і пра свайго Докера гаворак яна больш не вяла.

Лета прайшло без вестак ад салдата. Пачаўся трэці курс. Неяк сама сабой завялася ў Зараны звычка праходзіць паўз ячэйкі фанернай паштовай скрыні хуценька, без прыпынку. Яна не вы-

давала тварам ні роспачы, ні адчаю, заставалася па-ранейшаму заўсёды ў добрым настроі. Кастрычніцкім суботнім вечарам, калі сямейныя Зараны зграбалі і палілі ў садзе сухое лісце, яна вынесла з дому ўвесісты цючок салдацкіх лістоў, акуратна перавязаны блакітнай стужкай, і, разгортваючы кожны канверт, стала кідаць у вогнішча павольна паасобку, нібы развітваючыся, чакаючы вызвалення: канверт, ліст, паштоўку — карцінкі непрыкрытага сексу. Невядома навошта, кожным разам Докер укладваў для сваёй юнай нявесты парнаграфічную картку — нябачанае дзіва для саўка.

Вось чыё прозвішча значылася пад фотакарткай мардаценькага дзядзькі ў маіх гасцях. Гэта Заранінага Докера так па-сапраўднаму звалі. З чаго б гэта чалавек, зусім да мяне ніякага дачынення не меўшы, стаў цікавіцца мною ў «ok»? Наступным днём на сайце чакала звестка. Зарана паведамляла, што расшукала мяне са старонкі мужа, бо сваёй асобнай заводзіць не захацела.

Так, так, яны пажаніліся ў самым канцы чацвёртага курса, калі Докер вярнуўся з арміі. Здымалі кватэру, але не прыжыліся ў горадзе, паехалі дамоў, дзе Зарану чакала родная музыкалка. І нават на адным з першых педагагічных семінараў, якія ладзілі пры Саюзе, я неяк сустрэла Зарану. Яна, ужо крыху памажнелая, пакруглелая, але па-ранейшаму смяшлівая, простая і мілая, жалілася на свайго тады ўжо мужа: «Ведаеш, даскакаўся. Лётаў-лётаў па танцульках і атрымаў! Адбілі ўсё, што ёсць. Ледзь вычухаўся ў рэанімацыі. Дужа хварэе». Яна прамаўляла словы, як звычайнае, абыдзенае, норму, даючы мужу права на развагу свайго жыцця. Мне вельмі цяжка было зразумець такі лёгкі Зорын характар, я не ўмею глядзець на жыццё проста. У мяне ўсё складана, праз сетку прычынна-выніковых сувязяў, з каранямі і шлейфамі, з ланцугамі паслядоўнасці… Зайздрошчу Заране па ўсіх кірунках. Менавіта такой, напэўна, трэба быць сапраўднай ЖАНЧЫНЕ: бы гладзь азёрная, бы подых ветру, як кругі на вадзе — у такім ключы штосьці падобнае выказваў Сальвадор Далі.

Выходзіць, адумаўся Докер, узяўся за розум, стаў фермерам, адбудаваў дом-палац. Выхавалі дзяцей… Я разглядала фотаздымкі і ні на адным не адшукала Зараны. З часу развітання мае аднакурснікі і аднакурсніцы разам са мной парабіліся непазнавальнымі, аднак не да такой жа ступені, каб зусім не пазнаць чалавека. Зараны ні на адным фота не было. Мая багатая фантазія пачала маляваць розныя варыянты развіцця жанчыны ў падобных умовах. Уяўляла гаспадынь багатых сядзіб: грубых, мажных, сквапных. Унізвала пальцы Зоры залатымі пярсцёнкамі. Яны ў яе былі і ў юнацтве, ды ніколі не перадавалі душы і розуму. Уяўляла прыгнечаную мужам кабету, ссохлую, змучаную работай, толькі што і здольную рыць гектары бульбы і буракоў. Адзін двор трымаць у парадку, дом у чысціні — трэба быць прафесійнай домработніцай. Не, гэта не пра Зарану. Я глядзела на фотаздымкі яе дачушак, рэдкаснай прыгажосці тварыкі — абразкі сапраўднай жаноцкасці — копіі колішняй юнай Зараны — і разумела: яна засталася па-ранейшаму прывабнай і цікавай, проста не любіць фатаграфавацца, выстаўляць напаказ «фотасесіі».

## Неферціці

Эля, вытанчаная, як статуэтка Неферціці, ганарлівая смуглянка з доўгімі масляністымі чорнымі валасамі, татарачка. На ўступных экзаменах усім на зайздрасць яе з кабінета ў кабінет вадзіў за сабой прыгожы малады мужчына, казалі — выкладчык па спецыяльнасці; ні адзін з іншых абітурыентаў не ўдастоіўся падобнай апекі з боку былых настаўнікаў. А той, у белым прыкідзе ад пантофляў да кашулі, на белым фоне якога смуглявасць Элі падавалася проста егіпецкай, з раніцы да змяркання трымаў сваю пратэжэ за руку, насіў на плячы яе чырвоную пляжную жаночую сумку з цяжкімі тамамі і нотнымі фаліянтамі. Эля была пластычнай, выгібістай, быццам вывіхнутая ва ўсіх сваіх тонкіх костачках і суставах. Выхапі з буфетнай чаргі, пастаў на подыум, ахіні пярэстым арнаментам калазірыса — жрыца, царыца

Неферціці! Карона з кобрай неяк сама сабой дамалёўвалася… Асабліва пасля больш цеснага знаёмства з Эляй.

Ад першых залікаў першага ж курса высветлілася: Эля прафнепрыгодная, зусім, нават у атачэнні нашай не вельмі багатай на таленты групы. Пры тым, што светлая да навук яе чарнявая галоўка амаль лепш за ўсіх студэнтаў курса спраўлялася з іншымі навукамі і дысцыплінамі, акрамя музычных… І гэты казус — не рэдкая з’ява ва ўстановах творчага кірунку. Што змушае чалавека ісці вучыцца таму, да чаго абсалютна няма здольнасці? Яму адкрытыя ўсе дарогі ў іншых напрамках: жадаеш — журналістыка чакае, гісторыя, эканоміка, палітыка, фізічна-матэматычныя прасторы… Ва ўсім асэсар! А ён, бедалага, ад сесіі да сесіі ніяк не выкараскаецца ад хвастоў і запазык няўроднай нівы. Магчыма, спрацоўвае ўпартае жаданне даказаць усім, што і тут ён здольны? Ад сваіх траякоў і неўдаў Эля не губляла ні кроплі пачуцця гонару і велічы… і прастаты. Лёгка знаходзіла мову са старэйшымі хлопцамі, запроста сябравала з кім пажадае, чаму маглі толькі пазайздросціць аднагрупніцы. Хутка завяла кавалера з кантрабасістаў выпускнога курса, трымалася дарослай жанчынай. Спрытная ў гаспадарскіх справах: начыста адмыць сукенку, па ўсіх правілах адпрасаваць модны жакецік, вывесці пляму з блузкі, згатаваць смачны абед. Знала толк у лепшых прадуктах. Яе цікавілі дробязі, пакуль што не цікавыя аднагрупніцам. З бессаромным выклікам Эльвіра пляткарыла, перамывала косткі сваіх суседак па пакоі. Магла дэманстратыўна, не хаваючыся, забраць з-пад носа вахцёркі ліст чужога адрасата: «МарПална, я аддам каму трэба — ага?» З прадчуваннем асалоды дазнацца таямніц Эля на агульнай кухні, пры сведках, ні вухам ні рылам не здагадлівых аб гідкай крымінальнасці яе маніпуляцый, бы заядлы фокуснік, награвала над парай алюмініевага чайніка канверт, вострым нажом акуратна расхінала яго кішэнь, даставала ліст, са здзіўленнем падхоплівала нечакана выслізнуўшы следам кляновы

лісток. Учытвалася, хмыкала, паціскала плячамі: «Дадумаліся! Замест пяцёркі ці хаця б траяка — гербарый перасылаць!» Эля, як прафесійны цэнзар, запячатвала канверт, злучала ўсе палавінкі рысачак — адну да адной, наіўна выведзеныя рукой адпраўцеля на расхіле зваротнага боку, і ў нейкім раздражненні — нічога цікавага! — кідала неахайна канверт на ложак радаснай адрасатkі. Потым з брыдлівай паблажлівасцю назірала спадцішка, як суседка з паэтычным замілаваннем прыкладае да вуснаў, да шчакі апаганены чужымі рукамі кляновы лісток, асцярожна адпраўляе яго ў падручнік служыць закладкай.

Увесь гэты працэс ніяк не ўплываў на штодзённую вечаровую прагулку з ахвярай. Эля пад руку выходзіла са сваёй суседкай-зямлячкай у замецены восеньскім лісцем двор студэнцкай гуртжытлоўкі, аглядала дзяўчыну ў свеце ліхтароў, грубавата-цёплым тонам заўважала: «Куды глядзелі мае вочы, калі ты апраналася?! Марш дамоў! Паддзень рэйтузы! Зноў захацела ў бальніцу?!» Яе слухаліся.

Настроем групы Эля валодала, як факір гюрзой. Асабліва на копцы бульбы ў калгасе, калі ўсе гуртом. На свой капыл лёгка накручвала аднагрупнікаў на патрэбны лад. Раніцай вясёлыя, спакойныя, задаволеныя выязджалі ў поле — вярталіся на абед тайфунам, бурай магнітнай! За нейкіх пару гадзін надумае, накруціць у сваёй галаве Эльвіра цэлую кузлу, увядзе ў патрэбныя вушы, а яе памагатыя хутка растузаюць, разбураць лагодны стан душэўнай атмасферы. Камусьці вёдры дапісалі па блату! У таго палова вядра прайшла за поўнае! Не роўныя порцыі! Салата буйна нашаткаваная! Мух наляцела ў кухню! Ежа не смачная! Зноў кісель! У Элі кепска з жыватом, ванітуе, блажыць. Выясніцца потым у ходзе заняткаў прычына ўсіх капрызаў і недамаганняў Элі ў калгасе, не пройдзе і двух месяцаў.

Доўга прыхоўвала жывот. Фізрук нагружаў Элю, першакласную спартоўку, актыўную ўдзельніцу і пераможцу ўсемагчымых

спартакіяд, спаборніцтваў, кросаў, як раней, па поўнай праграме. А вось пільныя вочы паплечнікаў адзначылі нязвычную чырвань плямамі на яе твары. Пры нагрузках у Элі стала збівацца дыханне, яна спынялася ўхапіць паветра, зглынуць цягучую слізь у горле. Тонкая талія Элі паступова ператваралася ў цэбрык. Але гонару, здаецца, паболела. Эля не саступала на фіззанятках нікому і ні ў чым: ні ў гімнастычных выкрунтасах, ні ў баскетболе. Бегала, скакала, адціскалася як трэба, і ўсё на вышэйшую адзнаку, і ўсё — «сто па сто»! Чым аканфужвала цікаўных, прымушала сумнявацца.

Таемнае марыць стаць яўным. Аднойчы Эля, ідучы з паліклінікі на заняткі, неабачліва паклала квіткі ад доктара-гінеколага ў ноты і пакінула іх на пюпітры. Непаваротлівая нязграба (якраз тая, чые лісты Эля парыла над чайнікам) зачапіла нагой пульт на перапынку, скінула ноты на падлогу. Канцэртмайстар аркестра падхапіў маленькую цыдулачку, жартоўным тонам канферансье зачытаў тэкст. Элін твар пачырванеў да фіялету. Яна так злосна зыркнула ў вочы дуркаватаму хлопцу, што той праглынуў на палове ходу недачытаны радок, у якім, дарэчы, нічагуткі не зразумеў. Мала хто тады зразумеў. Толькі самыя пільныя ўхапілі сенсацыйны змест тых «пятнаццаці з паловай тыдняў».

Эля прапала. Нават сяброўка яе не ведала, куды падзелася. Прыехаў бацька Элі, распытваў настаўнікаў, аднагрупнікаў — ніхто ні гу-гу. Нарэшце, казалі, запатрабаваў у кантрабасіста адказу. Той доўга аднекваўся — нічога не ведаю, маўляў, на алімпіяду паехала, потым здаўся. Бацька літаральна ўхапіў за руку «чулага доктара», калі той занёс над жыватом Элі скальпель. Магчыма, хтосьці сердабольны з медперсаналу і папярэдзіў родных, што сямнаццацігадовая дачка ў такім познім стане цяжарнасці здолела дамовіцца з хірургам. Элю забралі. Дзіця ўберагглі. Да вучобы Эля не вярнулася. Выйшла замуж за свайго кантрабасіста — тое яму не перашкодзіла паступіць у кансерваторыю і закончыць яе,

а потым… прыстроіцца на мясакамбінат, дзе пад баянчык ён пасрэдным лабухам уздымаў заводскую самадзейнасць. Удзельнікі псіхавалі: «Сі-бемоль мінор! Сі-бемоль мажор! А сам, хітрэц, пакратае пальцамі гузікі, каб збіць з тону, і зноў у тым жа строі пачынае! Я ж не глухі — чую! Мне як было завысака, так і засталося! Чаму іх там вучаць гадамі ў той кансерваторыі?!»

Эля таксама не заседзелася невукам, скончыла эканамічны факультэт дзяржаўнага ўніверсітэта. Працірае бухгалтарскія нарукаўнікі ў паштовай скрыні УЖ «нанаццаць дроб манаццаць». Па маладосці гадоў яе з мужам можна было сустрэць у мясцовым бары-рэстаране. Эльвіра па-ранейшаму выглядала егіпецкай царыцай. Пад закрыццё ўстановы спрытна танчыла на стале. Яны з кантрабасістам жывуць у міры і ладзе, гадуюць дачушку, нават занялі першынство ў спаборніцтве сем'яў раёна. Ці вобласці?

## У вірах бяздонных глыбінь

Невысокая, крэпкага вясковага целаскладу, ружавашчокая, з адкрытым, чыстым, здаровага колеру шырокім і круглым, як поўня, тварам, з аржаной, бы пранік, тугой касой ніжэй пояса, бурная, не лагодная, вуглаватая характарам, задзірлівая, непадатлівая — усё гэта пра Весяліну. Вочы, блакітна-ізумрудныя, як воды ляснога возера, таілі ў глыбіні цяжкі смутак і цемру. Сялянскі моцны арганізм, упарты нораў змушалі Весю заўсёды трымацца бадзёрай, бойкай, якой яна і была насамрэч па жыццярадаснасці сваёй прыроды. Прыехала ў Наваполацк са сталіцы. Гараджанкай Веся была, канечне, з вялікім нацягам. Маленькай дзяўчынкай яе забрала з вёскі ў Мінск са шматдзетнай гаротнай сям'і бацькоў-п'яніц багатая бяздзетная цётка. Усім патрэбным забяспечыла: адкарміла, апранула, дала пачатковую музычную адукацыю. Пляменніцай удзячнай была б Веся, каб не дзядзька, цётчын прымака-прыжыванец. Жвавы, напыжаны, залатазубы (цётчын прэзент) зух, гадоў на пятнаццаць за хворую, пажылую,

грузную цётку маладзейшы. Ён усёй душой і целам імкнуўся прымаць актыўны ўдзел у выхаванні «дачкі». Праз маларухомасць тучнай цёткі сам паўсюль вадзіў, вазіў і ўладкоўваў дзяўчынку, кантраляваў выбар сяброўак, торкаўся ў падлеткавыя стасункі і захапленні. Не цураўся ўпотай чытаць школьныя анкеты, дзе вучні неабачліва адкрывалі адно аднаму свае мары і думкі, прызнаваліся ў каханні, дзяліліся сакрэтамі. Вылучыўшы момант для задушэўнай размовы, таемна ўзброены анкетнымі данымі, дзядзька выкрываў «не вартых Весялінінай увагі кавалераў». Здагадлівая, учэпістая розумам дзяўчына імгненна расякала, адкуль вецер дзьме факты. Нават сталічнага цётчынага выхавання не хапала ёй тады, каб павярнуць дыялог з апекуном на дыпламатычныя рэйкі, — узвівалася, нібы апараная кіпнем, патрабавала трымаць дыстанцыю, усчынала сапраўдны скандал, жалілася цётцы. Тая, улагоджаная ўжо рупным прайдзісветам, змушаная сваёй бездапаможнасцю на многае заплюшчваць вочы, супакойвала пляменніцу напамінам, што дома з бесталковымі распутнымі бацькамі ёй прыйшлося б не саладзей — пацярпі, дзетка. Весяліна сама ўсё гэта добра разумела і памятала, ды пакуль што не навучылася сунімаць свой бунтарскі нораў.

Дачакалася студэнцкага вальнейшага часу, уздыхнула з палёгкай. Хоць дзядзька наведваў яе і тут рэгулярна, забяспечваў цётчынымі прадуктамі і грашамі, па-ранейшаму ўсюды торкаў нос, нахабна намякаў быць больш удзячнай яму. Весяліна цуралася сустрэч, саромелася прыездаў дзядзькі ў гуртжытло, пазбягала весці размовы аб ім.

Пасля другога курса, не паслухаўшы мужа, цётка адпусціла Весю з групай у Крым на мора. Яшчэ зімой праз пошту дамовіліся з саўгасам палоць грады памідораў. Але і без таматаў Весяліна з лёгкасцю магла б адпачыць на поўдні — так шчодра адарыла грашамі пляменніцу цётка. Смелая, адчайная, заўсёды гатовая да бяскрыўдных прыгод, Весяліна з энтузіязмам узялася знаёміцца

з масквічамі. Там, у Маскве, прыйшлося чакаць паўднёвы гадзін дзевяць. Не адыходзячы ад вакзала, яна ціха гаманіла ні аб чым са смяшлівым белабрысым хлопцам, і тут раптам намаляваўся бравы служака ў міліцэйскай форме. Чаму мент западозрыў Весяліну ў чымсьці непрыстойным? Як кажуць — што ў каго ў галаве… не даў права патлумачыць — хто яна, куды едзе, павалок ва ўчастак. Аб'явілі адпраўку цягніка, група пацягнулася на перон — Весяліны няма. Тым часам вушлы мент, з пажадай агледзеўшы сакавітыя формы Весялінінай постаці, накіраваў дзяўчыну ў глухую падваротню, расшпіліў свае штаны і запатрабаваў выканаць тое, у чым дарэмна яе западозрыў. Весяліна, калі зразумела, што мент зусім не мент па сумленні, дзюбнула каленам між ног і дала дзёру. Дарогу зблытала. Запыхаўшыся, ледзь паспела схапіць у камеры хавання сваю паклажу, чырвоная, растузаная, заплаканая, але аптымістычная і бадзёрая ў апошнюю хвіліну ўскочыла ў вагон.

Працаваць Весяліна паехала па размеркаванні зусім у другі бок ад сталіцы, у раён чароўных Браслаўскіх азёр. К гэтаму часу яна, не без дапамогі цёткі, усвядоміла, што з людзьмі трэба трымацца асцярожна, памяркоўна, без гвалту: «Асаблівага цярпення трэба набрацца ў абароце з начальствам, інача век на табе будуць ваду вазіць». Веся хутка выйшла замуж, стала мамай, потым штосьці не заладзілася, як бывае ў маладых. Зларадны голас перадаваў навіну: «Там да разводу дзела прамуе, а гэта дурніца зноў цяжарнай ходзе. Дзяцьмі сям'ю не ўберагчы!»

А Весяліна зберагла… І ўсё ў яе слаўна, спакойна і складна: і муж, і дзеці, і ўнукі ўжо бегаюць. На рабоце Весяліну паважаюць.

Дарэчы, дзядзька, пасля раптоўнай смерці цёткі, якая не раз пры мужу паўтарала, што палову спадчыны пакіне пляменніцы (ды не паспела аформіць папер), не аддаў Весяліне і каліва маёмасці, нават яе асабістыя рэчы не дазволіў забраць: «Хто ты такая?! Не дам ні граша!» — «Ну і табе тым жа аддасца!» — у

вачах Весяліны на імгненне ўспыхнуў яры агонь. Штосьці змрочнае, цьмянае, невядомае адгукнулася ў самай глыбіні душы.

Ажаніўся дзядзька, прадаў цётчыну кватэру, дачу, аўто… Вечаровым шпацырам з маладой жонкай яны трапілі пад трамвай: жанчыну адразу — насмерць, яму адрэзала ногі.

## Örsch

Машынальна памацніла гук радыёпрыёмніка — не, прозвішча такога я ніколі не чула. Імя… па спецыяльнасці — выкладчык музычнай школы… так, а галоўнае — тэмбр голасу! Рэдкі, мяккі, грудны, у той жа час з заварожваючай хрыпатцой, і гэты падвоены абертон, быццам у тэрцыю… Чыста Сірэна! Ну канечне — Ёрш! Але козы?! Ёрш і козы! Гераіня перадачы дзялілася спрытам выжывання ва ўмовах татальнага крызісу, рэкламавала надзвычайна смачныя і карысныя прадукты спажывання са сваёй фермы. З захапленнем хваліла коз зааненскай і тоггенбургскай парод, на малацэ якіх выхавала сваіх дзяцей…

Папраўдзе яна не Ёрш і не Эрш. Калі скласці вусны трубачкай і выдзьмуць гартанны своеасаблівы, адмыслова кельцка-нямецкі Umlaut, штосьці сярэдняе між гукаў «о, е, э, ё» — атрымаецца менавіта той, патрэбны для яе мянушкі Öрш! Мянушка, створаная ад кораня яе рускага прозвішча, пасавала яе неардынарнаму, яркаму, супярэчліваму, але заўсёды цёпламу вобразу куды больш, чым нечаканае, як гук скінутага на падлогу посуду, халоднае, бы ледавешка, бляклае, як позірк нялюбай жанчыны, зусім выпадковае і невыразнае імя Люда.

У групе Ёрш была з мясцовых, не прыезджай, значыць — нясвойскай, крыху адасобленай, бо не жыла разам з усімі ў інтэрнаце. Лічылася, што паступіла без падрыхтоўкі, і менавіта мне прыпаручылі падцягнуць яе да нашага ўзроўню. Люда, старанная і паслухмяная, бы сціплы хутарскі вучань перад важным гарадскім настаўнікам, з'яўлялася кожны вечар на назначаны

ўрок, акуратна клала перада мной гасцінец: сакавіты чырвоны яблык, шакаладную цукерку, пасцілку альбо заморскі, тады яшчэ нябачаны плод, банан — маці працавала ў мясным аддзеле цэнтральнага гастранома, лічы — мела пасаду міністра. З першых заняткаў я зразумела: штосьці тут не зусім так. Альбо вучаніца геніяльна адораная, альбо веды яе значна пераўзыходзяць мае, толькі чамусьці прыхоўваюцца. Зараз думаю, ці не з-за таго ж падсвядомага рамяства выжываць. Ад студэнтаў «без падрыхтоўкі» куды менш патрабавалася, чым ад выпускнікоў музычных школ. Хтосьці разумны падказаў не высоўвацца.

Сярод групы Ёрш завяла сяброўку, запрашала ў свой дом, а тая прычэпам цягнула і мяне за сабой. Уклад сям'і нам падаўся не тутэйшым. Але зусім не саўковай заможнасцю, якую, працуючы ў гандлі росквітным для краіны Саветаў часам, можна было лёгка арганізаваць. Уражвала не наяўнасць мэблі чэшскай вытворчасці, дываны і крышталь, не пачастунак, які падаў на жостаўскім падносе малодшы хворы Людзін брацік-інвалід. Хоць растваральная кава толькі-толькі з'явілася ў дэфіцытным асартыменце, усё ж не дацягвала да цуду. Ні сервелат, ні салямі, ні зялёны балгарскі гарошак «GLOBO», ні той смачны жоўценькі маянэз у шкляных слоічках пад закруткай не маглі асабліва ўразіць. Мова, выхаванне, паводзіны, адносіны між сямейнымі, усведамленне сябе значнай, годнай адзінкай свету (гэта пры тых жа ўмовах што і ў нас?!) — здаваліся незразумелымі. Усё было інакшым, індывідуальным, не агульнапрынятым, не тыповым. Прытым мы ведалі: бацька Люды працуе шафёрам камунальнай гаспадаркі на палівачнай машыне. Падмятае і мые адзіную ў горадзе вуліцу Маладзёжную. І вось якім зараз бокам прыстасаваць да гэтай сям'і вунь таго адчайнага і закончанага славяніна-пралетарыя, які снуе на аранжавай палівачнай бочцы туды-сюды ўздоўж Дзвіны, мы не зналі. Ад майго бацькі перадалося мне вострае адчуванне крыві, да таго, у дзяцінстве я бывала ў падобных сям'ях… Па

маці Ёрш выходзіла пародзістай габрэйкай. Што сама Люда, што мама — Фаіны Ранеўскія. І баскетбольным ростам, такім рэдкім у той, не акселерацкі, час, і магутнай паставай, і неардынарнасцю знешняга выгляду, і бліскучай здольнасцю тонка парыраваць на хамства, і жорсткай, непаслухмянай грывай валосся, і кранальным — на палову твару — носам, і вачамі, апраўленымі цяжкімі чарапашкавымі павекамі, і позіркам, напоўненым філасофскім смуткам і іроніяй…

Ужо на другім курсе Люда са сціплай няўклюднай школьніцы раптам ператварылася ў супермадам. Незаўважна, але грунтоўна заняла сваю нішу. Яна стала самай сапраўднай фарцоўшчыцай. А мы карысталіся яе паслугамі. Ёрш прыносіла ў гуртжытло торбу з моднымі блузкамі — з усіх пакойчыкаў наляталі цікаўныя, ірвалі з рук, нягледзячы на нятанны кошт — сорак пяць рублёў, пры стыпендыі трыццаць. Яна апранула дзяўчат. Калі хтосьці з наіўных дапытваўся: «Дзе ты бярэш?!», Ёрш усміхалася ўласцівай толькі ёй, загадкавай, крыху млявай усмешкай і маўчала. Потым знаходзіўся хтосьці, здольны наіўнаму ціха патлумачыць: «Ты што, не ведаеш? Яна з палякамі жыве». А да наіўнага ўсё роўна не даходзіла, як гэта можна жыць з палякамі і чаму з такога жыцця атрымліваецца модная прыгожая вопратка. Ёрш паказвала сяброўцы маленькі нататнічак са спісам нязвычных імён:

Ежы — 10 р., калготкі, крэм.

Тадэвуш — 5 р., памада, касметычка, станік.

Янак — 15 р.

Збігнеў — парасолька.

Люда перафарбавала ў персікавы колер свае валасы. Ад фена і замежных шампуняў, чаго пакуль што не мелі нашы дзяўчаты, яны рабіліся пышнымі, як у артысткі. Ёрш насіла маленечкую дамскую сумачку — мара нашых модніц — і складны парасончык. Праз хуткі час такімі парасонамі і радыкюльчыкамі забяспечыць яна ўсіх жадаючых…

Давялося-такі нам дазнацца, якім бокам стасуецца «глава сямейства» да свайго гнязда, як праяўляецца яго неўтаймаваны пралетарскі дух. Познім вечарам, утойваючы ад вахцёркі, Ярша правялі ў гуртжытло, збіраліся толькі паслухаць прыгоды ды разбегчыся. Свае доўгія дужыя ногі, афармленыя ў модныя гіпюравыя калготкі і не менш модныя туфлі сорак першага памеру, яна закруціла ледзь не ў тры вузлы — па патрабаванні якогась негалоснага этыкету, прысеўшы на казённы табурэт. І адразу бедны пакойчык гуртжыла ператварыўся ў салон. Пры ўсёй эксцэнтрычнасці Ёрш заставалася сапраўднай да апошняга атама, жывой, эмацыянальнай, з гучным смехам, моцным голасам. Ёрш — заўсёды віхура. Раптам яна разгаласілася: жаласна, надрыўна. Так непрывычна было глядзець на трэмала яе плячэй, на сапылі і слёзы, акуратна і памінутна выціраемыя тоненькай, прыгожай, з вышыванкай па ражках, насовачкай. Дома бушуе п’яны бацька, мамка хаваецца ў суседзяў, хворы брат босым на вуліцу выбег, а ёй няма дзе начаваць… Ледзь супялі. З Ярша пёрлі слёзы і крыўда ўперамешку з рогатам, калі ўспамінала бацькавы вычварэнні, потым зноў пачыналася істэрыка: «Я тваю Чайку з балкона шпурну! — ён так маю Чапу (пакаёвая сабачка) заве». Карацей, як ва ўсіх нармальных, здаровых савецкіх сем’ях. У знак салідарнасці Ярша мы яшчэ больш палюбілі.

У маім жыцці пасля размеркавання і раз’езду Ёрш з’яўлялася знянацку і бурна.

Уступныя экзамены ў інстытут: мнагалюднае фае, пасярод круглай, як арэна цырка, залы Ёрш падбягае да мяне, кідаецца ў абдымкі, задзірае маю клёшную сукенку да вушэй — правярае, ці праўда без шпаргалак паступаю. Тут жа, не мігнуўшы вокам, падняла сваю спадніцу — во як трэба на экзамен узбройвацца! Сцёгны Люды ад калена да трусоў пакрэслены формуламі пабудовы двайной дамінанты, павялічаных септакордаў, спараджэння трытонаў… Яе старэйшы брат здаваў выпускныя гэтай жа навучальнай установы і тым летам дэбютаваў на «Славянскім

базары», тады яшчэ — конкурс польскай песні, у якасці вядучага. Пасля ён стаў шоуменам саюзнага маштабу, але чамусьці пад новым прозвішчам.

Вакзал, мітусня, зноў Ёрш. Яркая сукенка ў белы гарох па чырвоным полі на васьмімесячным жываце, з ёй дзяўчынка гадоў пяці. Прыехала з дачушкай у Віцебск пайграць у «Марскі бой» на аўтаматах: «Прывітанне! Намяняй мне хутчэй пятнашак!» Яны гадзіны паўтары на вачах зачараваных пасажыраў весела і гучна бамбардзіравалі віртуальныя эскадры эсмінцаў…

## «Супер ж…»

Кагосьці выправілі на першы паверх да вахцёркі патэлефанаваць на «03». Галка істэрычна запатрабавала пілку з нажнічкамі, яе скруцілі спазмы з прыступамі вострых колікаў у правым баку жывата — складалася падазрэнне на апендыцыт: кусаючы ад болю вусны, вёрткая, як гімнастка, яна дацягвалася да ступняў — глянцавала пазногці, выштукоўвала педыкюр: а раптам доктар — мужчына?

Не! Галка ўсё ж сапраўдная «супер ж…» (жанчына), хоць і не любіла сваю недарэзаную мянушку, цярпець не магла праз яе недавершаную шматсэнсоўнасць. Натхнёны жаночай прыгажосцю віяланчэліст Фелікс Агаркаў у душэўным надломе пахмельнага сіндрому, падчас лекцыі ўвекавечваў сцізорыкам на драўляным стале сваё ўражанне, змушаны спыніць творчы працэс на літарах «супер ж…» (яго паклікалі да дырэктара), Так і пакінуў «выяву» незавершанай. За дэбош і няспыннае п’янства яго менавіта ў той дзень выключылі са спісу навучэнцаў. Казалі — змусілі пайсці ў войска, неўзабаве выправілі ў Афган. Больш пра Фелікса я нічога не чула. А літара «Ж», крыху заваленая, бы ў прадчуванні ўзлёту, так і не дачакалася астатніх сяброўак, затое тры кропкі, намёткі будучых літараў, з цягам часу дзякуючы невядомаму сааўтару набылі тры вертыкальныя рысачкі,ператварыўшы іх

у клічнікі, дадалі твору пафаснае шматсэнсоўе, праз якое Галка і не прыняла мянушку.

Хто сказаў, што жанчыне неабходна чытаць разумныя кнігі, звяртаць увагу на ацэнку педагогамі сваіх паводзінаў, грызці навуку да страты зроку, да скруту мазгоў перажываць свае не лепшыя ўчынкі? Няўжо мала прыкладаў з жыцця: каму-каму, а жанчыне зусім — «горе от ума». Разумныя мала каму патрэбныя.

Супраць кожнага выкладчыка ў Галкі меўся цэлы арсенал зброі, ім карысталася тонка і спрактыкавана. Пасля тыднёвых вакацый, якія расстаралася сама сабе дзеля праводзін каханага Васі ў войска, Галка з’явілася на лекцыю па этыцы да Ступаковай, тая павольна павяла арыстакратычным профілем у бок лайдачкі-прагульшчыцы, высакамерна ўскінула бровы, чытай: «абуральна!», а Галя, дэманстратыўна падкрэсліваючы паслушэнства, з папераджальным нахілам галавы ўручыла педагогу медыцынскую даведку аб прыналежнасці студэнткі такой і такой да пачэснага атрада донараў краіны. Перад ненавісным аркестрам яна не шкадавала падпілаваць струну каштоўнай скрыпкі, каб тая ў разгар кадэнцыі дзынкнула, разлятаючыся ў розныя бакі. На Галіным твары «шчырае» здзіўленне: сама напалохалася ад «нечаканасці»! Калыхнуўшы россыпам залатых локанаў перад вачамі хлопцаў (мужчын!) чатырох курсаў, Галка пачынае збіраць ноты, рэчы — «зграбацца з рэпетыцыі». Пакідала аўдыторыю няспешна, паводзячы ўдала замаскіраванай адсутнасцю клубоў, на адыход мелькам зыркне вільготным лязом жывога пажадлівага позірку на апошні рад пультаў, за якімі дзьмулі ў муштукі шыракаплечыя «духачы».

Спазнілася сказаць, што жыла я на першым сваім курсе ў адным пакоі з Галкай і яе сяброўкай Наташай, якраз выпускным для іх курсам. Жыла па той простай прычыне, што не мела пастаянных сяброўскіх прыхільнасцяў, мяне перакідвалі з пакоя ў пакой, вызваляючы ад перагружанасці блатныя і караючы мною, як баластам, праштрафленыя, такім вось нядобранадзейным і

аказаўся пакой Галкі з Натахай, куды дабавілі мяне як лішняга жыхара, чаго не дазвалялі ў адносінах да іншых выпускнікоў.

Нярэдка па дарозе на свой пяты паверх да нас забягалі аднакурсніцы маіх суседак сёстры Люся і Таня Муха, яны жылі ўдваіх у блатным трохмесным пакоі.

Неяк Наталля зварыла смачны боршч, прыйшлося запрасіць і Муху з Люськай, бо тыя сядзелі на галоднай дыеце пасля пакупкі модных італьянскіх боцікаў на танкетцы ў сямнаццаць сантыметраў вышынёй. Першы раз абуўшы, Муха страціла прытомнасць, бо не разлічыла дальнасць паходу са сваімі фізіялагічнымі магчымасцямі цярпець мяжовы ўзровень болю. Калі лыжкі з баршчом накіраваліся да вуснаў, Галка пачала без задняй думкі абмяркоўваць, колькі б дзён яны з Наташай маглі эканомна есці боршч, калі б сёстры адмовіліся ад прапановы. Люська папярхнулася, моцна закашляла і, падзякаваўшы, адклала лыжку, Натка пачырванела, здзіўлена заміргала вачамі — не знайшла, як выйсці з няёмкага становішча, а Муха ад нечаканасці правалілася ў дзірку між шафай і сталом: яна памятала пра трохножжа табурэціка, на якім сядзела, але ў крытычны момант не здолела ўтрымаць неабходнага балансу — страціла раўнавагу і аказалася на падлозе дагары нагамі, шлэпкі яе бессаромна выставілі напаказ напаўадарваныя падэшвы. Пасля доўгіх вечароў сварак і спрэчак з Наташай Галка шчыра так і не змагла зразумець, што ў яе словах усіх збянтэжыла.

Бачылі б вы ранішні туалет (драбнавата), рытуал, калі яна пачынае чысціць пёркі. Галя сядала на краёчак казённага металічнага ложка — танюткая, бы трасцінка: панцыр сеткі амаль не прагінаўся пад яе вагой: ножка за ножку, вусны старанна шукаюць у люстэрку пераканаўчую пячатку элітнасці; Галя доўга-доўга любуецца сваім адлюстраваннем перад тым, як пачаць ашчадна і скрупулёзна даводзіць да шыку кожную рысачку твару. Шкляная гладзь перахопіць бесперапынны рух лёгкіх пластычных рук, адправіць у глыбіню неабмежаванай віртуальнай прасторы. На

фоне замілаванай усмешкі, млявай павалокі паўапушчаных веяў адточваецца адрасны позірк камусьці нябачнаму, дзеля каго і ствараецца ўсё гэта вядзьмарства.

Самае неверагоднае ў тым, што Галка зусім не прыгожая… Калі змывае касметыку, залізвае ў хвасток валасы, кідаецца ў вочы, што лоб яе ў шырыні смешна перабольшвае ніжнюю частку твару, надае яму падабенства да перавернутай дуліны. Галка не прызнавалася ў існаванні школьнай мянушкі Лабагруша, бо наогул ніколі школу не ўспамінала з-за непрыязнасці да яе. У школе жорстка патрабавалі апранацца і быць «як усе»: шэрымі, непрыкметнымі, бясполымі, таго ж дабіваліся і ад студэнтаў, але, трэба сказаць, без асаблівай дбайнасці з боку дырэкцыі — больш для праформы і пратаколу. Таму Галіне ўдавалася лавіраваць між патрэбай натуры і рэгулярнымі вымовамі, незалікамі, пагрозамі і пакараннямі і ўсё ж заставацца ў ліку навучэнцаў.

Ніколі ў жыцці Галка не згадзілася б прызнаць адсутнасць прыгажосці ў сваім абліччы ці наяўнасць якіх хібаў постаці. Ёй падабалася ў сабе ўсё: і буйнаваты з гарбінкай нос, і вуглаваты авал твару з жоўтым адценнем скуры, яна шмат паліла, маленькія, бы мышыныя, вочкі, бляклага колеру пялёсткаў адцвілых валошак, і сапраўды ніяк нельга было залічыць у загану; апраўленыя штучным аксамітам чэрненых веяў, яны ператвараліся ў мутныя віры — сілкавалі позіркам самыя патаемныя, самыя нястрымныя фантазіі мужчынскіх жаданняў. Талія ў Галкі не вызначалася, даволі шырокія, пры росце метр пяцьдзясят, плечы плаўна пераходзілі ў пляскаты таз, а саломіны яе крываватых, невысокіх ног мацаваліся да «лыжаў» трыццаць восьмага памеру. І нягледзячы на ўсё гэта, Галіна адыходзіла ад люстэрка феерычнай, чароўнай, надзвычайна абаяльнай паненкай. Адыходзіла яна толькі пасля таго, як кожная валасінка зойме сваё месца. Выдатны густ давяршаў варажбу над вобразам: не заўсёды багатыя, але абавязкова шыкоўныя спаднічкі, блузкі, сукенкі Галка прымушала максімальна слугаваць на прадмет сваёй прыгажосці.

Грубавата-праставатая Натаха з Варкуты старалася хоць бы ў чым пераўзысці сяброўку і не здолела ацаніць сваёй годнасці іначай, як пахваляцца цнатлівасцю. Часцей за ўсё яна разбаўляла гэтай звесткай не ўпершыню пераказаную байку пра аўтакатастрофу, што здарылася з ёй у школьныя гады, і ўжо праз даўнасць часу, па справядлівасці, «папутная звестка» магла б лічыцца сумнеўным фактам, аднак Наталлі відавочна падабалася ўспамінаць, як у момант спаўзання машыны са схілу пагорка мужчыны-буравікі жартам лапалі яе з аднакласніцамі і смяяліся: не так жыцця шкада, як цэлак непачатых. Натка абводзіла ў гэты момант вострымі шчылінкамі хітраватых вачэй усіх прысутных.

Галка з гонарам насіла тытул жанчыны ад шаснаццаці гадоў, яна зведала таямніцы інтымных адносін, у яе гутарках гучала незнаёмае слова «хінін» — загадкавае, незразумелае і палохаючае. На пытанні Мухі — ну як, страшна, балюча? — Галка для важнасці вытрымлівала тэатральную паўзу, інтанацыя голасу набывала глыбінны грудны прыглушаны нюанс, набліжаўся яе час. Гнуткая, бязважкая, паветраная істота выходзіла на паляванне — пачынаўся ўлоў у лабірынты яе ўласнага свету.

Як напалохалася яна аднойчы ў час прыезду Васі на пабыўку. Ён, тады ўжо слухач кафедры ваеннай хірургіі, вырваўся з Піцера (Ленінграда), каб адну ноч правесці з каханай… Раніцай Галка з шалёнымі заплаканымі вачамі бегала па дактарах. Памыляецеся, думаю, у здагадках. Не «залёт» — яе занепакоіла тое, што не адчула аргазму. Здарылася штосьці страшнае! Яна чула пра такое: шмат жанчын фрыгідных, але гэта не для яе. Трагедыя! Смерць! На крылах вярнулася да Васі. Гінеколаг здагадалася запытацца, колькі разоў Галіна мела інтымныя адносіны за апошнюю ноч, пачуўшы адказ, здзівілася:

— І сіл хапіла прыйсці сюды?! Ідзіце адпачніце — усё будзе па-ранейшаму.

Быў першы дзень красавіка, ключа на акне не знайшлося, што адно ўжо насцярожвала — мае выпускніцы ў гэты момант

павінны былі іграць генеральнае праслухоўванне праграмы па спецыяльнасці. У пакоі з маім прыходам запанавала напружаная цішыня: штосьці ўтойвалі.

— Дзе Галка?

Адмазаліся:

— Дамоў з'ехала.

Праігнаравала залік выпускной праграмы?! Пасля дазналася: Галю ў тым становішчы не спыніў бы і сам дзяржаўны экзамен.

Вася прыслаў ліст: «Галачка, прабач, буду любіць толькі цябе, але так здарылася, я павінен… яна чакае дзіця… ты мая самая-самая…» Ліст Галка не дачытала да канца. Яе ледзь выцягнулі з антрэсолі пад столлю. Галка — дзюймовачка, аднак у той праём нават з яе габарытамі ўціснуцца — уявіць праблематычна! І зараз не разумею, як яна там апынулася?!

Адпаілі, адкачалі. Са словамі: «Сучка! За валасы да доктара зацягну! Такім чынам я і сама Васю даўно б акруціла. Пачвара!» — пакідала неабходнае ў сумку і рванула на папутку. Галка ні хвілінкі не сумнявалася ў шчырасці пачуццяў свайго Васі да сябе і ні на кроплю яго не вінаваціла, загадзя і бездакорна апраўдваючы любы яго ўчынак.

— Не памятаю, як даехала дамоў. Аднак перад візітам да свякрухі марафет навяла адпадны! — пасля распавядала Галка. — Пазычыла ў суседкі футра, боцікі — мне ж не было калі разважаць пра гардэроб, у чым стаяла, у тым і паехала. Заяўляюся да Васевай маман, бы нічога не здарылася, усміхаюся, сутаргай сківіцы зводзіць! Як справы? Як Васілій? Маман збянтэжылася: «А ты ад Васі ліст не атрымала?» — «Не», — кажу. «Вася жэніцца». Ну, я не стала час марнаваць: кінулася на вакзал — цягнік неўзабаве адыходзіў. Маман за мной! Штосьці крычыць — я не слухаю. Каб я крышачку пачакала — яна б здалася, не вытрымала, раскалолася б. Ну ідыёты!!! Нікога ў яго няма — там у канцы ліста падкрэслена было: «1 красавіка. Дзень смеху!» Толькі я

ўжо на першых радках зрок страціла. Маман сваю ён папярэдзіў: калі ліст не атрымаю — то пажартуе яна і адразу ж пасмяёмся, толькі я не стала ні чакаць, ні слухаць.

Галка разумела гумар, нават такі чорны, які мог скончыцца трагічна. Хоць, напэўна, Вася добра ведаў сваю каханую: Галка дасць сабе рады!

Перад самым выпускным Галіна ўсё ж сарвала мазоль з пальца па прычыне нерэгулярных заняткаў на скрыпцы. На прыстойную адзнаку і сэнсу не было марнаваць надзею. Не тое хвалявала Галіну. Старшынёй камісіі прыслалі з кансерваторыі даволі маладога прафесара, мужчыну прывабнага і цікавага. Адчаю было праз меру! Гала парыла, «кампрэсавала», масажыравала свой палец, накладала мазі: рана зацягнулася, але на рэпрызе апошняй п’есы тоненькая скура не вытрымала, лопнула. На дэку пырснула кроў, расцяклася па грыфе — пальцы слізгалі, юзалі і зліпаліся. Галка атрымала свае законныя тры балы, на вышэйшае яна ніколі і не замахвалася, хоць, казалі, менавіта прафесар гатовы быў дадаць бал, ды не стаў пярэчыць помсліва наважанай экзаменацыйнай камісіі. Галка атрымала глыбокую душэўную траўму праз такі канфуз.

На святочнай вечарыне ў рэстаране прафесар не адыходзіў ад Галіны.

Мы з ёй не лічыліся сяброўкамі і сустрэліся выпадкова праз шмат гадоў, Галку я знайшла такой жа асляпляльнай, магічнай, загадкавай жанчынай. Яна на той момант была ўжо двойчы маці, але я не адшукала і намёку на пабагацелае амплуа — толькі жанчына! І ніякай лішняй інфармацыі. На пытанне пра дзяцей Гала махнула рукой:

— А-а-а! Аздабляем чужы кветнік.

А як Вася? Яе чароўная ўсмешка азначала: усё супер!

## Не прыспешвай, верасень, хады

Пара ішла, нібы хаваючыся, праз высокае быллё кармавой кукурузы ўздоўж дарогі, якая агінала край лесу. Злоснік лёгка мог абвінаваціць Восеня ў баязлівасці, ён сам адчуваў гэта тым больш, што побач моўчкі след у след спяшалася Руніта — насуперак яго жаданню выйшла ў праважатыя аж да цэнтральнай вёскі калгаса, адкуль толькі і хадзілі аўтобусы ў Полацк. Насуперак жадання — не адпаведныя словы. Хоць Восень і чыстасардэчна адгаворваў яе ад вандроўкі, не жадаючы даставіць дзяўчыне непрыемнасці, — за гонар было яму, што Руніта пакінула сталовую, куды хутка вернуцца з поля студэнты на абед, пайшла праводзіць яго, не пабаялася выкладчыкаў. Па той прычыне і збочылі са сцежкі ў быльнік — па ёй магла ў любую хвіліну праехаць машына Басіка, так звалі студэнты педагога, які пару дзён назад прыняў другую змену, чым вельмі здзівіў групу. Ніхто не чакаў і не жадаў яго прыезду на гэты год, ведалі: Басік, як загадчык факультэта, звычайна суправаджаў першы курс, каб пазнаёміцца, прыгледзецца, паназіраць за новымі студэнтамі: «Другі год, блін, падрадзіўся на адну групу!» Басіка баяліся, як ваўка, усе, акром вучняў яго класа. Ніхто не жадаў бачыць яго куратарам на бульбе зноў.

Першую палову месяца ў калгасе адказ за студэнтаў нёс Фэлік, сучасны саракагадовы мэн, выкладчык-піяніст. Нават на копку бульбы апрануты ў джынсавы — у тыя гады супердэфіцытны — прыкід.

У семдзесят трэцім, які залічыў групу ў лік навучэнцаў, мода трымалася татальна і ўчэпіста. Дужа вольніцы не дапускала. Шырокія клёшы штанін з шырачэзным, ледзь не пад пахі, поясам, як у ваўка з мульціка «Ну, погоди!», дабраліся да вясковай моладзі. Пакуль правінцыйныя хлопцы вучыліся прытальваць кашулі ўручную, выпускаць паверх пінжакоў белыя каўняры з

падоўжанымі вузкімі ражкамі — гарадскія і студэнты паспелі пераапрануцца ў нагавіцы дудачкай, не ніжэй шчыкалаткі і шырокія, доўгія, светлага тону пярэстай афарбоўкі пінжакі — кашуль пад імі зусім не прадугледжвалася: у фарцоўшчыкаў моднікі набывалі нябачаную да той пары дэталь вопраткі — вадалазку, альбо бітлоўку. Наогул, увесь гэты прыкід быў наспяваны «ліверпульскай чацвёркай». Ён да вёскі так і не дайшоў, бо хутка і паўсюдна змяніўся джынсавай хваляй. Магчыма і па той прычыне, што дудачкі з шырокім пінжаком пасавалі інтэлектуальнай эліце і зусім не спадабаліся ні механізатарам, ні заатэхнікам. (У штосьці падобнае апрануў Васіль Шукшын свайго Ягора Пракудзіна з «Каліны краснай» у першы працоўны дзень.) Вадалазкі палюбіліся савецкім грамадзянам як вельмі зручная вопратка пад любы жыццёвы выпадак, яны засталіся па-за модай, назаўсёды прапісаліся ў гардэробах.

Фэлік, знешнім выглядам і паводзінамі роблены пад моладзь, лічыўся сямейным. Ён у той час адчуваў сябе на сёмым небе па многіх пазіцыях. Кідок у кар’еры: без адпаведнай адукацыі, з недахопу кадраў яму пашчасціла праз знаёмствы атрымаць месца ў нядаўна адкрытай музычнай навучальнай установе, аб чым нават марыць не пасягаў. Пераезд з правінцыйнага гарадка, дзе працаваў у невялічкай музычнай школцы, у горад — другая прычына задаволенасці сабой. Для сям’і выбіў інтэрнацкіх два пакоі, паспеў аформіць паперы на асобную каапэратыўную кватэру. Зноў жа, адказная камандзіроўка ў калгас, не надта жаданая іншымі выкладчыкамі, — залатая жыла для Фэліка, кручанага пад негалосна прыняты лад адносін у грамадстве. Тут можна на зіму гароднінай запасціся, тут свежаніна з-пад нажа, з першых рук малочныя прадукты: а паляўнічых расшукай — футра жонцы як дарма!

З навучэнцамі Фэлік трымаўся дэмакратычна, па-сяброўску: са старэйшымі хлопцамі — зусім запанібрата.

Да Восеня вецер даносіў лёгкі водар валасоў Руніты, узмоцнены душным вільготным паветрам спякотнага сонечнага дня і спатнелай ад шпаркай хады галавой Руніты; чамусьці ад яе валасоў заўсёды пахла вадзянымі гарлачыкамі. Яму зусім не хацелася ехаць. То быў вызвольны, паратоўны выхад — хлопцы кантрабасісты параілі яму хутчэй зграбціся з калгаса ад граху далей. А зрабіць гэта можна толькі прыкінуўшыся хворым — тады спатрэбіцца ліпавая даведка, альбо падмануць выкладчыкаў: прыслалі, маўляў, павестку з ваенкамата. Пакуль скончыцца бульба, пакуль разбяруцца — туды-сюды, і павестку ён сапраўды атрымае. Пра падман не ведаў ніхто, акрамя сяброў, не ведала і Руніта. Яна па жыцці ішла самнамбулай, аб тым становішчы, што тут закруцілася, не здагадвалася.

Сапраўды Восеня чакала войска, гэтым жа курсам. Палову іх патоку ваеннаабавязаных хлопцаў прызвалі яшчэ вясной першага курса. А яму пашанцавала скончыць навучальны год і зноў сустрэцца з Рунітай. Павесткі пакуль не было, і чаму б Восеню не пабалдзець разам з аднагрупоўцамі на бульбакопным дэсанце? Чаму не паваляць дурня да кастрычніка, а магчыма, і да самага лістапада, не павесяліцца ад душы перад адпраўкай у армію? Ён мог яшчэ столькі часу бачыць Руніту. Восень за летнія вакацыі выракся надзеі ўзнавіць рамантычныя адносіны з ёй, азмрочаныя і збаёданыя ў канцы першага курса выпускніком-барабаншчыкам, які так нахабна пас Руніту ўвесь год. Перадаваў у буфеце, у гардэробе перахопліваў нумарок, дапамагаў апрануць паліто, без чаргі прапускаў у сталовай; неяк сурова і сярдзіта, быццам яна вінаватая ў тым, выказваў захапленне, кідаў кампліменты. Нелагодная, крыху дзікаватая Руніта ў сваёй рассеянасці і адчужанасці ўвагі не надавала яго заляцанням. І да Восеня, аднак, дужа не хінулася, трымала з ім дыстанцыю, хоць увесь год лічылася яго дзяўчынай… Аднойчы ўсё ж Руніта пайшла прагуляцца з клятым барабаншчыкам асветленай набярэжнай над вечаровай Дзвіной. Выпускнік ад хвалявання ўключыў пятую перадачу і,

не збаўляючы хуткасці, абег горад па перыметру, апамятаўся перад дзвярыма іх студэнцкага гуртжытла, яны развіталіся і страцілі цікаўнасць адно да аднога. Восень у той вечар першы раз у жыцці, не лічачы маленства, плакаў.

Верасень вярнуў Руніту, ды вось зноў адбірае. Верасень пераблытаў усе яго надзеі і жаданні прымусовым, варожым, нават містычным вірам. Не пакінуў яму выбару, адно: падпарадкавацца і чакаць.

Перад тым шумны ад'езд у калгас на другім курсе, мітусня на пляцоўцы перад вучэльняй, пераклічка ля гуртжытла азмрочыліся адсутнасцю Руніты. Ніхто не ведаў, што здарылася: яна не з'явілася ў дзень адпраўкі на бульбу. Выгляду Восень не падаваў (яны не паміраліся яшчэ пасля вясновай разлукі і летніх вакацый), але прыслухоўваўся да кожнага слова аб ёй.

З дзённіка Руніты:

«У пятніцу ранкам нас сабралі на сход. Едзем у калгас! Ура! Адпусцілі дамоў па спецвопратку».

«У панядзелак раніцай забягаю ў гуртжытло — ні душы! Пахадзіла па апусцелым калідоры вучэльні — нікога! Зазірнула ў кабінеты, і тут рэха данесла дробат абцасікаў, мяне дагнала выкладчыца дырыжорскай тэхнікі Агрэста Янаўна.

— Чаму не ў калгасе, Руна?

— Вось я… толькі з дому…

— Захварэла?

— Не.

— Аўтобусы не хадзілі?

— Запамятала час ад'езду.

— Па калгасах групы развезлі ў нядзелю.

Бедная Агрэста спачувала мне, хвалявалася, не магла дацяміць, як можна было, седзячы на сходзе, не ўлавіць самага галоўнага сэнсу, дзеля чаго сход збіралі. (А я магу чатыры разы запар спытаць: "Каторая гадзіна?" — і "не пачуць" адказу.) Заадно жартам пажалілася мне на загадчыка факультэта Басіка.

— Ведаеш, мы ледзь не пабіліся з ім на педсавеце. Хацела забраць цябе ў свой клас па дырыжыраванні — не аддаў, будзеш яго студэнткай.

Мне было прыемна чуць такую навіну».

Руніта не жадала стаць навучэнкай Агрэсты, хоць вынікі выкладчыцкага майстэрства вабілі і яе: лепшыя дырыжоры — студэнты Агрэсты Янаўны, безумоўна. І візуальна, з першага погляду, вылучыла, упадабала Руніта гэту капрызную, прыгожую маладую жанчыну з шалёным характарам, аднак самакрытычна адчувала: іх узаемнай сімпатыі не хопіць на гады заняткаў. Асноўная метода Агрэсты трымалася на штодзённай, паслядоўнай працы, увазе, паслушэнстве, выкананні яе жорсткіх патрабаванняў, чаго неарганізаваная, незасяроджаная Руніта гарантаваць не магла; яе асаблівасцю была стыхійнасць, усплёск эмацыянальнай незалежнасці, моц самастойнай творчай думкі: траціць жа прыхільнасць грознай выкладчыцы было б надта небяспечным.

Басіка Руніта ўнаравіла з выпускнога класа музыкалкі. Той раённую школу наведаў з шэфскай дапамогай. Трапіў на яе ўрок як да перспектыўнай вучаніцы, слухаў шостую санату Паганіні, не ўтрымаўся: падскочыў, адбіваў такт нагой, выроўніваў рытм, шчоўкаў пальцамі, падганяючы тэмп, расчырванеўся ад эмоцый, падпяваў мелодыю нястройна, гучна, як здольны інтаніраваць толькі абсалютнікі з непастаўленым голасам. Рукаво дрэнна адпрасаванага пінжака адпаролася, нагавіцы пухірамі выпнуліся на каленях. Мужчына гадоў трыццаці трох выглядаў безгаспадарскім, недагледжаным, але праз шкельцы яго акуляраў у залацістай аправе глядзелі такія жывыя, такія ясныя вочы, блакітныя як неба, адкрытыя, задзірлівыя, нераўнадушныя! Басік запомніўся Руніце. І ён ад першых хвілін зацікавіўся навучэнкай: «Эмацыянальная. Ведае, што іграе. Тонка адчувае музыку», — запісаў у сваім сшытку.

Прыхільнасць да любімых студэнтаў Басік праяўляў неяк жартаўліва-здзекліва. Вось і вынікі ўступных экзаменаў наўмысна

зацягваў, доўга не аб'яўляў спіс навучэнцаў, якія прайшлі толькі першае, але самае галоўнае выпрабаванне па сваёй спецыяльнасці: ігра на інструменце, тэорыя музыкі, сальфеджыа — і маглі адчуваць сябе паўнацэннымі студэнтамі.

Басік з усмешкай падышоў да Руніты на калідоры.

— Чакаеш? Чакай, чакай! Вынікі збянтэжаць… Пайшла б лепш у кінатэатр — развеялася.

З дзённіка:

«Нас, абітурыентаў, паклікалі ў актавую залу. Я так хвалявалася! Падалося, Басік проста здзекуецца. Ён зачытваў прозвішчы, аддаваў лісты на рукі. Першае прозвішча — "два", другое прозвішча — "два", трэцяе — "два", на чацвёртым лісце ён спыніўся, агледзеў залу, кашлянуў, маўляў, няма сіл далей чытаць. Чацвёртай і была я. Аддаў паперу моўчкі. Як не ўпала? На мяне спачувальна глядзелі дзясяткі пар вачэй. У экзаменацыйным лісце стаяў найлепшы бал — чатыры. У нашай групе ніхто не атрымаў вышэйшага бала, ды і чацвёрак ўсяго нічога. Кажуць, наш паток не ўдаўся на асаблівыя таленты — "міжнароднікаў" у нашай групе зусім няма».

Агрэста прыняла ўсмешку ад успамінаў Руніты на свой адрас, нібы ўдзячнасць за намер забраць у клас. Руніту распірала радасць ад навіны: нарэшце яна будзе студэнткай Басіка. Трапіць у яго клас па спецыяльнасці не свяціла. Басік прыехаў з Кіеўскай кансерваторыі, за прафесіянальнымі плячамі меў выдатную ўкраінскую тэхнічную школу бегласці, якая давала магчымасць узяцца за «палатно» любой складанасці. Басік з цяжкасцю прызнаваў мясцовую ўмоўную падрыхтоўку, імкнуўся браць у свой клас толькі землякоў. Пальцы ўкраінскіх музыкантаў мітусіліся над клавіятурай пылам, а вось адчуць і зразумець, тым больш перадаць думку твора праз сваю душу здольнымі былі адзінкі, і яны вучыліся не ў Наваполацку.

Агрэста Янаўна са сваім мужам-кампазітарам суправаджалі іх групу ў калгас мінулым годам. Нядаўнія выпускнікі кансервато-

рыі, муж і жонка, розныя характарамі і выглядам: неба і зямля, чорнае і белае, дзень і ноч. Басік з'явіўся і тады ў другую змену, два першыя тыдні група займела шчасце ўлюбіцца ў кампазітара. Яго любілі студэнты да візгату, да слёз, да эйфарыі. Агрэсту таксама любілі, асабліва мужчынская палова студэнтаў, яна яркая, вабная, смуглявай цыганскай пароды. Агрэсту паважалі ўсе за прафесіяналізм, за адказнасць, але гэта зусім іншае. Кампазітара любілі, як любяць роднае, сваё: безумоўна, безаглядна. Яго светлыя вочы, абрамленыя пышнымі веямі, лучыліся і зіхацелі. Дзіця дзіцём! Каб хоць крыху прыструніць студэнтаў, прыходзілася яму роблена хмурыць бровы і няўдала, праз сілу, стрымліваць ад усмешкі пульхныя, нібы жаночыя, вусны, хаваючы заўсёды добры настрой, ад чаго вусны дрыжэлі і яшчэ больш дадавалі кранальнасці ўсяму яго абліччу. Тады, на бульбе першага курса, трое студэнтаў з'ехалі без дазволу ў суседнюю вёску ў краму па штосьці смачнае. Кармілі ў калгасах простай, здаровай, сытнай ежай, але здураны арганізм хутка пачынаў патрабаваць апрычонкаў. Вось студэнты і папрасіліся на конную брычку да аднаногага дзеда, каб той паказаў магазін. Набралі ў лаўцы цукровага сіропу пад бессаромнай назвай «Мёд штучны» — нічога іншага не было — і перасохлых мятных пернікаў, іх вульгарны водар і смак з той пары будзе сімвалізаваць напамін пра бульбакопны дэсант. Вечарам групу выструнілі ў шыхт. Агрэста не стала парадкаваць, аддала аўтарытэт мужу. Па-сапраўднаму расхваляваны да збялелага твару кампазітар выйшаў на сярэдзіну пляцоўкі.

— Вы п-плохо п-поступили! Очень п-плохо! — вымавіў ён і пайшоў прэч.

Раніцай на сцяне вісеў плакат. Жартоўны комікс з вершамі, прыпеўкамі і каляровымі, выдатнага мастацкага густу, карыкатурамі на самавольцаў. Група разам з вінаватымі абрагаталася ад шэдэўра. Бліскучы талент! Вось куды кампазітар скіроўваў энергію, не пушчаную на злосць.

Зімой з заняткаў яго забрала хуткая на аперацыю па выдаленні апендыкса. Хвароба ўскладнілася перытанітам: прайшло часу, пакуль выкладчыка дачакаліся студэнты.

З дзённіка:

«Нарэшце вярнуўся кампазітар! Ён прыйшоў нечакана, ніхто не ведаў, што сёння яго выпісалі з бальніцы, — заходзіць у залу на рэпетыцыю аркестра. Мы застылі ў здзіўленні. Кампазітар падняўся на подыум, даў знак дырыжорскай палачкай — сядайце. Адбылося штосьці неверагоднае! Ніхто з нас не сеў. Як такое атрымалася? Нават не крануліся. Яму прыйшлося разы тры нас абсаджваць, мы глядзелі на яго з такой любоўю! Нарэшце асвяціўся і яго твар прывычнай хітравата-сціплай усмешкай, і тут жа схаваў яе, сціснуў вусны».

Другая змена на першым курсе ў калгасе паказала зусім іншую рэакцыю на магчымую правіннасць. Басік выправіў некалькі дзяўчат, па жаданні, дапамагчы выкапаць бульбу з прыватнага поля брыгадзіра. Пасля працы гаспадыня гасцінна запрасіла адпалуднаваць — справіла стол на сямнаццаць перамен! Такімі стравамі не кожнае вяселле пахваліцца. Выставіла поліўку з сушанымі грыбамі ды клёцкамі, мясныя кручонікі; упараныя ў печы свіныя вушы і хвасты, бліны з мачанкай, сівераную паляндвіцу, рознага гатунку дамашнія кілбасы, бабку заскварануую, яечню з духмянай вяндлінай — аж праз край патэльні, кумпяк у цесцяным кажушку, апеканы пад засланкай, зялёнае бацвінне на рабрыне, калдуны, галубцы з духоўкі, кішка наліўная, засмажаная да чырвонай лупкі, маслякі ў смятане, сыракваша з кропам, квас з брусніц, журавінавы кісель пад мядовыя перапечкі. Наеліся да адвалу! Вылазячы з брыгадзіравага «бобіка», Руніта ўздумала пажартаваць: прайшлася хістка, трымаючыся за плот, на вачах зайздросных аднагрупнікаў. Басік успыхнуў берасцяной распалкай!

— Вас напаілі?! Хто наліваў спіртное?! — ён гатовы быў пешы даганяць машыну брыгадзіра, схапіцца ў загрудкі. Прыйшлося раскрыць нявінны жарт.

З дзённіка:

«Падручнік па атэізму палохаў прыкладамі. “В деревне Шатрово Витебской области Верхнедвинского района фанатичная богомолка-мать зарубила свою дочь топором”. Вось у гэта “змяінае логава сектантаў” і кінулі нашу групу студэнтаў-другакурснікаў на дапамогу калгасу. Такіх прыязных, культурных, добразычлівых людзей, як у той вёсцы, шукаць па свеце заморышся. Быў, казалі, апісаны выпадак калісьці: хворая на галаву жанчына ў прыпадку забіла сваё дзіця. Якое дачыненне да рэлігіі мела тое жудаснае здарэнне, ніхто не ведаў. Для атэізму — самае тое. У гэту вёску і давялося мне адной саматугам дабірацца на пракладных. Як я люблю самастойнае кіраванне ў побыце — г-гы! Проста пяском па шыбіне, я зусім не здольна ўпраўляцца ў жыцці самастойна, лунацік! А вось, гля! Прышчаміла хвост і неяк дабралася: трыма аўтобусамі ды пешшу! Хто б сказаў яшчэ тыдзень назад — не паверыла б».

Групу везлі на абед у кузаве «газона», хтосьці крыкнуў:

— Гляньце, наша Руніта праз поле шыбуе! — загукалі, засвісталі. Руніта азірнулася, пабегла насустрач.

У Руніты не было сяброў, прыязна трымалася з усімі, і да яе хінуліся, нават любілі. Аднагрупнікі ад першых дзён злучыліся ў тандэмы, невялікія гурткі, кожны імкнуўся займець па найлепшаму сябру. Руніта лёгка прапісалася ва ўсіх тусоўках жаданым госцем, ні з кім не звязаўшы сябе абавязкамі цеснага сяброўства. Становішча такое склалася само сабой, хутчэй за ўсё праз тую яе самнамбулістычнасць. Сяброўства змушае выдзяляць аднаго з гурта, дарыць яму прыхільнасць, аднадумства, разам бавіць час. Руніта асобна трымалася. Змалку адчувала вакол сябе жывую прастору, пераступіць яе мяжу ні чужаку, ні блізкім не давала —

адчувала дыскамфорт, нават фізічны боль, калі хтосьці пасягаў на яе адасобленасць. Здавалася, людзі топчуцца па ёй.

На кватэру паклікалі да сябе Зарана з Весялінай. Яны Руніту прымецілі яшчэ ад самых уступных экзаменаў. Спускаліся па лесвіцы ў змрочным настроі ад вынікаў сачынення па рускай мове: насустрач, праз тры прыступкі крок, нясецца дзяўчына з іх патоку: на ёй спадніца, перакручаная вакол таліі, блузка, зашпіленая сікась-накась, на нагах жоўтыя пантофлі з дзіцячага магазіна — яўна самаруч сашчэмленыя на мыску чырвонымі ніткамі ў чатыры столкі. Шчокі гарачь, вочы-гузікі нібы пазычаныя ў плюшавага мядзведзіка. Здаецца, дакраніся — іскрай шыбане! Руніта.

— Што ў вас па рускай? — пытаецца.

— Траякі.

— Ой, добра! Не ў мяне адной. Ёсць яшчэ надзея! — і збегла без увагі да іх.

Зарана пакруціла пальцам ля скроні, Весяліна зрабіла вачамі дуркаватую.

За першы курс прыгледзеліся да яе і нават прырадніліся. За пазухай Руніта не трымала каменя, ніколі не злавала і не жадала іншым дрэннага, яе дурнаватай адметнасцю была нязжытая дзіцячая звычка прамаўляць уголас думкі, якія звычайна людзі прыхоўваюць ад іншых.

З дзённіка:

«Другі год на бульбе, і другі год няма каму гатаваць ежу. Зноў угаварылі мяне застацца на кухні. Злую на сябе за мяккацеласць і прызнаюся: рыць барозны таксама не клімаціць».

Кухонны працэс змушаў прачынацца рана, ісці доўга вуліцай да кладоў, павярнуць за імі, прабаранаваць скошанае поле напрасткі. Можна іншым шляхам — пустой палявой дарогай, яна перпендыкулярам злучала гэтыя дзве асобныя, даўнюю і новую — яўна штучную вуліцу вёскі: ні дрэўца, ні кусточка, толькі канавы абапал дарогі двубоч. Так узнікалі вуліцы ў вёсках

пасля загаду перавезці ўсе хутары ў адно месца: роўныя, бы пад лінейку, нялюбыя былымі хутаранамі, няўтульныя.

Руніта не ўмела добра гатаваць, яе справай было слухаць кухарку, сярэдняга веку жанчыну, строгую, маўклівую.

Канчалася першая змена, Фэлік на развітанне задумаў убіцца ў ласку да моладзі. З'ездзіў у краму цэнтральнай вёскі калгаса, у скід затарыў поўны багажнік свайго аўто пітвом і арганізаваў групавую папойку перадапошнім вечарам першай змены. Руніта прыгатавала святочную вячэру — замоўленыя дранікі і салату з капусты. Піць адмовілася наадрэз, яна не ведала смаку алкаголю і каштаваць ахвоты не мела. Угаворы не падзейнічалі. Хлопцы пашапталіся між сабой, змяшалі ў алюмініевым чайніку ёрш — рознай моцы алкаголь і ў самы разгар вечарыны падазвалі Руну.

— Калі ты не жадаеш піць з намі — хоць сокам падтрымай кампанію. Купілі спецыяльна для цябе.

Налілі ў стакан прыгожага колеру вадкасці, падалі Руніце. Тая з разгону і сербанула глыток. Зморшчылася. Маладая напарніца Фэліка Зіна, нядаўняя студэнтка гэтага ж музычнага вучылішча, пакінутая працаваць пры класе струнных канцэртмайстрам, залівіста засмяялася: «Всё в жизни нужно попробовать!» Пахабны жарт Руніта не ацаніла, але крыўдзіцца і не падумала, яна наогул не ўмела крыўдзіцца. Здолела яшчэ раскласці па талерках падлічаныя дранікі, не збілася і пайшла дадому. Восень заўважыў яе намер: яму хацелася застацца разам з групай, але кінуўся следам. Руніта не стала пярэчыць. Ногі запляталіся, рукі зрабіліся ватнымі, непаслухмянае цела ледзь утрымлівала вертыкальна, магчыма, ёй толькі здавалася, што трымае: кавалер не раз лавіў яе ля самага долу. Руніта літаральна аглухла, аслепла, а галава ўсё разумела, і было ёй дзіўна, што адбываецца з яе целам, чаму яно не слухаецца. Зусім недарэчнымі падаліся пяшчотныя пацалункі Восеня з прызнаннямі ў каханні. Ёй не хацелася рамантыкі, тым больш пацалункаў. Нібы праз туман Руніта разумела: яны нарэшце памірыліся, і прыняла як факт. Разам яны хадзілі і да гэтага

вечара, танцавалі, гулялі па вёсцы. А вось рашыцца пацалаваць, як то было на першым курсе, Восень не адважваўся. Не адчуваючы ходу часу, апынуліся на ганку дома, дзе кватаравала Руніта.

— Пайду, дабранач.

— Пачакай, пагуляем яшчэ?

— Спаць пайду.

Восень не хацеў адпускаць Руніту, але і пярэчыць не мог — тым сапсаваць чаканае прымірэнне, у ім супраць Руніты ніколі не было намеру ўпарціцца, настойваць.

Руніта змагалася з рвотай, цяжка пераступіла высокі парог і, страціўшы раўнавагу, з усёй моцы далася галавой аб касяк. Ніколі не думала яна, што іскры з вачэй — не вобраз, самая што ні на ёсць канстатацыя факта: пакой асвяціла як электралямпай. Па сцёгнах да пят пацёк гарачы ручаёк, па шчацэ каціліся буйныя слёзы ад болю, крыўды, сораму, ад бездапаможнасці. Хацелася хутчэй упасці на раскладушку. Аднак Руніта памятала пра канфуз: трэба памыцца і прыбраць за сабой: побач, за лёгкай фанернай перагародкай, ляжала Ліна, дачка гаспадароў, равесніца дзяўчат-студэнтак. Самі гаспадары спалі тут жа за печкай, а яшчэ… Тыдзень, як прыехаў дадому з Мінска іх сын, студэнт чацвёртага курса дзяржаўнага ўніверсітэта Тодар — фізік, цікавы сучасны хлопец. Ён не сядзеў дома, балесаваў з сябрамі, вяртаўся з гулянак пад самую раніцу і, здавалася, на «малых» кватарантак ніякай увагі не звяртаў.

Лягла, падалося: душа яе аддзялілася ад цела, пайшла кругамі набіраць хуткасць, прапелерам завіхурыла пад самай столлю — не спыніць рух. Тым часам цвярозая галава Руніты сачыла за яе выкрунтасамі і не разумела, дзе ж яна сама — пад столлю ці на гэтай раскладушцы.

Восень, не выходзячы за брамку, у двары, побач з будкай дабрадушнага, калматага Бантуса, заўсёды радага вітаць хвастом госця, распальваў цыгарку, чакаў: раптам Руніта вернецца, выйдзе чагосьці на вуліцу. І тут варотцы адчыніў незнаёмы дзяцюк.

— Чаго чужыя вуглы аціраеш? — запытаў хлопец у Восеня.

— А табе якой халеры справа?

— Зараз даведаешся, як дам у лыч!

— Глядзі, каб сам не ўмыўся… Валі адсюль.

— Тут мой дом, казёл! Жыву я тут.

Руніта паспела задрамаць, калі ў пакой бурай уварваўся Тодар.

— Хутчэй дапамажы скінуць кашулю! — запатрабаваў хлопец.

Руніта не зразумела, але паслухалася.

— Ай-яй-яй! Цішэй крыху! — весела заенчыў хлопец.

— Што гэта з табой? — яна глянула на спіну і спалохалася: ад паясніцы да плеч спрэс чырванела, сцякаючы, крывавае месіва. Ёй стала кепска. Ледзь не званітавала.

— Што здарылася? Адкуль ты?

— Ды тут з аднымі мараламі счапіліся, не ўдалося разысціся мірна.

Ранкам, калі дзяўчаты толькі-толькі вярнуліся з гулянкі, Руніта выправілася ў сталоўку, яны засталіся паспаць.

З дзённіка:

«Тодар яшчэ не клаўся спаць, прапанаваў падвезці мяне да сталовай — я адмовілася. Саромеюся. Ён не першы раз спрабуе загаварыць са мной, жартуе, пра штось пытаецца. Зусім не ўмею проста сябе паводзіць, весці гутарку з такім цікавым маладым чалавекам, адчуваю сябе скавана. Хутчэй збягаю, а хочацца застацца з ім сам-насам, пагаварыць».

Прыйшлі дзяўчаты на сняданак, прынеслі з сабою сумкі, торбы і нечаканую навіну:

— Нам прапанавалі знайсці другую кватэру. Карацей, ветліва папёрлі. Гаспадыня заявіла: «Дзяўчаткі, мне вас вельмі шкада, але сына шкада больш. Без крыўды, — шукайце іншае месца». Мы нічога не разумеем… Тодара, здаецца, нашы хлопцы пабілі. Ён яшчэ спаў — запытацца не выпала. Мы прыстроіліся, хто куды. Ты ў Фэліка патрабуй сабе месца.

Руніта звяртацца да Фэліка не стала. Ён адбываў апошні свой дзень змены ў калгасе, напэўна і не ведаў, якая ноч тут удалася пасля яго «гулянкі».

Наступнай раніцай з'явіўся Басік. Кухарка міргнула Руніце падаць яму сняданак. Руніта гакнула аб стол талеркамі, крутанулася, як нязграбны салага, і скінула выкладчыку на калашыну салату са смятанай. Басік нават не павёў брывом, абцёр штаніну ручнікам, спешна прапанаваным паварыхай, і смачна прыняўся за ежу.

— Якая ты няўклюдная, грубая з настаўнікам. Чаму так? — схаваўшыся за фіранкай, шэптам ушчувала Руніту жанчына, прыкрываючы рот даланёй.

З дзённіка:

«Каб я ведала ЧАМУ — паводзіла б сябе зусім іначай. Брата ў мяне няма, так завялося ў нашай сям'і, што бацьку мы баімся, з ім амаль не размаўляем. І па суседству жывуць адны дзяўчаты. Я вельмі саромеюся хлопцаў, не ведаю іх характару, раблюся пры мужчынах медзведзькаватай, нягнуткай, дубовай. Да таго ж і гараскоп мой прыпячатвае: "Па жыцці будзе плысці белым лебедзем, а ў каханні — мядзведзь медзвядзём". Лебедзь штосьці не прылятае, а вось мядзведзь — паўсюль».

— Дзе начавала? — запытаўся Басік, выходзячы з-за стала. (Брыгадзір выдаў?)

— Тут. На кухні.

Яны з Восенем праседзелі ноч, не злажылі вачэй, пакуль вясковыя хлопцы ўпарта кагосьці выглядалі ля сталовай, вышуквалі, чакалі. Тодара сярод іх не было, з'ехаў на заняткі ў Мінск. Восень маўчаў аб бойцы, а Руніта ні аб чым не пыталася.

— Ідзі на маё месца праз тры сядзібы адсюль, я знайду сабе жытло, — Басік таксама быў крыху скаваным чалавекам, але яго мужнай, рашучай, смелай эмацыянальнай натуры гэта рыса толькі дадавала самабытнасці і кранальнасці. — Што, зноў цябе

на кухню прыстроілі? Сумна… Не надаела? Сядай у машыну, паедзем на поле… Справіцеся тут без яе? — запытаўся ў кухаркі.

Тая махнула рукой — едзьце.

З дзённіка:

«На полі дзяўчаты сталі прасіцца ў грузчыкі. Падымаць за кожным поўнае вядро бульбы — мужчынскі занятак, але хочацца ім, напэўна, нейкай перамены. Басік паддаўся на ўгаворы і паставіў на машыну… мяне, хоць я не прасілася. Сам залез у кузаў пераймаць у дзяўчат вёдры, хлопцы ссыпалі бульбу без падмогі. Выйшла, я прыехала пакатацца на машыне… Баюся, даруюць не ўсе!»

Басік у першы вечар замовіў машыну, арганізаваў выезд з канцэртам у аддаленае сяло. Найлепш прымалі нумар пантамімы. Поўны, белявы баяніст з Віцебска, мім па хобі: «доктар-хірург» апераваў на стале нябачнага пацыента пад акампанемент гітары. Глісанда з-за шырмы на адной струне агучвала разрэз грудзіны скальпелем, некалькі ўдараў па грыфе падказвала — у руках хірурга б’ецца сэрца: «тук-тук, тук-тук». Арпеджыраваны дысананс выяўляў лішкі ў чалавечым арганізме — патрабавалася пазбавіцца як найхутчэй. Піцыката і флажалет ярчэй тлумачылі, што хірург нарэшце ўзяўся за іголку… Гледачы шчыра смяяліся, пляскалі ў далоні, запрашалі на біс. Відавочнае, прыкладное мастацтва брала верх над ілюзорным, менш датыкальным, менш зразумелым. Мім з гонарам вяртаўся на сцэну ў новым вобразе. На гэты раз прыстроіўся на пяньку вудзіць рыбу, пад смех і радасць гледачоў, закідваў насадку аж у глядзельную залу; «глынуў з бутэлькі», задрамаў на санцапёку, каты пацягалі з вядра яго ўлоў, а сам рыбак нарэшце зваліўся, спутаны лёскай. І ўсё гэта паказваў моўчкі, нават катоў і пень, які рыбак абхапіў мімічна рукамі, задраў галаву ўверх, маўляў, якое магутнае дрэва некалі расло на гэтым месцы. Так знаёма, блізка вясковаму гледачу, не трэба думаць, што там хацелі сказаць нязвычнымі вуху гукамі далёкія і незразумелыя «венскія класікі».

З дзённіка:

«Вярталіся з вёскі позна вечарам пасля канцэрта на грузавіку. Ні з таго ні з сяго ля свайго двара я адчула трывогу і небяспеку, падскочыла, заляпала па кабіне, мне чамусьці дужа не захацелася ехаць да сталовай — вадзіцель спыніў машыну. Восень збіраўся ехаць да кухні з усімі разам, я злезла з кузава без увагі на яго ўгаворы, пайшла дамоў — Восень за мной. Стаялі на ганку, групу тым часам давезлі да сталовай, гэта недалёка, чутно. Нашы пачалі разыходзіцца па кватэрах начной вуліцай, і тут данёсся страшэнны тупат, дзікі гул. З цікаўнасці Восень хацеў выйсці да варотцаў, глянуць, што там робіцца. Я зноў адчула тую самую хвалю трывогі і небяспекі, штурхнула яго ў сенцы, накінула крук на зашчапку. І тут з цемры натоўп вясковых хлопцаў рынуўся ў двор да дзвярэй дамка. Што было!!!»

Не дачакаўшыся Восеня ля сталовай, яны здагадаліся шукаць хлопца там, дзе жыла Руніта. Ляпалі ў шыбы. Заглядалі ў вокны, падсвечвалі ліхтарыкамі, дзяўблі ў дзверы і сцены! Як не разбурылі хліпенькі дамок? Бабуля з дзедам (гаспадары) спалі, не чулі?! Руніту ад страху калаціла, яна па-ранейшаму не разумела, што адбываецца наогул. Здалося, трапіла ў жахлівы фантастычны сон. Вопыт не патрабаваў пытання. Дзе б ні бывала ў дзяцінстве: на вясковых вяселлях радні, на адправінах стрыечных братоў у войска, на святах ці працы з бацькамі, запрошанымі ў талаку, — паўсюль траляліся людзі, не здольныя размаўляць, слухаць, але гатовыя імгненна ўспыхнуць на бойку, гвалт: быццам толькі і чакалі зачэпкі. Так вялося спакон веку. Вяселле ў вёсцы нявесты — мясцовыя хлопцы мнуць бакі сватам жаніха, праз тыдзень на радзіме жаніха каламі апрацоўваюць ілбы нявесціных сватоў.

Наступнай раніцай і прабіралася пара кукурузным полем на рэйсавы аўтобус. Не паспелі развітацца, Руніта заўважыла: па дарозе пыліць Басікаў «жыгуль». Аўтамабіль спыніўся ля самага прыпынку — аўтобус якраз махануў хвастом пылу.

— Сядай, паедзем у краму па прадукты для сталовай.

Руніта села. Басік цікаўна зазірнуў ёй у вочы.

— Збег нягоднік?

— Зусім ён не нягоднік.

— Нягоднік, нягоднік. Пабіў ні ў чым не вінаватага хлопца — і ходу! Які сорам перад вяскоўцамі. Нельга так. Ён, Руніта, тваёй падноскі не варты.

— Восень — харошы хлопец. Пра бойку не ведала.

Пад лыжачкай пахаладзела, потым запякло, непрыемная хваля падкаціла пад самае горла, зрабілася млосна: так Руніта рэагавала на штосьці грубае, гвалтоўнае, невыносна чужое яе натуры. Словы Басіка ўразілі. Усе адасобленыя, незразумелыя пазлы апошніх дзён: збітая спіна Тодара, перашэпты аднагрупнікаў ранкам наступнага дня, пошук новай кватэры, праследаванне Восеня вясковымі хлопцамі, нечаканая «павестка ў ваенкамат», кукурузны шлях — скла́ліся ў адну карцінку.

Патрабаваўся час для роздуму. Зараз так не хацелася пакідаць мройнай лёгкай плыні, у якую акунулася адразу, як толькі села ў аўтамабіль з дарослым упэўненым чалавекам. Яна ніколі не адчувала сябе такой вольнай, бесклапотнай, бяспечнай, абароненай. Звычнае вострае ўсведамленне небяспекі, трывогі, страху, пасеянага ў самым дзяцінстве сямейным вэрхалам, бязладдзем, спарадзілі ў заечай душы Руніты сіндром пільнага вартаўніка. Зараз дзяўчачае жаданне адчуць сябе значнай, вартай кахання, увагі прасіла крышачку пачакаць, яшчэ падоўжыць незнаёмы прыемны стан лагоды: яна дарослая, дзесьці дарогай аб ёй думае Восень, Тодар хацеў пасябраваць з ёй, нават сам Басік прыехаў на машыне да аўтобуснага прыпынка, каб яна не ішла пяшком у другую вёску. Крытычны ад прыроды розум Руніты, аднак, здзекліва тыркаў пальцам у сапылём прылеплены ярлык сабекошту, непапраўна псаваў настрой, вяртаў у стан бясконцай няўпэўненасці, жалю і трывогі.

# Будні

На рэпетыцыю аркестра заглянула сакратарка і загадала Руніце ісці ў кабінет дырэктара. Басік пакінуў аўдыторыю з аркестрам на выпускнікоў, пайшоў следам за ёй. У кабінеце дырэктара Руніта ўбачыла Насту, адразу ўсё зразумела.

З дзённіка:

«Мы з Вальжынай Насту пусцілі ў свой інтэрнацкі пакой са шкадавання: яе выперлі з папярэдняга за нудны характар. Наста да нас прыйшла са сваім будзільнікам. Ён чапае што трактар і звоніць, як пажарная сігналізацыя, у Вальжыны такі ж — яго Наста праігнаравала, хоць Вальжына таксама штоaccess ранку наводзіць свой на палову шостай. У музычных установах жыццё пачынаецца з гімнам. Не паспееш заняць клас — будзеш займацца ў туалеце. Прасілі Насту спыніць свой будзільнік, прачынацца пад Вальжынін: не згаджаецца, і Вальжына не саступае — ну ўсё ж яна тут абарыген. Цяпер мусім засынаць пад бадзёры дуэт. Дакладней — яны, у мяне хранічнае бяссонне, “нощное бдение”, а пад такі акампанемент дык і зусім безнадзейна заснуць. Жартам дзяўчаты з суседніх пакояў да нас пазносілі свае гадзіннікі, схавалі пад цынкавы таз для мыцця падлогі, каб гучней барабанілі: “Глядзіце ж не праспіце!”

Я на днях вечарам мыла ў сваю чаргу падлогу. Наста папярэдзіла: толькі не націсні кнопку майго будзільніка. І што ж? Раніцай празвінеў адзін, Вальжынін. Наста псіханула, не паднялася пад чужы. Стала сварыцца са мной, абвінавачваць. Я не націскала кнопку. У маёй галаве не магло завесціся такой думкі — цвяліць чалавека цішком ці адкрыта. Гэта зусім не па мне. Спачатку, дзеля спакою Насты, я спрабавала апраўдацца, пыталася ў яе: магчыма, у гадзінніка ўстройства такое, што дастаткова перасунуць — ён стаяў на падлозе ля самага ложка, — каб кнопка сама сабой уваліліся? Наста не слухала, яхідна і здзеклівa распавядала ўсім, хто забягаў у пакойчык, як праспала сёння заняткі па маёй

віне, грозна паглядала ў мой бок, рабіла грэблівыя вочкі, увесь дзень уедліва напамінала аб подлым учынку, вінавaціла ў тым, што мне зусім не характэрна. Любы мой аднагрупнік можа пацвердзіць: я такога не зрабіла б. Я не вытрымала: “Калі ты яшчэ раз завядзеш дурную гаворку — выкіну твой будзільнік праз акно”. Яна з новым натхненнем і азартам заключыла: “Кнопу націснула ты!” Прыйшлося выканаць абяцанае. Нібы штосьці жывое кідала за акно! Наста ў адказ схапіла мае бібліятэчныя ноты з падаконніка і шпурнула следам у цемру з пятага паверха. Тамы і фаліянты разляцеліся на шматкі. Вось па якой прычыне аказаліся мы ў дырэктарскім кабінеце: Наста, відаць, раніцай паскардзілася. Тут чамусьці стаяла і Вальжына.

Басік хацеў даведацца, у чым мы правініліся, і не знаходзіў прычыны застацца ў дырэктарскім кабінеце. Пра штосьці нязначнае для зачэпкі пытаўся ў дырэктара, той адказваў і яўна чакаў, каб выкладчык выйшаў за дзверы — не выйшаў, нервова пастукваў нагой, разглядаў паліцы шкапіка».

Дырэктар не пачынаў размовы, прыпомніў нядаўнюю выхадку Басіка на занятках па палітінфармацыі. Яму, дырэктару, тады больш за ўсіх дасталася, ледзь загасіў канфлікт з сакратаром партыйнай арганізацыі, каб абысціся без ахвяр у педагагічным калектыве. Адстаяў і Басіка, не здаў на зжэр.

Між студэнтаў хадзілі плёткі, што Басік прылюдна пад час палітзаняткаў, якія абавязкам праходзяць кожны панядзелак сярод выкладчыкаў і асобна сярод студэнтаў, заявіў: «Пераказваць бессаромную хлусню не жадаю!» Калектыў падзяліўся на непрымірымыя кагорты. Хтосьці таемна захапляўся ўчынкам Басіка, зайздросціў яго рашучасці, іншых раззлавала яго смеласць і адчай. Палітзаняткі нікому не патрэбны, яны напружваюць усіх: пустая трата часу на балбатню, пераказ газетных фраз. Але як ён пасмеў пайсці супраць большасці?! Усе баяцца — і ты не смей высоўвацца! Студэнты, далёкія ад палітыкі, увагі той бурнай сярод выкладчыкаў падзеі не надавалі. Самім прыходзілася

штотыднёва рыхтаваць рэфераты па палітінфармацыі: назначаны аратар ілжывым голасам з пампаваным відам паўтараў завучаныя словы пра невыноснае жыццё «угнетённых чернокожих», «происки империализма», «их мораль, их нравы». Але ж для студэнтаў любы занятак здаецца прымусам.

Дырэктар быў зусім нядрэнным чалавекам…

Напялася цішыня. Басік падышоў да стала, ляснуў па ім рукой:

— Я хочу быть в курсе.

Сеў без дазволу. Дырэктар, невялічкі ростам, хударлявы мужчына інтэлігентнага выгляду, амаль губляўся ў сваім прасторным кабінеце, асабліва ў прысутнасці магутнага паставай і такога ж магутнага сваёй нетыповай натурай чалавека, як Басік, — кашлянуў у атласны нарукаўнік — заўсёды нацягваў іх седзячы за пісьмовым сталом, паторгаў галавой управа-ўлева, нібы выпростваючы шыю з каўняра (яго прывычны нервовы цік), звярнуўся да Руніты.

— Теперь хочу выслушать вас.

З дзённіка:

«Я зразумела, што ад Насты ён пачуў нашу гісторыю. Я толькі сказала, што мне няма чаго распавядаць — я не націскала кнопкі будзільніка, а мусіла выкінуць яго таму, што Наста бясконца мяне вінаваціла. Дырэктар запытаўся ў Вальжыны, каго яна падтрымлівае. Тая кіўнула ў мой бок. Без натацый і вымоў дырэктар загадаў мне купіць новы будзільнік. Мяне зашкрабло — ані не адчувала перад Настай віны, толькі перад гадзіннікам — ды той не вернеш.

— А як з маімі нотамі? Хто іх адкупіць?

— Какие ноты?

— Мае бібліятэчныя ноты Наста таксама выкінула з пятага паверха…

Дырэктар рэзка змяніўся ў твары, нядобра глянуў на Насту.

— Так вы, оказывается, волк в овечьей шкуре? Всё утро плакались тут, как вас ущемляют, притесняют, обижают, и ни слова

о том, что уже успели себя защитить. Довели человека до белого каления и жалуетесь. Возместите библиотеке потери.

Басік павёў нас у свой клас (Наста таксама яго студэнтка па дырыжорскай тэхніцы), доўга вычытваў, асабліва мяне. Ур-ра! Значыць, мяне ён любіць больш за Насту!»

## Не пакідай сваёй гітары

Горад Керч 1975 года здзівіў колькасцю інвалідаў вайны. На вуліцах, ля кірмашыка, на мосце праз ручаёк — паўсюль іх было столькі, быццам з'ехаліся яны сюды з усяго свету на кірмаш. Бязногія, бязрукія, аднавокія. Спявалі пад акардэон, гралі на гармоніках, трымалі ў руках шапкі верхдолу. Некалі яны вольна хадзілі па ўсіх гарадах Саюза. Ездзілі па дварах на самаробных дашчаных калясках, прасілі міласціну бязногія салдаты, гаротныя ўдовы з мурзатымі дзецьмі. Ім не адмаўлялі, давалі хто што: бульбу, яйкі, вопратку, прыветна выслухвалі чужое гора. Потым штосьці здарылася. Кудысьці зніклі інваліды. Народ не ведаў пра таемны загад ачысціць гарады ад нягледных жыхароў, а каб і ведаў… Наўрад ці паспрабаваў бы дапытацца, дзе падзеліся героі вайны, чаму іх не відаць на родных вуліцах, якія яны вызвалялі ад захопнікаў. Дзяржава мусіла рабіць «прыгожы твар». Грамадзяне абавязаны верыць у шчаслівае жыццё. Няшчасных пераможцаў схавалі ад вачэй.

А яны — вось яны, не сталі раптам здаровымі, у іх не павырасталі новыя рукі-ногі. Гэта сумная відзёжка жыццёва-балюча адгукнулася ў сэрцах студэнтаў, што прыехалі працоўным дэсантам сюды, у Крым, адпачыць, падрадзіўшыся ў саўгасе даглядаць гектары таматаў, але не затрымалася ў галаве. Здаровыя арганізмы патрабавалі радасных эмоцый, станоўчых думак, не хацелася разважаць пра гора, пра штосьці незразумелае і складанае. Прасцей было згадзіцца: сапраўды, мы самыя шчаслівыя істоты ў свеце!

Вось там, на моры, і адчула Руніта штосьці падобнае на першае каханне. Ні ў школе, ні на першых курсах яе захапленні процілеглым полам не насілі дакладнай адраснасці. Руніта думала пра хлопцаў роўна, як бы думала пра вобразы Анегіна ці Пячорына. Штосьці далёкае і нерэальнае. Хоць і ўзнікалі зрэдчас на апошніх старонках яе канспектаў стыхійныя, паўаўтаматычныя грэмзулі накшталт модных сярод дзяўчат: «Коця! Зая! Які ж ён мілы!» — і іншая лухта з сардэчкамі-кветкамі, за якую хутка рабілася невыносна, да чырвані на твары, сорамна перад самой сабой. Запісы гэтыя мелі вельмі аддаленую і ўмоўную сувязь з адрасатам. Бо калі раптам «герой опусаў» сустракаўся нос да носу на калідоры, ці, яшчэ горш, хацеў загаварыць і пазнаёміцца, Руніта рабіла непрыступны камсамольскі твар, адмоўчвалася і збягала прэч. Бо не мела ніякага вопыту сяброўства з хлопцамі.

Не змагла скарыстаць нават момант сапраўднага класічнага «выратавання кавалерам паненкі на водах». У басейне да яе ўзяўся заляцацца адзін з выпускнікоў. Дзікім чынам: хапаў то за руку, то за нагу, лез абдымацца, груба лапаў, навальваўся ўсёй тушай, не даваў вынырнуць, жартам тапіў, а Руніта пачала захлёбвацца насамрэч. Тут, як у меладраме, падплыў да іх той, каму адрасавалася апошняя старонка канспекта з сардэчкамі і кветкамі. Выхапіў Руніту, дапамог даплыць да парэнчаў: «Як ты? Нармальна? Давай дапамагу выбрацца з вады». Руніта нават не здагадалася падзякаваць хлопцу за выратаванне.

З каханнем у Руніты былі своеасаблівыя стасункі. Начытаўшыся кніг, не здольная звіць мары з жыццём, яна лічыла так: не перашкаджаў бы сам аб’ект кахання любіць яго вобраз.

«Я цябе люблю. Я не цябе люблю. І не я цябе люблю». — некалі вывела на лістку клятчастага вучнёўскага сшытка бязглуздзіцу яе дзіцячая рука, потым у фразе Руніта ўбачыла ўзорны плакат сваіх пачуццяў да процілеглага полу. Улюблялася быццам не ў самога чалавека, а ў нейкі магчымы яго вышэйшы вобраз. І сам чалавек не меў дачынення да кахання. У той жа момант,

яна разважала: калі не залежыць каханне ад твайго розуму, волі, то не сама яна і кахае, а ЯЕ магчымы вышэйшы вобраз. Дык і справы да кахання ні ёй, ні аб'екту няма. Перадусім, бачыла любога незнаёмца нібы ў стане немаўляці: чыстым, бяскрыўдным, безабаронным, з часам дадаючы яго партрэту рысы жыццёвага гатунку. Аднак, як бы ні падавалася незалежным ад розуму каханне, Руніту ніколі не зацікавіў бы хлопец агрэсіўны, неўтаймаваны ці здольны праявіць уладу над яе воляй фізічна; духоўна ніхто пасягнуць на яе волю проста не здолеў бы, тут Руніта, нягледзячы на самнамбулістычную амёбнасць (саматужны дыягназ), адчувала сябе непераможнай.

Не разумела яна і сентыментальных разваг пра першае каханне. Немагчыма ўлавіць, якое з іх першае. Любіла ўсіх і заўсёды, як пачала памятаць сябе. У тры гады — госць, сусед, мінак. У першым класе хлопчык партфель паднёс да дома, ці не ён стаў першым каханнем? У пятым класе новага вучня падсадзілі за парту, зноў арганізавалася каханне: жартоўныя вершы прысвячалі адно аднаму, давала спісваць, падказвала ўрокі. Тым больш у старэйшых класах. Руніце шмат хто падабаўся, а разам, як дадатак, як працяг самога каханага і дзяўчынкі-саперніцы рабіліся роднымі і дарагімі не менш за сам аб'ект кахання.

З Керчы ледзь не кожны дзень у Гарнастаеўку, дзе па трох гуртжытлоўках размясцілі некалькі студэнцкіх груп на летні тэрмін, прыязджаў Мік. Ён адразу пасябраваў з прыезджымі і ніколькі не быў падобным на мясцовых жлабаватых кавалераў з непамернай брутальнасцю. Не ўдзельнічаў у бойках, не чапляўся нахабна да дзяўчат, не зрываў з іх жартам пад вадой купальнікі. Затое адзін з усіх умеў граць на гітары і спяваў свае песні. Невысокі, дабрадушны, ветлівы, светлавалосы, з адкрытым тварам і цёплай усмешкай. З дзяўчат ён выдзяляў Руніту, хоць і быў з усімі роўна ветлівы і прыязны, аднак справы меў і вадзіў гаворкі толькі з ёй. Руніта таксама крыху грала на гітары, яшчэ толькі вучылася. Між імі завязаліся цесныя стасункі. Мік

забягаў у іх пакойчык, пытаўся пра Руніту, паказваў ёй новыя акорды, барабаніў дзесьці пачуты новы рытм, дыктаваў словы і функцыі да новых песень. Паступова падцягваліся іншыя хлопцы. Дзяўчаты ўздыхалі: «Як мы табе зайздросцім! Калі ўмееш граць на гітары — збіраюцца вакол слухачы, хлопцы звяртаюць увагу». У параўнанні з Мікам свае здольнасці Руніта ацэньвала ў дзясятай ступені з нізу, а ён нічым не выдаваў перавагі, трымаўся як з роўнай, нават штосьці пытаў у яе з тэорыі музыкі альбо гармоніі, бо ніякай музычнай адукацыі не меў. Ёй і прыпісалі Міка ў кавалеры. Не было між імі рамантыкі. Але Руніце падабалася, што так думалі іншыя студэнткі. Здаецца, больш хацелася, каб думалі, чым самой рамантыкі. Яна смутна ўяўляла, што гэта такое ў рэальным вымярэнні. Дастаткова было ўсмешкі Міка, рукі яго, калі незнарок абдымаў, каб паправіць яе далонь на грыфе, выставіць пальцы ў акорд.

Аднойчы ў пакойчыку, дзе сядзелі над гітарай Мік з Рунітай, адчыніліся дзверы. На парозе стаяла незнаёмка. З групы, што нядаўна прыехала на другую змену. Дзяўчынка з тых, у постаці і твары якіх няма ні кроплі класічнай прыгажосці, іх рысы скампанаваныя так нечакана, так прыцягальна для вачэй, што немагчыма адарваць позірку, зараз іх называюць сексапільнымі, тады падобных слоў не ведалі. Незнаёмка падалася вельмі падобнай на ліску. Ліска трымала шырока растапыраныя пальчыкі абедзвюх рук перад сваім мілавідным лялечным тварыкам — сушыла лак на пазногцях. Яе вочы ўпіліся ў Міка. Руніты для незнаёмкі не існавала. Лісчыны пальцы пачалі перабіраць паветра, нібы котка вастрыла кіпцікі.

— Ла-апа-а. Я третий день тебя выискиваю. Думаю, кто же это такой, откуда возникает и куда пропадает бесследно? А ты вот где сидишь, — яе голас асобна і ціха праспяваў кожны гук і склад: цягуча, соладка, зазыўна. — Во-от я и нашла-а тебя-а.

Тонкая жаночая інтуіцыя падказала ёй пагуляць з прыманкамі. Ліска зрабілася строгай, халоднай, сціплай інтэлектуалкай. Апусціла рукі, вочы прытушыла.

— Прости, пожалуйста. Я не испугала тебя своей привычкой разыгрывать незнакомцев?

Потым, па-дзіцячы надзьмуўшы пульхныя вусенкі, акруглiла наiўныя вочкі. Залыпала нафарбаванымі веямі, капрызна зацягнула:

— Ну ника-ак без тебя, киса-а. Помоги, пожа-алуйста. Чемодан захлопнулся. Ты же видишь, как я беспомощна. — Яе вострыя чырвоныя кіпцікі зноў драпалі паветра.

Руніта адразу ўлавіла, як у нейкі момант успыхнулі вочы Міка, з якім зачараваным тварам памкнуўся ён за Лісой. Яго гітара так і засталася ляжаць на шырокім падаконніку. Яны больш не ўбачыліся, бо праз два дні ранішнім цягніком іх група пакідала Крымскае ўзбярэжжа. Было востра балюча, вельмі хацелася плакаць. Руніта шырока раскрывала вочы, каб не даць выкаціцца слязам. Так цягнула схавацца ў глухі куточак і паплакаць да выратавальнай асалоды. Ды стаяў доўгі летні дзень. Ніколі раней ёй не прыходзіла ў галаву, што сонца свеціць толькі шчаслівым. Для адзінокіх і няшчасных, якой абсалютна і дакладна яна адчувала сябе ў той момант, сонца толькі робіць больш яўнай нябесную чарнату. У спякотным, душным вагоне з гоманам мітуслівых пасажыраў Руна мусіла абарваць тонкую, туга нацягнутую струну ў душы, каб потым яшчэ доўга-доўга, а потым рэдка-рэдка, нібы вострым звонкім флажалетам вяртаць да жыцця той светлы чысты ўспамін.

## Няхай выбачае юнацтва

На пятым паверсе студэнцкага гуртжытла, у прасторным, з напалову зашклёнай сцяной пакоі, адведзеным пад самастойныя заняткі і адпачынак студэнтаў, ды амаль ніколі не ўжываным у патрэбу, стаялі трое: роблена дуркаватага выгляду Дыбус з баянам у руках, запрошаны для смеласці і бесперашкоднага праходу праз кардон пільнай вахцёркі, — рэзаў вясёлыя загатоўкі са

здзеклівай хітрыной у вачах, — ён добраахвотна, праз гарачую зацікаўленасць (карцела паглядзець, як тут усё разруліцца), прыняў на сябе ролю масавіка-забаўніка: яго сябар Восень, з войска адпушчаны на кароткую пабыўку, бледны тварам і немы перад дзяўчынай на два гады маладзейшай, але ўжо выпускніцай музычнай навучальнай установы, якую ім, хлопцам, прыйшлося часова пакінуць праз воінскі абавязак; ну і сама Руніта, іх былая аднагрупніца. На ёй штапельны самашыты яркага колеру халацік да пят, кардынальны віраж тагачаснай моды ад міні да максі, бурна, да хамства не ўспрымаемы абывацелем. Руніта ўжо навучылася курыць узацяжку, доўгія, пышныя валасы адпаласавала самаруч пад гаўрош, выфарбавала на іх збоку пергідрольны банцік, здолела кіль на сем выхудаць. Дыеты сярод студэнтак прымяняліся радыкальныя: нічога не елі, пілі мачагоннае, непрытомнелі, зрываліся на ежу, таўклі ў сябе што пад руку пападзе — выварочвала; ачуняўшы, працягвалі бэйдасаць арганізм і здароўе. Выхудаўшы, яна і праўда страціла вясковую дзябёласць — магчыма, і паспраўнела, на думку моладзі тых гадоў, а ў гарадскую модніцу ўсё адно не ператварылася.

Ніхто ні слова. Восень стаяў навыцяжку, як і належыць салдату, ён ледзь стрымліваў гарачае, балючае, горкае пачуццё. Год, як Руніта перастала адказваць на яго лісты. Дыбус вырабляўся, што блазан. Руніта саромелася, адчувала пякучы жаль да Восеня, пакутліва і няўмела хавала сваю разгубленасць, выстаўлялася пад сучасную паненку.

Яна праводзіла Восеня ў армію, сарваўшыся з заняткаў у канцы першай сесіі пад законныя два донарскія дні: нелегальна, без дасягнутага паўналецця, у істэрычным прыпадку здаўшы патрэбную норму крыві, заагітаваная старэйшымі сябрамі-кантрабасістамі Восеня і прайдохай Элькай-аднагрупніцай, будучай жонкай аднаго з тых кантрабасістаў.

Доўга кацілі цесным халодным рэйсавым аўтобусам у далёкую маленькую вёсачку. Душа Руніты выявіла дзіўную асаблі-

васць: пры спешнай мітуслівай хадзе адставаць ад цела — тут пераезд! Ніколі сябе не пачуваўшы дарослай дзяўчынай, Руніта, уцягнутая прымусам у незнаёмыяпературбацыі, зусім панікла, так і не адчуўшы сваёй душы на праводзінах, прывітала яе толькі счакаўшы пару дзён па вяртанні ў студэнцкае гуртжытло. Што адбывалася ў вёсцы, у родным доме Восеня, за шматлюдным гасцінным сталом, на танцах у невялікай старой хаце, што служыла вяскоўцам клубам, у час дзікай бойкі з каламі і прэнтамі наезджых з мясцовымі, спалоханая Руніта ўспрымала бы ў сне. Пад раніцу яе паклалі на кароткі адпачынак у лепшым утульным пакоі, дзе яна ўпершыню апынулася сам-насам з навабранцам. Ён лёгка мог тады скарыстацца яе малапрытомным самаадчуваннем пад сваю патрэбу. Хлопец не дакрануўся да каханай дзяўчыны. Затое потым яго найлепшы сябар Дыбус, нахабны хітруган, калі яго, раней прызванага ў марфлот, адпусцілі на пабыўку, сілай і гвалтам свой момант скарыстаў. Дазнаўся пра тое Восень ці не — невядома. А Руніта ліставанне з салдатам перарвала.

## Жанчына нарасхват

Сотні неразумных дзяўчат, наіўных дурніц, зусім не вінаватых у сваіх правіннасцях, ішлі па жыцці як па багне, бураломе. Не па «ведамым граху», не па распусце складаліся іх дарогі — не па распусце! Не выхаваныя бацькамі, не навучаныя школай, не падрыхтаваныя да жыцця старэйшымі — сонмам плылі насустрач «шчаслівай будучыні». Страчвалі цноту, надзею, удачу, веру — ад глупства, ад няздольнасці сказаць «не», з няёмкасці, сарамлівасці, ад скаванасці, нематы, ад боязі, іншы раз шкадуючы пакрыўдзіць нахабніка, ад моцнага жадання падабацца, быць сучаснай, проста па няведанні, як трэба сябе паводзіць і трымаць у варунках «міжпалавых» адносін, яны траплялі ў вір галавой. Не ўсіх пашкадавала жыццё.

Якім толькі навукам не вучаць у школе! Большасць вучняў не выкарыстаюць тыя веды ніколі ў сваім жыцці. Не ўспомняць

законы і правілы, не прыгадаюць цытаты і рыфмы, іншым разам і сапраўды сумнеўнай геніяльнасці, не звернуцца да вытокаў і высноў класікаў ідэалагічнага напрамку, запамятаюць фальшывыя факты гістарычных падзей. А вось навучыць моладзь на пачатку жыцця знаёміцца з грамадствам, бачыць людзей вакол сябе, цікавіцца імі, разумець, цярпець адзін аднаго, спачуваць, цаніць, паважаць, знаходзіць мову стасавання, адшукаць сябе сярод грамады, адчуць сваё месца — як нам усім не хапае такой навукі!

Няўдалых, пустых, кароткачасовых захапленняў-раманаў з балючым развітаннем, сваркамі, злосцю, помстай — хоць адбаўляй! А каб па шчырасці, прыгожа, назаўсёды — такім пачуццём ніхто не пахваліцца. «Заляцела» не адна з групы. «Добра, што ўзяў» — чакала не кожную. Каго распісалі перад самым выпускным жаніха, а то махнуў бы рукой і — бывай! Паехаў бы адкрываць новую музычную школу вольным кавалерам, а будучая мама цягай перад сабой у пакруглелым жываце на занятк і дзіця-бязбацькавіча. Другую нявесту бацькі павезлі ў Савецкую Армію, прымусіць нававбранца запісаць дзіця на сваё імя. Той не адкручваўся — іх каханне на ўсю моц квітнела мінулай вясной. Яшчэ адна, выдатніца, любіміца эстэткі Ступы Сташка — гром сярод яснага неба — нечакана пабралася шлюбам з Касцянам, бо, казалі, цяжарная ад яго… Касцян у нашай групе з’явіўся нечакана аж на трэцім курсе. Прыехаў з «ЧЫбаксар, чы Краматорска?». Музыкант з яго аніякі, апошні вінцік, якраз камплектам да нашай групы. Затое розуму — на сем галоў! На чарговай палітінфармацыі група балдзела на якуюсь левую тэму, а ў дзверы знянацку заглянуў хтосьці з дырэкцыі. Да куратара, збялелага ад страху за сваю «палітычную нядбайнасць», падскочыў Касцян, як запраўскі аратар, выкінуў руку наперад:

— Так на чём мы остановились, товарищи? Ах, события в Японии! До недавнего…

Ён выдаў такую лекцыю аб «происках империализма», што да канца пары ніхто не асмеліўся варухнуцца, закрыць рот — ні студэнты, ні куратар, ні тая дырэктарская камісія. Касцян паведаміў хлопцам аб Сташкавым становішчы. Ён быў чужаком, Сташка — зямлячкай паловы лепшых хлопцаў музычнага вучылішча. Касцяну выставілі жорсткі ультыматум: «Каб Сташку абараніць ад сораму — любы з нас гатоў з ёй ажаніцца, але табе, свалачуга, рыла натаўчом — век не адмыешся!» Той не адмовіўся.

Чаму выкладчыца рускай-беларускай моў і літаратуры Ступа (мянушка ўтвораная студэнтамі ад яе прозвішча) так палюбіла Сташку, праяснілася на першым жа курсе. Педагог прыгожага пісьменства не выносіла ўласных думак ці хаця б адхілення ад высноў хрэстаматыйных крытыкаў. Яна, высокаадукаваная ва ўсіх напрамках гуманітарных навук жанчына, патрабавала ад нас, «косноязычных», «умения владеть языком». І ў яе гэта выдатна атрымлівалася! Мы, не чытаючы класікаў, навучыліся здаваць экзамены, пісаць сачыненні на выдатна чужымі думкамі — выключна яе словамі і фразамі, дакладней — трафарэтамі савецкіх літаратараў. Акрамя агульна абавязковых навук Ступа вытрабавала ў дырэктара музычнай вучэльні для нас цэлы курс эстэтыкі і этыкі, дзе знаёміла з сусветнымі шэдэўрамі выяўленчага мастацтва, архітэктуры, дойлідства, азам этыкі. Праўда, з апошнім у яе самой быў яўны перакос — так дзіўна спалучаліся багатыя веды этыкі «в элитном обществе» і нядобрыя адносіны да вясковых студэнтаў — гарадскім яна авансам прэзентавала павагу. Знянацку запытае пра штосьці навучэнца, той нават не паспее ўстаць з-за стала, як педагог махае рукой — абсаджвае: «Ой! Садитесь вы, садитесь! Вот вернётесь в свой колхоз — кур заведёте, гусей, коз, и не нужна вам никакая этика!» Гэтую тыраду Ступа паўтарала кожны дзень, на кожнай лекцыі, пад яе яхідна-саркастычную ўхмылку з лёгкім, але грэблівым адмахам рукі трапіў кожны правінцыял, акрамя Сташкі, бо хоць Сташка

і прыехала з Пастаў, ды была выштудзіраваная мамай-настаўніцай раўнютка на манер Ступы «развважаць» хрэстаматыйнымі ўзорамі.

І я папалася. Гаворку вялі пра вопратку. Чую, да мяне звяртаецца выкладчыца:

— Что в одежде самое главное?

Я тым часам глядзела ў акно і зусім не слухала. Вядома, разгубілася, але нельга было марудзіць ні хвілінкі: прагучыць фраза пра індыкоў і курэй. Мой язык ляпнуў першае, што прыйшло ў галаву:

— Практычнасць.

— Ой, садитесь вы, садитесь! Продолжайте изучать пейзаж за окном. Как там — все ласточки прилетели? Одна романтика в голове!

Лепш бы я прамарудзіла, памаўчала. Сорамна было перад групай. Аказваецца, галоўнае ў вопратцы — прыгажосць. Можна летам апрануць футра, зімой — купальнік, абы прыгожымі былі? Японцам адно падабаецца, фінам — зусім другое, афрыканцы маюць свой густ. Прыгажосць — суб’ектыўны панятак. Магла б проста пасадзіць на месца і спытаць, хто інакш лічыць.

Ступа не заставалася раўнадушнай да таго, як мы апраналіся. Уяўляю, што яна думала пра мяне! Так кепска, безгустоўна і пажабрацку ніхто ў вучэльні не апранаўся. На мне ўсё самашытае і самае таннае: спаднічкі і сукенкі, сашчэмленыя маёй рукой, магчыма, і вытрымалі б канкурэнцыю па фасоне, ды распаўзаліся на няўмела, неахайна апрацаваных швах. Мой бацька на вакацыях расшчодрыўся знянацку, павёў у мясцовы КБА пашыць сукенку. Каб у мяне і запыталіся — густу не маю, пашылі на гледнасць закройшчыцы, а тая — майстрыха па абшыванні сталых даярак, бо ўсё ў яе атрымлівалася нейкае камолае, з павялічаным бюстам (ён у мяне і так — не схаваць), з вычварнымі старасвецкімі кляпамі і хлясцікамі. Выштукавала яна мне «модную» сукенку.

Зусім не пасавала мне яна — ні фасонам, ні стылем, ні колерам. І ў першы ж дзень заняткаў у Ступы я чырванела як мак. Не называючы, праўда, прозвішча, Ступа паведаміла ўсёй групе, што такому і такому (майму) тыпу фігуры ні ў якім разе нельга апранаць сукенкі з моднымі зараз «сабачымі вушкамі» замест каўняра і шырокімі манжэтамі. Я не любіла гэту сукенку, вось дазналася чаму. Але і сама Ступа зусім не прыгожа апраналася, яна мяняла дзве аднолькавыя пары: шэрага і рудога колеру (это самые благородные тона!) касцюмы з трыкатажу і выглядала, як і павінна выглядаць дзеўка-векавуха.

Дык Сташчын шлюб не выклікаў ні ў каго з аднагрупнікаў зайздрасці. Сташка не любіла Касцяна — ведалі ўсе, яна сохла па Федчыку. Сустракалася з ім на першым курсе — частым госцем быў тады Федчык на дзявочай палавіне гуртжытла. Сташка стане на падаконне, адставіўшы нагу ў рамантычнай позе балерыны, ніжні гузік халата расшпілены, рукі ўгору, нібы фортку адчыняе, чакае яго: «Ничего, девочки, если я так буду стоять?» — «Ты што, збіраешся чакаць яго перад форткай на адной назе? А як на паўгадзіны спазніцца?» Сташка чырванела і саскоквала з падаконніка. Яна заўсёды лёгка чырванела, але хутка, як сапраўдны нарцыс, знаходзіла сабе апраўданне. Яна любіла, закаціўшы вочы пад лоб — нябесная істота ў вялікім задуменні (ні першае, ні другое Сташкі не тычылася: паводзіны яе былі адбіткам чужога трафарэта), — прыдумляць розныя сюжэты рамантычнага кахання, якое быццам бы адбываецца дзесьці таемна ў яе жыцці. Дзе? Калі? Невядома. Сташка ўвесь час навідавоку. «Ой, девчонки! Это было настоящим предзнаменованием всех дальнейших событий. Он, представляете, полез на высокое дерево (!) за сиренью для меня — он всегда дарит мне шикарные букеты — и упал с дерева. Он сломал руку и пролежал в госпитале полгода. Я так рыдала!» Ніхто яе фантазіям не даваў веры, а слухалі з задавальненнем і зайздросцілі нават. Сташка магла б стаць пісьменніцай

а-ля Данцова, на забаву дамавітых гаспадынь, магла паступіць у інстытут, калі не ў кансерваторыю — была канцэртмайстрам аркестра, заўсёды выдатна здавала экзамены. І вось яе перспектывы мянялі кірунак. Сташчынага жывата ніхто не бачыў, яна да апошняга вечара апраналася ў спадніцу, прыкрыўшы маленькі жывоцік вязанай світкай. Цярпліва адседзела напярэдадні вячаровую трохгадзінную рэпетыцыю аркестра — не паспелі аркестранты дайсці да сваіх ложкаў, як іх заспела навіна, прынесеная Касцянам: «Сташка нарадзіла дачушку!» Мы толькі вось бачылі яе на занятках!

Сташка перамянілася відавочна. Паболела жаноцкасці ў яе круглым, пляскатым, як талерка, але прывабным твары, яе доўгія валасы яшчэ падраслі, заіскрыліся. Сташка аддалілася ад дзяўчат групы, імкнулася хутчэй мінуць пры сустрэчы, каб не спыняцца на пустыя размовы. Дык і праўда, у яе клопаты — мы, вольныя дурніцы, не ўяўлялі, як начамі ёй прыходзіцца зубрыць навукі, калыхаць, карміць, спавіваць малое. Касцян лётаў па дзявочых пакоях, любіў пажартаваць, ушчыкнуць каторую за штосьці мякчэйшае, таратаіў анекдоты. Строгая, бы настаўнік фізікі, Сташка, лёгка арыентуючыся па звонкім рогаце дзяўчат, знаходзіла мужа, адчыняла дзверы чужога пакойчыка без стуку, з-за парога моўчкі зыркала на Касцяна і сыходзіла — той куляй вылятаў следам. Яна трымала мужа ў дысцыпліне.

Сташка не адзначала выпускнога. Група з выкладчыкамі балявала ў рэстаране «Дзвіна» ўсю ноч, а Сташка тым часам купала дзіця, мыла, развешвала пялюшкі на агульнай кухні гуртжытла.

На першым семінары, які ладзілі для маладых спецыялістаў вобласці пасля размеркавання, Сташка падбегла да мяне, зусім не лепшай сваёй сяброўкі: вясёлая, жыццярадасная, якаясь лёгкая, таямнічая, паведаміла мне пра інтымныя прыгоды з каханцам, дырэктарам той жа музычнай школы, куды яе размеркавалі на працу. Ён — усім вядомы наш былы выпускнік: спрытна

спахапіўся ў апошнія дні навучання, перад дзяржэкзаменам, насмеліўся падкаціць да выкладчыцы тэорыі музыкі, ажаніўся, пераехаў у яе кватэру і атрымаў накіраванне ў добрую музычную школу горада, дзе вельмі своечасова апусцела якраз для яго месца дырэктара. Лёс, відаць, ва ўсім спрыяў чалавеку, бо — вось табе, да ўсіх матэрыяльных і маральных выгод, для таемнай уцехі пры стараватай жонцы, падвальсаваў яму яшчэ і салодкую маладуху-каханку. Сташка, не прыхоўваючы, як калісьці ў сваіх фантазійных сцэнарыях, распавяла мне ўсе рамантычныя нюансы. Яна ізноў перамянілася: з панурай, стомленай мамы-студэнткі ператварылася ў сапраўдную гараджанку, лакіраваную даму. Абрэзала пад модную фрызу валасы, пафарбавала іх у руды колер, навучылася складаць вусны на манер местачковай эліты ў бутон-пячатку з важным, ганарлівым выразам. Але глупства і фальшывага анёльства ў яе велізарных блакітных лупатых вачах з бухматымі веямі і крылападобна ўздыбленымі беражкамі броваў, здаецца, яшчэ паболела. Наступным семінарам яна зусім ашаламіла мяне пераменамі на асабістым фронце.

Спрыяў усяму прыступ апендыцыту. Хірург не ўтрымаўся, назіраючы пад час аперацыі Сташчыны лакамыя аздобы цела, адбіў-такі Сташку ў Касцяна. Вочы і вусны ў Сташкі аж круціліся пры апавяданні, ёй хацелася красавацца перад большай па колькасці слухачоў аўдыторыі, але непадалёку круціўся былы каханец — не дужа разгарнешся.

Перада мной так яўна намаляваліся томныя Сташчыны пакуты на шпітальным ложку пад вострым скальпелем хірурга, яшчэ вочы Касцяна, азмрочаныя хвілін на пятнаццаць навіной аб разводзе. Выпадковы шлюб яго моцна падкасіў маральна і інтэлектуальна. Мне стала зусім весела разам са Сташкай, я зайздросціла: жанчына нарасхват!

## Палітычныя перамены

З першых курсаў акрыленыя спадзяваннем і надзеямі на хуткае каханне, дзяўчаты пачалі пад канец чацвёртага задумвацца: ужо амаль дзевятнаццаць, ці не пара б яму нарэшце прыйсці? Усім хочацца казачнага, незямнога, на ўсё жыццё! Кахання чакала і Руніта, не раз марыла пра сямейнае жыццё. Падрабязна, у дэталях магла ўявіць сябе мамай. Пяшчота лілася з сэрца пры думках аб мацярынстве. Дзесьці далёка, падсвядома муж прысутнічаў, але яна не ведала ні як сябе паводзіць з ім, ні аб чым весці з мужам гаворку, наогул, яго роля ў сям'і бачылася неяк вельмі туманна. А адкуль ёй ведаць? Прыкладу станоўчага не было.

Хахлушка Міра з іх групы за тры гады суседскага пражывання ў гуртжытле галаву адурыла сваім Шкіперам, дарэчы, прозвішчы ў іх аднолькавыя, хоць і не радня. Калі Міра хадзіла ў пачатковую школу, яе Шкіпер вучыўся ў дзясятым. Аднойчы ўсміхнуўся малой ідучы насустрач — Міры хапіла: каханне на ўсё жыццё! Шкіпер даўна вучыцца на следчага ў Валгаградскай вышэйшай школе МУС, нават ведаць не ведае, што Міра ад першага класа беражэ сябе для яго.

Ды вось мінулай вясной трэцяга курса Міра пазнаёмілася выпадкова ў горадзе з нейкім паўшабэлкам. Прагуляліся яны за горадам па травеньскім лажку ўсяго пару вечароў. І паехала Міра на летнія вакацыі ў свае Сумы сумнай, не ўберагла яна сябе для каханага Шкіпера. А той якраз і з'явіўся ў родным горадзе такім бравым курсантам! Ды прыйшоў на танцы! Вось жа бывае дзіва — убачыў Міру, правёў дадому і закахаўся! На чацвёрты курс Міра прыехала шчаслівай замужняй жанчынай.

— І як адбылося?! — з цікаўнасцю пыталі яе сяброўкі. — Няўжо дараваў?

— Ні аб чым не здагадаўся.

— Пашанцавала!

Руніта ў навагодні вечар сядзела ў тэлевізійным пакоі на першым паверсе апусцелага гуртжытла. Напярэдадні яе ўгаворвалі пайсці ў складчыну сустракаць Новы год на кватэру кагосьці з харавікоў. Тусоўка збіралася не абы-якая — з трох груп курса, намячаліся быць і чужыя, гарадскія: такі факт нашмат павялічваў каштоўнасць кампаніі. З гарадскімі сябраваць шанцавала самым мажорным дзяўчатам, якія модна апраналіся, умелі паводзіць сябе з хлопцамі лёгка і разняволена, самі запраста знаёміліся са студэнтамі політэхнічнага інстытута. Руніта адмовілася. Не любіла святаў, не любіла да псіхічнай атакі — комплексы дзяцінства. Святы яе маленства звычайна завяршаліся пошукам начлегу па суседзях — у лепшым выпадку, а то ў хляве. Яна ведала, ніякая кампанія не развяселіць яе, дык навошта псаваць настрой іншым.

З Вальжынай, каляжанкай па гуртжытлоўскім пакойчыку, яны змовіліся не адзначаць свята ніяк — а чым яно розніцца ад будняў? Вальжына, як і Міра, прыехала з Украіны, яны ўсе выхадныя і святы, нават зімовыя кароткія вакацыі заставаліся ў гуртжытле, толькі на лета выпраўляліся ў далёкую дарогу дадому.

Вахцёрка зачыніла ўваходныя дзверы — пабегла на другі паверх дапамагчы сяброўкам арганізаваць святочны стол. Тут якраз забарабанілі ў дзверы. Руніта падышла да шкляной рамы тамбура, зірнула на госця, нетутэйшага, бадзёрага, чарнявага хлопца. Ён настойліва ляпаў у шыбіну, усміхаўся на ўсе бялюткія трыццаць два, патрабаваў не марудзіць, раптам выгукнуў:

— О! Руніта! Адчыняй!

Руніта здзівілася, крутанула ключом, запусціла хлопца ў вестыбюль.

— Адкуль вы мяне ведаеце?

— Дык пазнаў! Адразу ж! Міра летам мне ўсе вушы пратрубіла: Руніта, Руніта. Фотку паказвала. Ого! Сапраўды такая, як распавядала Міра! Я яе муж! З Валгаграда прыехаў.

Руніта прыветна ўсміхнулася, патлумачыла, дзе пакойчык Міры.

— Абавязкова сустрэнемся! — бы сакратар камсамольскай арганізацыі, патрабавальна ківаючы ўказальным пальцам, зазначыў Шкіпер.

І не выракся сваіх планаў: шчаслівая Міра прыбегла да Руніты на пяты паверх, умольна тараторыла, прасіла пасядзець за сталом, разам адсвяткаваць Новы год. Руніта «су плачом» аднеквалася.

— Не пайду, Міра! Ну што я з вамі, маладажонамі, буду рабіць? Мы спаць з Вальжынай збіраемся. Не пайду! Адчапіся.

Аднак хвілін праз дзесяць мусіла сядзець насупраць Шкіпера, выдаючы з сябе ўважлівага слухача, расцягвала вусны ў ветлівай усмешцы. Сама ў той момант ненавідзела, дакарала сябе: бесхарактарная цямця-лямця, бесхрыбетная амёба! Яна адразу ўлавіла непрыемную нотку зусім не патрэбнага ёй знаёмства. Мірын муж пасля першага бакала стаў яшчэ больш паходзіць на камсамольскага важака: паставіць ля сцяны з чырвонай цэглы, даць у рукі кельму, на лачбан каску — герой прапагандысцкага плаката: «Будаўнік камунізму»! Магчыма, Міры, седзячы побач з мужам, не дужа было відаць яго мімічных выкрунтасаў — весела смяялася з яго пошлых аповедаў, вульгарных анекдотаў. Шкіпер тым часам не зводзіў вачэй з Руніты, падміргваў, пасылаў неўпрыкмет паветраныя пацалункі, настойліва прымушаў выпіць.

— Хаця б прыгубі! — загадваў, нахіляючыся з бакалам над Рунітай: вось-вось вылье шампанскае ёй запазуху, адначасова датыкаўся, бы незнарок, да грудзей, таліі.

І, каб адчапіцца ад яго назойлівай гасціннасці, прыходзілася «прыгубляць», каштаваць, падстаўляць Шкіперу шчаку пад «брудзершафт». Той патрабаваў абавязкова вусны — так палажана! Міра залівіста смяялася, жмурачы свае і без таго маленькія мышыныя вочкі.

Руніта адчула востры жаль да Міры, яе ахапіла ўсёабдымная «салідарная» крыўда за ўсіх на свеце жанчын, іх залежны незайздросны лёс.

Колькі разоў Руніта парывалася сысці на свой пяты паверх, у яе ад напругі — не прывыкла так доўга няшчыра смяяцца — «пішчэлі» вушы (маленькія вострыя храшчыкі пазаду вушных ракавін, здавалася, уядаліся ў галаву, калолі, ад чаго шчокі звадзіла сутаргай). Аднак Міра ўпрошвала, Шкіпер не дазваляў: дачакаемся курантаў! І зноў яго правадырскі ўказальны палец гразіў пакараннем. Залішняя смяшлівасць Міры выдавала: і яна адчувае няёмкасць. Да курантаў заставалася хвілін пятнаццаць, бутэлька апусцела. Шкіпер кінуўся ў горад на пошукі.

— Магазіны зачыненыя! Я ў рэстаран! Там швейцар не пускае! Я яму — бах «корачкай» у шкло! Калі ласка, праходзьце, — Шкіпер наглядна дэманстраваў, як «бахаў корачкай». Яўна падгледжаны кадр з дэтэктыўнага фільма. Паказваў Руніце сваё пасведчанне навучэнца Валгаградскай вышэйшай школы Міністэрства ўнутраных спраў СССР. Прапанаваў асабліва ўважліва разгледзець пячатку.

Каб не крыўдзіць Міру, прыходзілася ківаць галавой у знак згоды і павагі да пячаткі, да Міністэрства ўнутраных спраў, самога Шкіпера і яго «чырвонай корачкі».

На экране маленькага тэлевізара зазіхацела елачка, павісла паўза, вось-вось пачнецца віншавальная прамова. Сям’я Шкіпераў мітусілася над запіскамі з таемнымі жаданнямі: шукалі алоўкі, паперкі, пісалі, палілі, ссыпалі ў фужэры, каб паспець выпіць роўна пад бой курантаў. Нечакана і Руніта маўклівай скорагаворкай замовіла, чаго не дазваляла сабе ніколі, акрамя: «Каб ува ўсіх на свеце ўсё было добра!» На гэты раз яна не паспела адумацца, як вымавілася дзікае, проста шалёнае, фантастычнае: «Калі не будзе віншаваць Брэжнеў — здарыцца цуд!» Гэта роўна таму, каб дарослы чалавек задумаў: вось зараз самы сапраўдны Дзед Мароз адчыніць фортку і дасць у рукі падарунак.

Але словы ў галаве прагучалі і позна было хапаць іх за хвост. Руніта ўсміхнулася сваёй дурасці: «Не трэба, не трэба», — нібы выбачалася перад Тым, хто павінен быў выканаць немагчымае. Упершыню за гады яе жыцця, праведзеныя ля навагодняга экрана ў чаканні «Голубого огонька», віншаванне агучыў за Брэжнева другі чыноўнік.

Вальжына, ні кроплі не пакрыўджаная адсутнасцю Руніты (яе, дарэчы, таксама хтосьці сілай зацягнуў за святочны стол), яшчэ не спала. Яны паздзіўляліся нечаканай перамене традыцый у палітычным жыцці краіны і ляглі спаць. Іх пакойчык не зачыняўся на ключ — два тыдні, як чакалі майстра: той так і не прыйшоў адрамантаваць замок у дзвярах. А чаго баяцца — дзявочая палова… Праўда, у Руніты мінулым курсам на гэтай жа палове хтосьці сцібрыў залаты пярсцёнак з прыгожым бэзавым аметыстам, яшчэ прыхапілі новую кампактную пудру (дзіва-дзіўоснае не менш за пярсцёнак). Шкада было, але ўрок не пайшоў у навуку. Вальжына хаця б зачыняла сваю шафу на ключ, а Руніта і таго не рабіла. Не сябравала яна з ключамі.

Дзесьці а трэцяй гадзіне ночы на калідоры пачуўся цяжкі тупат мужчынскіх ног. Хтосьці стукаў у кожныя дзверы, аднак на ўвесь пяты паверх заставаліся толькі Вальжына з Рунай. Нарэшце крокі наблізіліся да іх пакоя, дзверы расчыніліся — у праёме стаялі двое рослых хлопцаў. Адзін з іх быў туташні, зямляк Руніты Зосім, яны разам вучыліся ў музычнай школе, разам паступалі, зараз ён кларнетыст чацвёртага курса. Другі — незнаёмы хлопец з горада. Гэта якраз разыходзілася тая кампанія, ад якой адмовілася Руніта.

— Нарэшце пашанцавала! Мы ў вас пераначуем. Вахцёрка ні за што не пусціла, зараза! — паведаміў Зосім-кларнетыст. — Праз акно на першым прыйшлося ўлазіць, Чайкіна — дзякуй ёй — адкрыла, а то далі б дубу пад абшчагай.

— Трэба было ў Чайкінай заставацца, — адказала незадаволеным тонам Руніта.

— Там, у Чайкінай, такіх — як селядцоў у бочцы!

— А дзе вы збіраецеся легчы? У нас месца няма, — абурылася Вальжына.

Але хлопцы ўжо скідалі кажухі.

— Дык нам што — зноў на вуліцу?! Выбачаемся! Самі мяркуйце — не ісці ж на калідор. Як хто раніцай здасць вахцёрцы? Ці Габрусь запеленгуе.

Габаіст без усялякіх цырымоніяў бухнуўся да Вальжыны на ложак і, здаецца, тут жа захроп. Гарадскі хлопец узяў курс да ложка Руніты.

— А ты куды?!

— Сюды. — Ён стаў прыстасоўвацца побач.

— Нахабства!

Руніта ўпёрлася каленямі і рукамі, паспрабавала спіхнуць яго, але хлопец не паддаўся.

— Не хвалюйся, я цябе не зачаплю, — міралюбіва супакойваў ён.

— Зосім, што за нахабства?! Скажы яму, каб сышоў на падлогу!

— Хр-р, — гучней пачулася ў адказ з суседняга ложка.

Руніта па самыя вушы ўкруцілася ў коўдру, павярнулася да хлопца спінай. Той захацеў абняць яе: «Цесна, няма куды руку пакласці», — апраўдваўся ён. Паспрабаваў залезці пад коўдру: «Мерзну, дай крыху накрыцца». Імкнуўся пагладзіць, Руніта аберуч ухапілася за ражкі казённай коўдры, адпіхвала яго локцем, але нішто не перашкодзіла яму колькі разоў цмокнуць яе ў шчаку. Руніта між тым прымеціла: ні Зосім, ні гэты чужы хлопец амаль не п'яныя, нават паху алкаголю дужа не чулася. Інтымныя памкненні хлопца не неслі гвалтоўнага настрою, хутчэй жартаўлівы, дзеля прыліку: што за дзеўка, калі хлопец побач ляжыць і не жадае дакрануцца да яе?

Прачнулася Руніта ад блізкага пільнага позірку. Хлопец уважліва разглядаў яе — і не дзіва: бачыў першы раз.

— Заплюшчы вочы! Апрануся, — загадала яна.

Хлопец паслухаўся. Руніта хуценька пераапранулася ў шэрую вузкую спадніцу і модную блакітную кофтачку, нядаўна купленую праз фарцу за неймаверныя грошы, якія эканоміла не адзін месяц. Хлопец спадцішка аглядаў яе. Росту хапае, і целасклад звычайны, самая норма — не поўная, не худая. У яе, здаецца, было ўсё, аб чым толькі мог марыць любы нармальны хлопец, прытым нічагуткі лішняга… Але не ў тым сэнс… У формы ёсць загадкавая асаблівасць, якая не зводзіцца да ацэнкі правільная-няправільная, прыгожая-непрыгожая, нават ідэальная і не зусім ідэальная. Удалая форма (з'ява прыроды ці тварэнне чалавечых рук) мае ці не мае дзіўную сілу — прыцягальнасць. І тут не працуе ніякая логіка, не працуе закон і густ, прынятая ўмоўнасць і мода. Проста разумееш, што не здольны адарваць вачэй. Доўгія бліскучыя хвалістыя валасы каштанавага колеру, выразныя цёмныя вочы, невялікі роўны нос, вусны маленькія, пульхныя, ружовыя шчокі, высокія грудзі, акуратныя клубы і вельмі прыгожыя ногі. У ёй адчуваўся характар. З гэтай дзяўчынай толькі што ён начаваў у адным ложку!

Прачнулася Вальжына.

— Выкульвайцеся! Зараз, як на зло, прыскача з праверкай Габрусь раздаваць «единицы», — запатрабавала яна.

Зосім нязграбна выбраўся з панцырнай сеткі металічнага ложка, глыбока прадушанай цяжарам не разлічанай ГОСТам вагі, пачаў шукаць скінутыя ноччу куды папала туфлі.

— І ты вылазь з мярлога, — звярнулася да незнаёмца Руніта.

Хлопец відавочна разгубіўся, куды дзелася начная свавольнасць. Ён не ведаў, як сябе трымаць, рухаўся скавана, саромеўся. Руніта тым часам з цікаўнасцю заўважыла ў ім рысы, якія ёй вельмі падабаліся: светлавалосы, высокі, танклявы, вялікія блакітныя вочы. Пазіраў сціпла, хоць яўна гады на чатыры быў старэйшым за іх. Відаць, нядаўна з арміі. Прадаўгаваты твар

яго падаўся Руніце такім прыцягальным, не хацелася адводзіць вачэй.

Хлопец апрануў кажух, заправіў пад каўнер шалік, завязаў яго вялікім адмысловым вузлом, як калісьці ў дзяцінстве завязвалі малым, выпраўляючы на вуліцу. Зараз сыдзе, і больш яны ніколі не сустрэнуцца. У дзвярах хлопец затрымаўся, паглядзеў на Руніту, прамовіў:

— Мяне завуць Сівер. А цябе як… завуць?

— Руніта.

— Можна, я прыйду да цябе сёння? Пад вечар. Выйдзеш? Ля вахты буду чакаць.

— Ноччу не пытаўся. Зараз пытаешся?

Ён маўчаў, глядзеў, чакаў.

— Прыходзь. Выйду.

# Невядомы прыпынак

## То не вецер…

Ад самай раніцы Сеньку круціла. Так бывала, калі вечарам чакалася гулянка. Зараз другое. Чалавека аж распірала знутры. То накоціць жаль, сум здушаць болем, то лагодная хваля прыплыве, зробіцца светла, хораша, цікаўна, лёгка. Потым ні з таго ні з сяго зноў заные душа, злосць нападзе, бы звер драпежны зубамі склыгае. Нават смех разбіраў — рагатаў бы сам сабою, каб дапусціўся.

На рабоце здача аб'екта. Казалі ў брыгадзе, нібы за новабудоўлю будуць прастаўляцца. Аліна-брыгадзірка аб'явіла: просяць вечарам за сталом пасядзець, хто жадае. Мальцы бачылі: яна пераняла з рук дырэктара школы чамадан — крывы, вялікі чахол ад акардэона, у ім звабліва пабразгвала шкло не пустой тары — раскашэліцца, мусіць, прыйшлося. Паспрабуй — не! Паўгода ледзь не кожны работнік брыгады хоць і жартам, ды намякаў: не грэх бы вуглы замачыць. Аліна дацягнула чахол да каморы, прымкнула на ключ.

Увесь дзень без толку адбоўталіся: там — коп, тут — цоп. Не толькі Сеня, хваляваліся і хлопцы, хацелася хутчэй сесці за стол. Ледзь дачакаліся вечара. Прынеслі габляваных дошак, прыладзілі на казлы, заслалі газетай. Дасталі, у каго што засталося ад абеду, — засталося ўсё. Не абедалася. У Сенькі торгала шчаку. Ён прысеў на рагу, нібы хаваючыся за шырокую спіну Васі-маляра, каб дужа не фігураваць у кампаніі.

Пачыналася нудна, нялоўка, хоць дырэктарка старалася за сталом трымацца проста. Як тут запанібрацтвуеш, ці адважышся на брударшафт — многа хто з работнікаў вадзіў дзяцей у музычную школу. Але слова за слова, налілі па другой — каб дах не цёк! Камандавала Аліна. Шчокі і ў яе паружавелі, і пасля трэцяй жанчына нібы мімаходзь, ды з застарэлай крыўдай упікнула, што яе дачцэ не далі пасведчанне аб заканчэнні школы, бо блату не было.

— Аліна Янаўна, ваша дачушка зусім не хадзіла на заняткі. На кожны ўрок прыходзілася цягнуць, як цялушку на прывязі. Хадзілі па яе на дом, ці ж гэта работа? За кожным вучнем не находзішся.

— Але ж грошы плацілі.

— Вось і стала шкада вашых грошай — адлічылі са спісу навучэнцаў.

— Што, Алінка, захацела дачцэ лёгкага хлеба прыдбаць? — каб закругліць па-добраму размову, няўдала пажартаваў хтосьці з брыгады.

Аліна спакойная жанчына, міралюбівая, ніколі б не пачала такой гамонкі, але часта ў брыгадзе і на прадпрыемстве заводзілі гутарку, як прыстроіліся музыканты: цёпла, чыста, нічога не трэба рабіць — сядзі, слухай музыку ў задавальненне. Зайздросцілі лёгкаму хлебу. Лёгкі хлеб чамусьці не даваўся іх дзецям. Не хапала цярпення, стараннасці, таленту, працы. Бацькі паслухаюць звяглівае рыпанне першых заняткаў сваіх музыкантаў ды пакідаюць мару пра лёгкі хлеб. Забіраюць вучня са школы, каб дарэмна грошы не траціць.

Сеньку таксама карцела падтрымаць брыгадзіра, хацелася тут жа ўчыніць вэрхал. Ды сваіх дзяцей не вадзіў у музыкалку і не ўлавіў, пра што гаворка.

— Які тут блат?! Любога, з панадворку ўпрошваем, абы вучыўся. Па тры разы прымаем: пакінуць школу — вяртаюцца, пакінуць — вяртаюцца.

— Няхай бы дакумент быў.

— І навошта вам тая папера здалася? Каму паказваць будзеце? Дакумент з музыканта пытаюць ці музыку?

— Музыку, музыку! Пайграйце нам. Паспяваем, — загаманілі за сталом.

Кагосьці выправілі па акардэон. Прынеслі бліскучы, чорнага колеру інструмент з бляшанымі літарамі на ўвесь фасад — WELTMEISTER. У калідорчыку, які ўжылі за сталовую, раптам успеніліся гукі. У пустым пакоі ад новых сцен адбілася рэха, моцнае, звонкае. Застолле ажыло, хлопцы павесялелі. Дзве маладзіцы з новенькіх рознарабочых паўскоквалі з лавы, кінуліся танчыць.

— «Цыганачку» можаце? Сыграйце «Цыганачку»!

Яны са смехам матлялі шырокімі штанінамі камбінезонаў, нібы цыганскімі спадніцамі, ускідвалі худыя рукі да столі. Распусціўшы валасы, фарбаваныя аж да сіні чорным колерам, нязграбна трэслі плячамі, выдаючы «прысутнасць бюсту».

Сенька ўпотай мацюкнуўся. Яму зусім не падабалася, як выглядае цяперашняя моладзь. Дзеўкі палілі, пілі на ўзроўні з брыгаднымі хлопцамі, валасы фарбавалі пад белабрысых снягурак альбо пад кітаек. Яны прылізвалі чубы набок, нібы ў Гітлера. Мода — адна пад адну — сухарэбрыя жардзіны! Вочы нахабныя, глядзяць ва ўпор без сораму. Прытым нейкае раўнадушша ў твары, бы лялька — не жывы чалавек.

Застолле зварухнулася, пайшло проста, весела. Жартаваць пачалі, вальней трымаліся хлопцы. Потым, як паселі танцоркі, загучала сумная старадаўняя песня.

То не ветер ветку клонит,
Не дубравушка шумит.
То моё сердечко стонет,
Как осенний лист дрожит.

У Сенькі аж запякло ў грудзях. Успомніў, як гэтая музыкантка маладой дзеўчынёшкай з’явілася ў іх мястэчку. Сеня закахаўся

адразу, хоць быў маладзейшым гадоў на пяць. Тады Сеньку яшчэ і на танцы не пускалі. Прарвецца неяк абманам, у кутку сядзе, схаваецца за дарослых і назірае за ёй. Проста следам хадзіў, але ўсё ўпотай. Раптам у цэнтры пасёлка ці на кірмашыку выпадала сустрэцца з дзяўчынай вачамі — заліваўся чырванню, быццам яна штось пра яго ўведае. Цягнулася б таемная закаханасць, ды раз такое нарабілася, што сам Сеня не здольны патлумачыць, бы навалач якая на яго ўспала. І не думаў, і не збіраўся, само сабой выйшла. Ён ужо працаваць пасля школы ўладкаваўся на будоўлю. Напярэдадні мальцы запатрабавалі першую палучку адзначыць. Ішоў на работу з нясвежай галавой, пераходзіў вуліцу цэнтральную — яна насустрач. Зіма, снег у твар, слізка, машыны наўкола снуюць, а Сенька схапіў музыкантку за руку.

— Люблю цябе. Выходзь за мяне — усё жыццё кахаць буду.

Яна разгубілася, узіраецца здзіўлена ў вочы — ці не жартуе хлопец. Зусім ад парты, халасты. У яе руцэ пачэпачка ад санак, у санках двое малых.

— Ну што вы? — апамяталася. Ласкава так, па-сяброўску загаварыла. — Не трэба. Што вы? У вас усё яшчэ наперадзе, сустрэнеце сваё.

А машыны па абодва бакі сігналяць, прытарможваюць, знаёмыя шафёры ў форткі торкаюцца, насміхаюцца.

— Ну, Сенька!

— Ого — куды махануў!

— Бач, дадумаўся!

— У качагары да музыкантак наймаешся?

Мелодыя паласавала сэрца. Сеня рашыўся выглянуць з-за пляча Васі. Ён ухапіўся дзвюма рукамі за лаву, прыгнуў шыю, быццам балючы ўспамін той хтосьці зараз здолее разгадаць, прылюдна выкрыць. Плакала мелодыя, плакала душа Сені, а потым штосьці пайшло не так — зайграла варыяцыі. Толькі пачне прыслухоўвацца Сеня, пазнае матыў — як яго кудысьці заводзіць не ў той бок. Зноў выплыве знаёмая мелодыя, вось-вось словы

прыпомняцца з песні — ды музыка робіць паварот: непрыемны, нечаканы. Пальцы музыканткі пырхалі над клавішамі, нібы камары мак таўклі, у вузлы вязаліся і палівалі-палівалі, а музыкі няма! Яна не грэла: замест прыгожага матыву гучала штосьці лішняе, груваcткае, надуманае, быццам кузлы пляце. Так перапатрушыць песню! Ды акордамі — жах, жах па вуху! Варыяцыі — вар'яцыі! Бляха-муха! Абражае яна! Здзекуецца з іх наўмысна!

Зашкрабло Сеньку нясцерпна! Захацелася ўстаць з-за стала, перакуліць лавы, ірвануць на грудзях кашулю. Вучаць іх, вучаць там у горадзе, а яны вяртаюцца такімі важнымі, ганарлівымі, нібы з іншага цеста лепленыя! Не любіў Сенька вучоных. Ён і сам мог вывучыцца, галава хваткая, задачкі, што семечкі лузгаў, ды не было каму яго вучыць.

Сенька паўглядаўся ў твары брыгадных — хлопцы таксама не слухалі, пачалі гаманіць, падымаць чаркі, закусваць, але гатоўнасці на бунт ні ў кім не адшукаў. Праглынуў сваю чарку і Сеня, не чакаючы здравіц. І адважыўся зноў выглянуць з-за пляча Васі-маляра — твар музыканткі быў ветлівы, светлы ні кроплі наўмыснага здзеку ў ім не было, ясна: сама зразумела, што нікому тут яе варыяцыі не па душы. Нават шкада Сеню стала яе і крыху сорамна за свой намер. Можа, і праўда, чагосьці не разумее ён у той музыцы?

Сеня дацёгся да дому без памяці. Жонка Таня хваляваца пачала, выйшла на панадворак, паўглядалася ў ноч, прыслухалася, ці не чутно дзе галасоў, і ледзь не звалілася ля варотцаў. Проста на зямлі, на халодным цэментаваным ходнічку ляжаў муж.

— Сеня! Сеня, што ты? — яна дапамагла падняцца, завалакла ў дом, сцягнула робу, паклала мужа ў ложак.

Сеньку трудзіла.

— Ці ж можна так набірацца? Праз меру, — яна папраўляла коўдру і прыгаворвала: — Ты ж мог і на дарозе кульнуцца. Ну як жа так, Сеня? Машыны лётаюць. Пераедзе каторы і не азірнецца. А як мы без цябе? Ты што, малы, Сеня? Як тады нам без цябе?

І ўрэшце Сеньку прарвала. Ён загаласіў па-дзіцячы, наўзрыд, жаласна, доўга, са слязьмі і сапылямі.

— Ну што ты, Сеня? — гладзіла Таня яго шурпатыя рукі, сухі, абветраны твар, ускалмачаныя валасы. — Нічога, нічога. Усё абыдзецца. Паспі, паспі. Паедзем вось з табой у нядзелю ў горад, купім табе куртку новую. Гэтая ж зусім абтрапалася. Не шкадуеш ты сябе, Сеня. І чаравікі я нагледзела, толькі прымерыць трэба. Нельга ў мокрым абутку восенню.

Сеня задрамаў лёгка, салодка, неяк у паветры, хоць доўга яшчэ чмыхаў носам і ўсхліпваў. Ён увачавідкі заўважыў, як боль і сум паплылі вунь у той дальні куток, зачапіліся за цвік і павіслі пучком засушанага палыну. Няхай вісяць, дачынення да яго яны цяпер зусім не мелі.

А Таня гладзіла яго галаву і прыгаворвала:

— Паспі, паспі, аддыхнеш, усё наладзіцца. Што ты, Сеня, нам без цябе няма як.

## Самастойны чалавек

— Усю ноч гуло. Чулі?

— Дзесьці вяселле гуляюць?

— Гэта ж Толя дачку аддае.

— Толя? Той самы?

— Нягож.

— Той, што трактарыстам робіць?

— Трактарыст.

— Ці не ТУЮ?

— Тую самую.

Толя: высокі ростам, светлавалосы, крэпкі, цяглы да работы чалавек. Пабачыўшы яго ідучы, падасца, быццам моцны вецер дзьме яму ў твар, так па-асобаму рухаліся яго рукі, ногі, тулава. Усім корпусам налягаў, нібы змагаўся са стыхіяй. Сам маўклівы, калі не зачэпіш, запытаюць — засмяецца, неяк з хітрынай, нібы

бярэ ход, абдумае, зірне ў вочы: ці не з падкавырам пытанне, ці не дурнем узяліся рабіць яго? Потым усім целам нязграбна павернецца, рукі доўгія раскіне, бы певень крылы, адтапырыўшыся крыху, а загаворыць добра, без злосці, не дзёрзка, без падтэксту. Любяць Толю многія, як любяць людзей, якія не выдзяляюцца, не выпінаюцца, якія жывуць па-людску: стараюцца як могуць — ЯК УСЕ.

Ён не тутэйшы, кавалерам прыехаў з чарнобыльскай зоны выселкамі, з бацькамі. Жылі спачатку ў інтэрнаце, потым атрымалі кватэру. Толеву маці хутка прызналі безнадзейна хворай, хоць і не давалі дактары прычынай радыяцыю, ды што гадаць. Сапраўдны дыягназ агучыць нікому не дазвалялася, памерла жанчына — і ладна, быццам невядома з чаго, як многія з перасяленцаў у тыя, пасляаварыйныя гады. Бацька хутка пайшоў за ёй.

Толя застаўся адзін без апірышча. Знайшоў вясковую дзяўчыну, прывёў жонкай. Волечка круценькая, бойкая, Толю слухалася ва ўсім, не пярэчыла. Аднаго за адным нарадзіла траіх дзяцей: апранутыя, накормленыя, не дуроныя, не перадкуюць і не з апошніх. Так і зажылі паціху: не ў раскошы-багацці, але і не бедавалі. Год за годам, год за годам. Каб не ліха — газіфікацыя вобласці.

Панаехала мужчын спрытных, снаровістых, упэўненых. Спецыялісты! Грошы — поўныя кішэні, лішкі ў кафэ, рэстаран нясуць. На выгляд прыгожыя ўсе, сучасныя, бывалыя, бойкія, смелыя, абыходлівыя. Той перыяд значна палепшыў дэмаграфію мясцовасці!

Вось у бытоўцы аднойчы і прыпыніў Волечку адзін з такіх: за руку ўзяў, па валасах пагладзіў, дакрануўся да вуха — быццам завушніцу паправіў, зірнуў у самыя вочы. Волечка ажно затрапятала. Нязвычна, туманна, бы ў маладым ранішнім сне. Няма ў чым папракнуць Волечцы мужа: працавіты, старанны, грошы не прапіваў — на сям'ю разлічваў. Ва ўсе дробязі ўнікаў, хоць дужа не даймаў кантролем, але на самадум нічога не пускаў. І ў

ложку не ленаваўся — удзяляў жонцы ўвагу. Але ні пяшчоты, ні ласкі не праяўляў, ніякіх іншых забаў не ведаў, фантазіі таксама не дапускаў і не адчуваў у іх патрэбы. Надта сямейны лад Волечцы даваўся не проста.

А тут! Зусім іншы імпэт — быццам на экране ў кінатэатры. Жанчыну ажно ў паветра падняло, ад турбот адарвала: ні табе гаспадарка ў галаве, ні цябе якія турботы хвалююць. Закруціла Волечку віхурам.

Людзі заўважылі, высачылі, не зразумелі, пазайздросцілі, данеслі Толю.

Біў. Жорстка, не шкадуючы. Волечка прыняла навуку як належнае: без крыўды, без спрэчак — заслужана. Толькі пасля сваркі яна зусім неяк панікла, зрабілася ціхай, змрочнай, нібы завяла. Пачала паўнець, прызналася праз паўгода: цяжарная. Толя грозна, дзіка заключыў, прыпячатаў — на-гу-ля-ла! Але на гэты раз не біў і гвалту дужа не ўсчынаў. Зацяўся.

За гародамі, гектарамі, соткамі, за сенам, грыбамі, нарыхтоўкамі… не было часу разважаць, разбірацца, прыкідваць: «Гыр-гыр, бур-бур, гаў-гаў» — так між імі прайшлі наступныя месяцы, і вось пара прыспела. Паехала Волечка адна ў раддом (як, між іншым, і першыя разы, — не цукровая!), лёгка радзіла — дзяўчынку — і назаўтра ж вярнулася дамоў вольная. Турботы чакаюць.

— Аа-яй! Чулі?

— Пакінула!

— Выраклася!

Ніхто б Толю не асудзіў, не папракнуў, даравалі б з ходам часу і Волечцы. Пагаманілі б, папляткарылі крыху — і будзе. З кім не бывае? Усе не без граху.

— Спазніліся плёткі. Прывёз Толя малое.

— Паехаў, забраў дачку дамоў. Гадуе, з рук не спускае, няньчыць, цалуе-пестуе.

Сапраўды, ні аднаго са старэйшых дзяцей Толя так не шкадаваў, не хінуўся, як да гэтай кволай маленькай бялявенькай малышачкі. І чамусьці ні адзін з яго ранейшых дзяцей не паходзіў на бацьку так, як яна: точ-у-точ — рыхтык! Ва ўсім падобнай удалася, не толькі тварыкам, валосікамі, постаццю — увабрала ўсе яго выхадкі і звычкі. Тая ж, толькі па-дзіцячы мілая, нязграбная пастава, і крылцы тапырыла не па-петушынаму, а як верабейка — так і зваў яе Толя. Менавіта праз дачушку, паскробыша, найбольш, найгарачэй праявілася яго бацькоўскае пачуццё, душэўная цеплыня, любоў. Штодзень, тонкай ручкай ахапіўшы шыю, малая едзе на бацьку «дзеды-бабы», ці проста на закорках у садок, у магазін, у госці, куды наладзілася апошнім часам хадзіць уся Толева сям'я, да новых знаёмых, прыезджых з вёскі людзей. Сядуць, пагамоняць, вып'юць, заспяваюць, пасмяюцца і дружным шнурочкам дамоў вяртаюцца.

Выбіраючы дачцэ-нявесце строі, Толя рашыў: і бацькам трэба належны выгляд мець. Купіў новы касцюм сабе. Жонка прыбірацца любіла: некалькі сукенак пад парады цікаўных жанчын на базары перамерала, а выбрала даражэйшаю, такую, як у намесніцы начальніка цэха.

Пад час урачыстай цырымоніі ў святочна прыбраным палацы, падвялі на паклон да бацькоў маладых. Толя ледзь трымаўся, вусны дрыжэлі, ражкамі паўзлі ўніз, ён сілай расцягнуў іх ва ўсмешку. У вачах закалола, заказытала, але Толя торгнуў плячамі, як звычайна рабіў хвалюючыся, павярнуўся нязграбна, раскінуў рукі, кіўнуў галавой, і буйныя слязіны неўпрыкмет скаціліся на новы пінжак. Ніхто нічога не заўважыў, абышлося.

Адбалесавалі: з музыкантамі ўдалося нядорага дамовіцца, тамада папаўся харошы, сваты важныя былі, аўтобус заказаў, «цем болі» — лялька з кольцамі на капоце сядзела. Ды ўсё як у людзей — не горш!

— Самастойны чалавек Толя.

## Вандроўка

1995 год.

Сеўка ў той Мінск паехаў чаго — запчастак да трактара нагледзець. Мо хто і пасмяецца: «Па мехдвары хадзіць — ды ў сталіцу па запчасткі ездзіць!» — толькі ў Сеўкі Лабанка такі закон: жыць са свайго, ды і трактар гэты далі яму за «доўгагадовую добрасумленную працу ў сельскай гаспадарцы», і не тады, калі трактары па звалках можна было сабраць, а цяпер, як ім цану пазналі, ды не дакупішся; так што трактар яму ўтрая даражэйшы, не па грашах, па сэрцы (няхай і спісаны, а на ходу), і запчасткі да яго красці выходзіць абразай.

Настрой быў адмысловы. Цягнік па такім раскладзе хадзіў, што Сеўка ўсюды паспяваў: і па сваіх клопатах, і горад паглядзець, як цяпер людзі жывуць, і нават мару сваю здзейсніць… Пра яе, барані Бог, нікому б не прызнаўся.

З яго і так кпяць — надта ціхі, паслухмяны. «Халуй, ты Лабанок, колькі цябе ні цісні — усё сцерпіш. Пры ўсіх начальніках перадавік!» А што начальства, калі чалавек усё спраўна робіць? Ціхі, дык гэта прыроднае, усе Лабанкі не задзірлівыя.

Асабліва вось цяпер хлопцы асмялелі, як Саюз развалiўся, калі што — бастуюць, спрачаюцца. Яны праўду кажуць: і як старшыня сабе «Волгу» купляў, і як калгасам пабудаваны дом прыхватызаваў, потым за мільёны прадаў, дамовіўшыся з дырэктарам вінзавода, а сам сышоў у выканкам начальстваваць… Перад тым цэлы вывадак адборных норак спісалі, і куды паліва дзяецца, калі тэхніку іншым разам няма чым заправіць, і што пры такой уладзе нічога не нажылі. Ён і Сеўка — анічагуткі не нажыў, толькі пры чым жа тут зямля, яе ж араць трэба.

Шукаў ён загвараздку ў сабе, чаму такім удаўся (разважаць любіў — хлебам не кармі), — знайшоў. Тут — я вам скажу! У такі момант здаецца яму, што за ўсіх разумнейшы і проста не здольны слабейшага розумам пакрыўдзіць. Без крыўды, талкова,

дакладным словам выказаць думкі Сеўка не ўмее, а крычаць бязглуздзіцу, як іншыя, саромеўся.

Справіўся Сеўка да паўдня, прайшоўся па праспекце — добра людзі апранаюцца, не тое што ў вёсцы, — зірнуў на сябе ў шкло вітрыны: чаравікі рудыя, штаны чорныя, пінжак сіні, — адным словам «хабёл», як у нас кажуць, нават адчуваць сябе стаў неяк нязграбна. Але і гараджане невясёлыя — снуюць як мурашкі, спяшаюцца, усе падчыстую ў свае думы занурыўшыся: няма калі спыніцца, неба вокам акінуць. Горад што адзін вялікі рынак — гудзе, мітусіцца. За гэты час Сеўка стаміўся, як поле ўзараўшы. Дома б выйшаў на ганак, абцёр бы яблык, прысеў на прыступку — само-сабой стому адцягнула б, а тут яшчэ разбярыся, якім куды транспартам трапіць.

Рэшткі часу якраз хапала, каб ажыццявіць задуму, і Сеўка рашыў найперш перакусіць. На Камароўцы ён стаў у доўгую чаргу па смажні і праз некалькі хвілін апынуўся ля чана, з якога падымалася пахучая пара. Сеўка палез у кішэню. І тут падышоў хлопец цельпукаватага выгляду ў спартыўным касцюме. Маланка курткі была расшпіленая ледзь не да пупа, так што яго ружовы круглы жывот і касматая грудзіна агаліліся. Яго хада і пастава мелі такі ўпэўнены нахабны выгляд, быццам увесь свет — яго ўласная вотчына і зараз ён пачне тут камандаваць на свой лад і густ. Не мовіўшы ні слова выбачэння, хлопец падаў прадаўшчыцы грошы і расхінуў шырокую пашчу скураной сумкі; пры гэтым, смела арудуючы локцямі, не зважаў на тое, што распіхвае людзей.

Лабанок хоць і спяшаўся, але па сваёй звычцы сабраўся змоўчаць — свайго розуму нікому не ўложыш. Ды жанчына, якая разлічвалася перад ім, павярнулася і так грэбліва зірнула — Сеўку аж запякло. Такая злосць на сябе забрала.

— Стань, хлопец, у чаргу, як усе.

Той спакойненька так прыціснуў красоўкай Сеўкаву нагу да асфальту…

— Прикрой рот, мужичок. Ш-шяс ляжешь, л-лох!

Калісьці, яшчэ малымі, іх вазілі ў Маскву на ВДНГ, хлапцам даражэй за ўсё робатаў паглядзець, ды вось сам Сеўка якраз захварэў і застаўся дома. У гарачцы трызнілася яму, што і ён на выставе ды сумеў адзін таго робата ўключыць. Рукатворны чалавекападобны нелюдзь пайшоў на яго, аслупянелага, са здранцвелымі нагамі. І нічога ж той робат не рабіў, толькі сунуўся, але ў ім не хапала нечага такога важнага, неабходнага, такога… Сеўка зароў што духу немым голасам, аж прачнуўся.

Цяпер стаяў Лабанок перад дзецюком твар да твару і адчуваў тое самае, што і ў даўнім сне. Сказаць, што забаяўся, — не. Не паспеў, ды і дадумаўся ён адзін раз да таго, што смерці баяцца няма чаго — адно яна ўратаванне ў жыцці. І не таму, што жыццё дрэннае. Сеўка дужа любіў жыццё, якое ёсць — хадзіў шчаслівым. А таму, што не змог бы чалавек жыць вечна, — атупеў бы, здзічэў, ачарсцвеў, нічому б ні радаваўся, не гараваў — толькі што існаваў.

Напомніў цяльпук яму тое жудаснае аслупяненне. Здалося Сеўку, што перад ім не чалавек, а механічная істота, такім нежывым, нерухомым быў яго твар. Моцны падбародак выдаваўся ўперад, гідліва скрыўленыя вусны, вочы — застылыя і невыразныя. У яго вачах таксама нечага не хапала. І тым было страшней, што ўсё-ткі гэта ж не робат, а як-ніяк чалавек. Глядзеў Сеўка ў белыя вочы хлапца, і холадам яго ахінула — ніякага адгалоску.

— Адыдзіся, малец, — ціха, здаўлена, але бясстрашна вымавіў ён.

Зверху выразна было відаць, як цяльпук сеў у машыну без нумароў, жанчына заспяшалася прэч, а міліцыянер, што стаяў тут непадалёк, падышоў да шчуплага цела мужчыны гадоў сарака пяці, ужо споўзлага з чана на зямлю, махнуў рукой: «Братва са сваім разабралася», — і пачаў штосьці казаць у прыёмнік.

А Сеўка яшчэ так і не зразумеў…

## Зорны час

Ваўрыневіч перажываў свой зорны час. Ён заўсёды ведаў і памятаў: як чалавек паварочваецца да жыцця, так і яно ўрэшце павернецца да чалавека. Сказаць, што Ваўрыневіч шацунчык, нельга і няпраўдай будзе. Нічога яму не валілася з неба. Дасягнутае за сорак тры гады мусіў Ваўрыневіч дабываць высілкамі, цярплівасцю, стараннасцю, паслушэнствам — службай, адным словам. Хто служыў, таму распавядаць не трэба. Ваўрыневіч служыў міліцыі больш за дваццаць гадоў. Ад першых дзён зразумеў: як з цярпілавым не сябруеш, лепш скідай пагоны як мага хутчэй, іначай да бяды недалёка. Ён па прыродзе чалавек мяккі, многае такімі прымаецца лягчэй. Жлабом не быў па той жа прычыне, аднак і ў халуях не хадзіў. Ніхто не ткне пальцам. Усё астатняе, як кажуць, — жыццё такое, нічога не зробіш… Аднаго баяўся — не ўпасці ў грэх, не забіць чалавека, не нарабіць дзяржаве блоту. А з такім падыходам на пагоны зорак не нашпіліш. Ваўрыневіч усё ж надзеі не губляў і чэсна нёс службу. Калі за святочным сталом пачыналі спяваць «Афіцэраў» Газманава, на словах «ваша сэрца пад прыцэлам» Ваўрыневіч ледзь стрымліваў слёзы, такім чуллівым і кранальным быў чалавекам. Канечне, яму не хацелася сваёй жаласлівасці выдаваць перад саслужыўцамі і знаёмымі. Жонка яго характар цаніла. Асабліва зараз, як яму нарэшце далі капітана, жонка пранiклася да мужа асаблівай павагай. Самому ж Ваўрыневічу, наадварот, менавіта цяпер стала перашкаджаць залішняя эмацыянальная няўстойлівасць яго натуры. Вось і сёння.

Кіраўніцтва даручыла Ваўрыневічу «произвести доклад» перад рэпарцёрамі і тэлекамерай, а ён не можа сабрацца. Які раз пачынае рапарт: то вусны задрыжаць, то шчака торгаецца, то ў горле перасохне да кашлю.

— Не хвалюйцеся так… Паспрабуйце сваімі словамі пераказаць, прасцей будзе, — супакойвала яго сімпатычная дзяўчына, папраўляла на ім гальштук, выцірала спатнелы лоб.

Якое сваімі? Тут напісаныя і сто раз прачытаныя словы збягалі, сплывалі прэч неразборлівай стужкай.

— Спрабуем яшчэ раз, пачатак мы ўжо запісалі, патрэбныя кадры пакінем, няўдалыя выдалім. Зробім мантаж, усё будзе о’кей. Давайце апошні абзац, канцовачку. Не хвалюйцеся.

Канцовачка:

«Мы правялі цэлы рад разыскных і ісьледавацільскіх мерапрыяцій, бЫла прыўлічано бальшоя калічаства нашых апіраціўных работнікаў і сатруднікаў МЧС. Задзействаваны агромныя срадствА і рэсурсы, как мацір’яльнава, так і фінансавага парадка. Мы ўлажылісь у кратчайшыя сракА па ўрэмені раскрыцція прэступленія і паімкі злосных прэступнікаў».

* * *

А было вось як.

Пілімень прачнуўся злосны. Ён мог спакойна спаць яшчэ паўдня, ды так захацелася есці, што здалося — у сярэдзіне хтосьці высмоктвае апошнія сілы. Ён заўсёды хацеў есці, колькі сябе памятаў. Малы не раз чуў ад суседзяў і радні: «З чаго гэты хлопец расце? Век галодны, не кормлены, а во шыбуе ў выш і ў шыр?» Крэпка-то ў выш ён не шыбануў, спыніўся на 173 сантыметрах, а вось цельпукаватасці — дык і сам не рады. Пііменя ў тлустыя ніяк не запішаш, але з прычыны караткаватасці рук-ног ён сапраўды ну вельмі ўжо падобны да пельменя! Рухаецца Пілімень жвава, дробнымі крокамі, ён зусім не здольны спакойна хадзіць, толькі падскокам і подбегам, галава яго ўвесь час круціцца ў розныя бакі. Ці ад цікаўнасці, ці ад нервовасці. Карацей, Пілімень прачнуўся, гукнуў маці — ніхто не адазваўся. Ён раззлаваўся яшчэ горш, — значыць, маці зноў не начавала дома і паесці яму не ўдасца. Ён босымі нагамі прашлэпаў на кухню, пачухаў копчык, адчыніў лядоўню — адтуль шыбанула хваляй невыноснага смуроду. Халадзільнік стаяў пусты: пацёкі застарэлай крывавай жыжы ад даўна з’едзенага мяса, рэшткі-шкілеты сырой рыбы —

іх збіраліся зварыць кату, ды кот ужо тыдзень не паказваўся дома, відаць, сышоў на самастойнае харчаванне, не даючы даверу гаспадарам, зброджанае на дне слоіка варэнне і падсохлыя, сцямнелыя кавалачкі «Часціка ў тамаце». На ім і спынілася вока Пілменя. Яго страўнік мог пераварыць нават цэмент з вапнай, не тое што згноены часцік. Пацягнуўся па кансароўку і параніў аб востры ражок палец, глыбока, няўдала — на самым хадавым месцы, дзе гнуцца фалангі. Адразу кінулася цёмная густая кроў. Забінтаваць не знайшоў чым, пару раз абцёр палец аб штаны, пару раз пацёр руку аб руку і забыўся. Вышкраб кансароўку, кінуў у сметніцу бляшанку, туды ж і нераспячатаную ўпакоўку з хлебам, яго есці не стаў: змесціва поліэтыленавага пакета зарасло цвіллю. Пілмень апрануў сваю «зімалета» — робу бура-зялёнага ахоўнага колеру — і пабег да Цвіка. Па дарозе ён сунуў руку ў кішэнь, і аж запякло ў грудзях: намацаў там увесісты скрутак. Бабло! Адкуль? Хацеў узрадавацца. Ды ўспомніў учарашнюю сварку з сястрой. Валька патрабавала выкупіць свой пярсцёнак, які Пілмень здаў у ламбард. Грошай на выкуп не было, Валька дастала з моднага бліскучага гаманца гэты скрутак, кінула на стол.

— Калі заўтра тут не будзе ляжаць мой пярсцёнак — яйцы соннаму адрэжу.

З Валькай жартаваць не выпадала, гэта Пілмень вывучыў адмалку назубок. На сёння, значыць, праграма ёсць! Ідзём у ламбард. Настрой аптымізаваўся.

Цвік сядзеў на кухні, еў смажаную крышонку з апетытнымі шкарубачкамі. Пілмень выцягнуў з шуфляды лыжку і падсеў да стала. Цвіка кармілі як на ўбой. Маці дзьмула яму ў дупу ўсё жыццё і апекаваць збіралася да самай пенсіі, яго пенсіі, але дачакалася сваёй і памерла раптоўна, а Цвік ейны, па ўсім відаць, пенсіі не дачакаецца, бо ніколі і нідзе не рабіў. Хваліўся, што за ім лётаюць рэстаратары, запрашаюць шэф-поварам, але там мала, маўляў, плоцяць, а Цвік дарма працаваць не дурны.

«Свішчы», — думаў моўчкі Пілімень, але аддаваў належнае: Цвік мог прыгатаваць ежу, як было з чаго. А было, пакуль што, з пенсіі бабулі. Матчына маці гэтак жа сама, як і дачка-нябожчыца, дзьмула ў жопу Цвіку. Ёй ужо за восемдзесят: Цвік ганяе старую як Сідар казу, калі напіваецца, а напіваецца, лічы, кожны дзень. Дык вось яго кармілі як на ўбой, куды ўсё дзявалася — не вядома. Быццам саліцёр зжыраў знутры. Вечна насіў сіне-зялёны твар. Цвік высачэзны, худы, прамы як жардзіна, нягнуткі, і не толькі паставай: роўна і характарам — цвік-цвіком, уедлівы, упёрты, рэзкі. Жонка цвяліла: лепш бы такім нягнуткім быў у «нейкім іншым органе», толку больш было б. Пасля такіх слоў Цвік абражаўся, біў жонцы лыч, а тая не баялася ані — наўмысна нарывалася на бойку. Жылі кожны сам па сабе. Цвік сталаваўся пры бабулі, жонка з дзіцём пад'ядаліся ў ейных бацькоў. Сыдуцца на дзень, пасварацца, паб'юцца — і ў розныя бакі.

Галава Цвіка сапраўды напамінала шляпку цвіка. Яна пашыралася пад верх і вянчалася прыплюснутай фрызурай прамых, карабастых як дрот валасоў — «фуражка-аэрапорт грузіна».

Мінулы тыдзень Цвік з Пілiменем цягаліся па кропках — ламбардах, марылі і жартам маракавалі, як бы лепш абрабаваць парачку. Ламбардаў, як і казіно з гульнявымі клубамі наторкана на кожным рагу, многія сур'ёзна абсталяваныя электроннай аховай. Двума з іх запраўляюць амбалы-качкі. Яны, канешне, проць Цвіка і Пілiменя — пыл, гэта ясна! Але лепш выбраць той, дзе баба сядзіць. Бабы ва ўсіх кропках сядзелі хліпенькія, як на падбор, і не дужа злыя. Многія ламбарды месціліся ў «нявыгадных» шматлюдных павільёнах — не ламанеш. Затое два нагледзелі — самае тое! Вось у такі «ідэальны па ўсіх паказніках», яны сёння выправяцца забіраць Вальчын пярсцёнак.

— Бачыў? — аблізваючы лыжку з апошняй жменькай крышонкі, Пілімень выняў з кішэні скрутак грошай, торкнуў пад нос Цвіку.

— Дзе ўзяў?!

— Дзе ўзяў, дзе ўзяў! З гаўна зняў. Вальчын пярсцёнак зараз пойдзем выкупляць.

— А-а. Во каб нам такі скрутачак, слухай! Адразу ў «Везувій» завалілі б такія! Сядзім такія за столікам, бля! Круты-ыя такія: «Чыскейк, хаддок… бягом, бля!»

— Давай што-небудзь здадзём, потым выкупім! — разласаваўся Цвіковай уяўнай карцінкай Пілімень. Цвік і сам ужо рашуча настроіўся.

— А што здасі?! Ні хера няма!

— Во, мікрахвалёўку тваю давай адапром. Новая амаль што.

— Шкада. Маці з першай і апошняй сваёй пенсіі купіла. Знаеш, як крута ў ёй усё разаграваць. Баба прытарабаніць дранік з мясам, а я такі клац пальцам, дзве мінуты — і гатова. Шкада.

Але Цвік ужо аглядаў кухонны электрапрыбор. Ён быў акуратыстам — узяў сцірачку, намачыў пад кранам, стаў праціраць печ СВЧ з усіх бакоў: пашоргаў па шкле акенца, зазірнуў у шкапік, там павыціраў, выцягнуў з разеткі шнур.

— Папёрлі! Толькі дагавор: кроў з носу — выкупім!

— Факт!

Мікрахвалёўку з прыскокам нёс перад сабой Пілімень. На метры два адстаючы, важна і нетаропка, як дэпутат на пасяджэнне, сунуўся Цвік.

Гэты ламбард арандаваў вялікі пакой у будынку гуртжытла якогась даследчага інстытута. На ўваходзе за сталом сядзела вахцёрка, а ў канцы доўгага пустога калідора налева, за жалезнымі рудога колеру дзвярмі прыёмшчыца чакала кліентаў. Першая палова пакоя пуставала, у ёй нецярпліва таўкліся Пілімень з Цвіком. Другую, надзейна і культурна адгароджаную моцнай металічнай рамай, выштукаванай з арматуры на манер мастацкага твора — букет цюльпанаў, займала прыёмшчыца. Пакуль жанчына адчыняла сваю гаспадарку пасля абеду, Пілімень разглядаў даўна знаёмы яму інтэр’ер закратаванай паловы. Там стаялі толькі стол з шуфлядкамі, высокая паліца пад аб’ёмныя

рэчы і сейф. Жанчына пазнала сваіх кліентаў. Дастала з сейфа Вальчын пярсцёнак, пералічыла атрыманыя грошы. Пілімень чакаў, трымаючы перад сабой мікрахвалёўку — прыткнуць яе не было куды. Палец яго паранены напругі не вытрымаў, лmusic на засохлым разрэзе і пацёк барвовай крывёй па белай бакавіне печы.

— Будзеце здаваць СВЧ?

— Угу, — пацвердзіў Цвік.

— Давайце пашпарт.

— Выцягні з кішэні, — падставіў свой бок Пілімень.

Прыёмшчыца ацаніла амаль новую рэч нядорага, — але ж і выкупіць будзе прасцей, падумаў Цвік. Згадзіліся. Жанчына перапісала звесткі з пашпарта Піліменя па новай, нягледзячы на тое, што ў яе на стале заставалася ляжаць квітанцыя ад Вальчынага пярсцёнка.

— А раптам пашпарт памяняў? — пажартавала яна.

Сейф тым часам стаяў расчыненым на працягу ўсяго папяровага працэсу, у ім віднелася добрая кіпа грашовых купюр і каробка з кулёчкамі, у якія пакавалі пад захоўванне залатыя вырабы.

— Ну, давайце, хлопцы, заносьце СВЧ сюды, стаўляйце на паліцу.

— Зорны час, — прашаптаў Пілімень на вуха Цвіку. Міргануў яму, паварочваючыся ў праходзе. Той не скеміў, разявіў рот і застаўся стаяць звонку.

Пілімень паставіў мікрахвалёўку на паліцу, кінуўся да жанчыны, скруціў яе рукі за спінай.

— Давай! — скамандаваў ён Цвіку непазнавальным голасам.

Той няўклюдна, запаволена пасунуўся за краты, пачаў вымаць што пападала пад руку з сейфа і запіхваць у кішэні. Пілімень падганяў яго, адной рукой дацягнуўся да шуфлядкі, адчыніў, знайшоў некалькі купюр, стаў намацваць і ніяк не мог намацаць кішэнь. Яны так нерваваліся, што не заўважылі, як жанчына націснула кнопку бяспекі.

Пачатак:

«Сігнал з аб’екта паступіў у аддзяленіе апорнага пункта ахраны правапарадку ў 13.13, чэраз чатыры мінуты аўтамабіль з двумя сатруднікамі міліцыі прыбыл па вызаву на места сработавшай сігналізацыі».

Машына з сінімі пасачкамі спынілася ля гуртжытла. Двое ўзброеных, апранутых у бронекамізэлькі супрацоўнікаў міліцыі вышлі з аўто. Яны запыталіся ў вахцёркі гуртжытла, ці не здарылася што ў ламбардзе. Ці так спрацавала сігналізацыя?

— Не ведаю. Напэўна, так спрацавала. Я бачыла, як прыёмшчыца на абед выходзіла. Вярталася ці не — не заўважыла.

Міліцыянеры зірнулі ў доўгі цёмны калідор і вырашылі спачатку абысці будынак з вуліцы.

Працяг № 1:

«Сатруднікі міліцыі акружылі зданіе абшчэжыція, цем врэменем прэступнікі пакінулі памішчэніе ламбарда».

Пілімень і Цвік выбеглі з гуртжытла і даліся за агароджу ў кусты. З кішэняў ва ўсе бакі пырснулі россыпам і паштучна залатыя ювелірныя вырабы.

Працяг № 2:

«У працэсе расследаванія прышлось абрашчацца к помашчы металаіскацеля. Нашы сатруднікі вынужджэны былі скрупулёзна і шчацельна абследаваць маштабныя церыторыі с цэлью атысканія ўкраденых і пацераных у ходзе бегства прэступнікаў ювелірных ізделій із золата. Прахожыя людзі прынасілі свёрткі с залатымі ўкрашэніямі, найдзенымі на тратуарэ. Многае з украдзенава ўдалось вярнуць владзельцам ламбарда».

У канцы завулка Цвік з Піліменем спыніліся, паваліліся на газон. Яны, нязвыклыя да фіззарадкі і спартыўных нагрузак, захакаліся.

Калі выкліканая падмога ў выглядзе аператыўнай групы ўварвалася нарэшце ў памяшканне ламбарду, раз’юшаная прыёмшчыца падала ім пашпарты і квітанцыі «кліентаў».

Працяг № 3:

«У ходзе правядзенія аперацiўна-разыскных мерапрыяцій следствію ўдалося па крупіцах сабраць мнагачысленыя ўлікі ў выглядзе атпічаткаў пальцаў, крові, так называема, пяцен бурава цвета, непасрэдственна слядоў ад обуві і так далее. Даставерна следствіем устаноўлена прычаснасць данных ліц к угалоўнаму прэступленію».

— Ніхера-а. Хутчэй у «Везувій»! — падхапіўся першым з газона Пілімень.

«Везувій», клуб гульнявых аўтаматаў з невялічкім кафэ-барам, займаў суседняе памяшканне: дзверы ў дзверы з апорным пунктам аховы правапарадку, калі прасцей і больш звыкла, з аддзяленнем міліцыі. Ваўрыневіч выйшаў курнуць на ганак, у думках прыкідваючы, куды б маглі падацца рабаўнікі ламбарду. Разам з ім на ганак выйшаў з кафэ клуба «Везувій» знаёмы яму афіцыянт. Хлопец засмяяўся і па-сяброўску стаў падтруньваць Ваўрыневіча.

— Ну што, яшчэ не надумаў у прыватную сферу падавацца? Во як працаваць трэба! — Ён дастаў з кішэні той самы Вальчын скрутак. — Ты месяц будзеш заробак чакаць, які я толькі што атрымаў за адну падачу. У нас сёння «крутыя» чаявымі башляюць!

Свежыя кліенты клуба «Везувій» яшчэ і рот не паспелі адкрыць, каб паспытаць нядаўна прынесеную замову, як на руках злачынцаў клацнулі бранзалеты.

## Стары

Рыхтавацца на базар ён пачынаў ужо з вечара серады. Апаражняў заплечнік, шматлікія яго кішэні ад лішняй, непатрэбнай у чацвер драбязы. Лічыў грошы, адпушчаныя на трату. Аглядаў, чысціў ровар. Мыў загадзя лепшыя штаны, вытрасаў-выбіваў у двары на дроце сваю адзіную на ўсе выпадкі жыцця і надвор'я камуфляжную ватоўку.

Базар з’язджаўся ў Падсвілле раз на тыдзень, заўсёды ў чацвер, і прапусціць яго стары не мусіў. Гэты адзін дзень з тыдня ён рабіў сабе выходным, амаль што, бо пад вечар зноў вяртаўся ў буданчык «два на тры», дзе каторы год праходзіла яго жыццё з двухразовым на дні веласіпедным марш-кідком на чатыры кіламетры праз лес да сваёй хаты — пакарміць рабога ката Юзіка.

Кот быў малады, дужы і запраста мог абысціся без падкормкі: лоўчы быў кот — мышэй цягаў, складаў ля ганка штабялямі, але прывык да ласкі і сумаваў, калі гаспадару не выпадала ўкрасціся са службы і дастацца, каб перамовіцца, пачухаць за вухам, напомніць як завуць. Стары хоць на паўгадзіны, хоць на дваццаць хвілін, але заўсёды адмыкаў замок на дзвярах сенцаў, запускаў ката ў хату «паганяць дзічыну, каб не завялася здань», прысядаў на ложак, падзываў ката — той і сам бы прыбег, ускочыў, ды не смеў парушаць заведзены парадак, заглядаў у вочы, цярпліва чакаў, калі гаспадар пачне паляпваць па сваім сцягне шырокай загарэлай даланёй, сігаў на пеліну, будыкаўся, цёрся: стары гладзіў кацiную спіну, бліскучую, выгінастую — той удзячна працягла мурлыкаў.

Яшчэ адным чацвярговым рытуалам было купіць «Віскі», так гаспадар зваў каціны корм любой маркі. Пад заканчэнне базару ён абыходзіў усе прыватныя крамкі пасёлка, пачынаў ад лёнзаводаўскіх пяціпавярховікаў, дзе стаяў павільёнчык пад назвай «Корзинка», там заўсёды быў «каціны халадзец». Стары запіхваў бліскучыя каляровыя пакецікі ў левы вонкавы кішэнь заплечніка і радаваўся, здаецца, больш за ката, бо той не надта гнаўся за фірмовымі прысмакамі, але заўсёды з’ядаў пакладзенае ў міску да апошняга скрылька, у знак павагі і ўдзячнасці гаспадару.

Далей стары ішоў у «Партнёр», такую ж багатую і поўную разнастайным асартыментам прыватную крамку ў цэнтры пасёлка насупраць універмага. Тую ж, што стаяла на адным баку з універмагам, — «Вілора» — звычайна мінаў. Калі толькі прыйдзіся — батарэйкі ў ліхтары замяніць, ці мух многа за-

вядзецца ў службовым будане, тады зазірне набыць ліпучку, а так — анучы яго не цікавілі. Апошняй, на самым выездзе з пасёлка, у драўляным будынку панскіх часоў, месцілася крама Калакольцаў, так звалі яе жыхары па прозвішчы гаспадара, сама ж крама назвы не мела. Яна цанілася тым, што стаяла ля бальніцы і ў яе прыбягалі хворыя ў шэрых фланелевых халатах; бальнічныя і былі тут заўсёднікамі-пакупнікамі, то можна было сустрэцца з даўнім знаёмым, каго дарэмна лічыў пакойнікам, а во табе —жывы чалавек, кратаецца яшчэ паціху. Такі ўжо век, восемдзесят тры — не жарт! Не сёння — заўтра рыхтуйся сам і будзь гатовы пачуць усякае.

Падсвілле гуло ў базарны дзень. З усіх вёсак з'язджаўся люд — хто закупіцца, хто што прадаць «з гаспадаркі». Пастаіць, паслухае ля таго, ля таго — тут і поўдзень настае, базар пасля першай гадзіны апоўдні пачынаў складацца, зварочвацца. Вось тады і вяртаўся стары ў самую галоўную краму ў цэнтры на «біржы», тут у былым пры саветах рэстаране «Бярозка» адкрылі новую кропку «Він-кон». Назва шыфравала высокае начальства він- і кансервавага заводаў. Крама лічылася найвыгаднейшай. Яе не міналі ні мясцовая эліта, ні пралетарый, ні «пан», ні калгаснік, ні апошні жабрак. Тут налівалі з краніка, падвозячы з варот завода трактарам напрасткі акуратненькую пузатую цыстэрначку, запраўлялі праз шланг спецыяльна ўсталяваную ў магазіне ёмістасць — культурна абслугоўвалі насельніцтва; тут прадавалі віно ў маленечкіх, нібы ёгурт, пластыкавых «службовіках» па сто-дзвесце грамаў, пад фольгавай накрыўкай — вынось, пі за рогам, ці ў скверыку, што насупраць. Толькі тут прадавалі не з-пад палы — як ва ўсіх іншых магазінах пасёлка, адкрыта і без пароляў сваё мясцовае харошае віно. Стары браў сабе пару бутэлек моцнага.

Сын прывозіў з Мінска сухое — дарагое, «нянаськае», у вузкіх высокіх бутэльках з крута заглыбленым дном — казаў, на то асобна звяртаць увагу, маўляў, гэта і ёсць паказальнік са-

праўднасці. «Сікі сікамі тваё дарагое віно!» — выплёўваў стары «сцулі» з роту і наліваў свайго, і ніколі не даваў веры ніякім «паказальнікам», акрамя ўласнага смаку; ні чужым пахвальбам, ні тэлевізійнай рэкламе: паспытай — пазнаеш.

Ён даўна мог лічыцца глыбокім пенсіянерам. Ды пашэнціла яму праз сына атрымаць месца вартаўніка сядзібы якогась сталічнага бізнесоўца. Чалавек з Мінска паставіў добры дом ля рэчкі ў лесе пры самай шашы. Нейкі час над ім лунаў на флагштоку белы сцяг з чырвоным пасам у сярэдзіне. Спачатку вартавых было трое і заробак давалі сур'ёзны. Потым грошы ўрэзалі, а хутка і зусім пакінулі чвэрць ранейшага — ніхто не згаджаўся вартаваць за такі заробак. Стары застаўся адным, на каго хапіла ў мясцовага раённага начальства якойсьці сакрэтнай чвэрцьстаўкі пад аплату яго службы. Гаспадар, казалі, пасаджаны, а дом жа не кідаць бясхозным — прыйшлася сядзіба пад адпачынак тутэйшых. Заязджалі з дзяўчатамі ў лазню, спраўлялі застоллі. Так дзед застаўся служыць стоднямі, бясспынна. Па шашы снавалі машыны — спыняліся пагаманіць. Стары выходзіў за вароты, пастаяць, паслухаць навіны — хто памёр, хто папаўся, хто выкруціўся… Ён выслухваў гаворкі, зрэдку ківаў галавой, ці перапытваў, недачуўшы: «Га?» Праз адзіноту і няўважлівасць да пустых плётак ён зрабіўся тугавухім: «Га? А-а». — ці то згаджаўся, ці адмахваўся ад нецікавага ён.

Удаўцом хадзіў даўно. Першыя гады яму сваталі кандыдатак, угаворвалі пазнаёміць з жанчынамі, прывозілі здалёк: «Прыглядзіся, будзеш на старасці жыць з "інцілігенткай" — настаўніца!» Ён галіўся, стрыг валасы, ішоў у лазню, прыбіраў у хаце — інтэлігентная настаўніца ў першы вечар знаёмства напівалася як бэля, і стары не мог дачакацца цягніка, каб выправіць кандыдатку ў належным напрамку. Другая настойліва цікавілася, ці добрая ў яго пенсія. «А ну яе! — злаваў жаніх. — Я ў роднай жонкі ніколі пад пятой не сядзеў — буду нейкай бабе са свету патураць?!» Сватоў адвадзіў, але самі кандыдаткі ўпотай не раз

прыходзілі на хутар, нават маладуха з-за парты прысунулася пад градусам аднойчы, каб паведаміць, што працуе путанай і бярэ нядорага — за паўцаны згадзіцца. Атрымала пад зад і шуравала цёмным лесам назад у пасёлак: «Хто сам набіваецца — цаны не назначае!» Пытанне жаніцьбы прыйшлося закрыць.

Інтэліге-енткі. Ды ў яго свая жонка была — Цар-баба! Ён тутэйшы, шафёрам працаваў пры эмтээсе. А яна, хоць нарадзілася ў суседніх мясцінах, — з Харбіна сюды прыехала. Страх прыгожая! Валасы — хвалямі! Вочы выразныя, вясёлыя! А сама жывая, смелая. Якаясь таямніца вадзілася за ёй… Працавала ў Харбіне з паперамі сакрэтнымі і ніколі за жыццё не вымкнулася, што да чаго. А ён не лез пытацца — халера іх з іхнымі сакрэтамі! Да жонкі ў сяброўкі набіваліся самыя важныя пані, але ўсё больш з выгадай, прыходзілася ёй слугаваць ім: то бульбу дапамажы выкапаць — «я доктар, у мяне дзяжурства», то стравы нагатуй пад свята, то шпалеры паклей, прыбяры пасля рамонту. Быццам яна двухжыльная ці сваёй працы не хапае. Сяброўства! Вось жонка заўсёды ўмела трымацца інтэлігентна.

Сын, едучы па сваіх справах з Мінска на Браслаўскія азёры, мог заскочыць у вартавую будку, пахваліцца сталічным жыццём, як сабак кормяць «акарачкамі Буша», як чарговы раз купіў-прадаў яшчэ адну кватэру, як грошы лічаць не купюрамі — запячатанымі ляскамі банкаўскай пакоўкі: «Перакінь, Міша!» — і слугач яго, паслініўшы пальцы, доўга шалясцеў у шырокай скуранай сумцы. «Ай, сын, не ўчаствуй ты з імі! — махаў рукой у бок кагосьці не вартага ўвагі і нават назову стары. — Ты лепш людзям памагай. Памагай чым можаш». І заўсёды пратэжыраваў яму чарговага прасіцеля, не надаючы ўвагі таму, што сам прасіцель быў з тых, на каго махала рука старога, і шукаў ён паратунку не ад жабрацтва-гаротнасці — хацеў выкруціцца з няўдалай аферы, якая пагражала на гэты раз кратамі.

Сын меў «вялікія сувязі», суадносна «вырашаў вялікія пытанні». Ён хлопчыкам з’ехаў у сталіцу, каб стаць суворарскім

курсантам. Ці адыграла якуюсь ролю таямніца маці, ці не — невядома, бацьку і ў галаву не прыходзіла, што ў тую навучальную ўстанову не ўсіх прымаюць. Што не кожнага з сірот ваенных афіцэраў возьмуць бесперашкодна ў «славутыя суворាўцы». Сын не прайшоў стаадсоткава адбор па фізічных патрабаваннях, але курсантам залічылі. Вучыцца — і добра, думаў бацька, паступіў на юрыста — маладзец, працаваць афармілі пры галоўным сталічным аддзеле МУС — таксама няблага: «Старайся жыць, сын».

Сын стараўся: ён пераняў ад бацькі бязмежную цярплівасць, безадмоўнасць перад вышэйстаячым па рангу, звычку жыць па статуту — выконваць, не перапытваючы. Прыкладам адмалку заставаўся ўспамін, як пасля цяжкай працы ў міжкалгаснай будаўнічай арганізацыі бацька вечарамі мусіў начальству па розных патрэбах: вяселле, народзіны, юбілеі — цягаць браканьерскай сеткай рыбу. Як валіўся на дол выпрастаць скручаную радыкулітам спіну, як цёр збалелыя, сашморганыя да крыві вузлаватай рыбацкай сеткай рукі. Тады і ўелася ў сына гэта цяга — бездакорна дагадзіць начальству.

— Во мабільнік зноў зламаўся, — паведаміў стары сыну, які заскочыў транзітам на хвілінку.

— А дзе твой ранейшы? Гэта ж не той, што я прывозіў!

— Дык той нешта зламаўся. Піт забраў яго, мне гэты прывёз, трыста рублёў даў яму.

— Ты што, здурнеў?! За гэты чарапок ніхто шасцідзесяці не заплоціць. Трыста даў!

— А што я панімаю ў гэтых мабільніках? Ён сказаў трыста, я і даў. Халера з імі, тымі грашмі. Але во і гэты ціліфон не робіць — мне ён да лямпачкі, табе я званю заўсёды з дамашняга. Але Піт злаваць будзе. Ён па гэтых днях дзеўку возіць у лазню, а мне дазваніцца не зможа…

— Дык няхай за свае грошы купляе табе мабільнік, калі гэта яму нада. Чаму за твае?

— А ну іх, тыя грошы.

— Ты б лепі мне даў.

Стары адшпіліў рамяні заплечніка, сунуў руку ў дальні ўнутраны аддзел, выняў стосік купюр.

— На. На халеру яны мне? У мяне ўсё ёсць. Адзежы мне не нада. Есці ёсць што, у ката таксама. На халеру мне грошы?

Сын паклаў цючок у нагрудную кішэню. Міргануў свайму слугачу Мішу:

— Піт! Я ж табе казаў пра яго. Тут у бліжнім калгасе старшынёй быў, дабіў калгас да ручкі — абрабавалі купай звераферму, норак папі…дзілі. За гэта яго на вышэйшы ўзровень паднялі — удасканальвайся! Практыкуйся ў раённым маштабе! Першы намеснік цяпер — гаспадар у раёне!

Стары гаворкі быццам не чуў. Яго даўна не цікавіла ніякае начальства. У яго жыцці нічога не мянялася ні з тымі прозвішчамі, ні з другімі. Абы работа была. Во без работы — гібель!

— А! Во, забыўся. Піт пытаўся, можа, каму ў Мінску норкі патрэбны на футра.

— Пашлі ты яго на х… з яго норкамі.

Сын вазіў старога да сябе. Пад Мінскам у яго вялікі пляц, паставіў на ім чатыры будынкі. Але працавалі ў яго адны бадзякі пітушчыя, работнікі з іх — зжалься, Божа, трудоў! Стары прачнуўся рана — лапату ў рукі і — траншэю капаць. Да паўдня, пакуль прачнулася брыгада, выкапаў роў — тыдзень капалі б усёй брыгадай.

— Гэты чай такі дарагі, ты нават уявіць не здольны! — хваліўся сын, частуючы бацьку.

— Дык я, напэўна, з табой, сын, ніколі за жыццё не разлічуся…

Сын моргаў свайму слугачу, маўляў, стары зусім з глузду з’ехаў, баіцца — буду грошы спаганяць.

## Магутны мужык

— Не, бляха муха, мяне гэта казыча! Ну як яму магла такая клёвая мянушка дастацца?! — Кірык глыбока зацягнуўся і неяк раздражнёна з гукам выдзьмуў цыгарэтны адхон Янусю проста ў твар.

— Ідзі ты! — адмахнуўся той ці то ад дыму, ці то ад пытання. — Табе што, няма чым заняцца, як гісторыю мянушкі высвятляць? — пад канец фразы эмацыйны ціск аслаб, бо Янусь засяродзіўся на нейкім аб'екце ў канцы двара. Яны стаялі на гаўбцы трэцяга паверха — вызначыць, куды канкрэтна ўглядаюцца вочы Яна, не падавалася магчымым.

— Ну ты ж крыху даўжэй працуеш тут, няўжо не ведаеш, чаму яго так завуць?

— Яго так звалі яшчэ да майго прыходу сюды.

— Трэба ў Адама Папругі запытацца…

— Глядзі, каб ён табе распавёў.

— Чаму не?

— Адась плёткамі не займаецца: так разане, што цябе на раз адвучыць.

— Ну Венька Пуцык — той раскажа.

— Твайго Веньку самога трэба тры разы на дзень біць.

— За што?! — не жартам здзівіўся Кірык.

— А за прозвішча.

— Што з ім не так?

— Вунь — бачыш ля тваёй машыны рудым напісана на агароджы тры літары? — Ян кіўнуў у бок, куды раней углядаўся. — Па-жыдоўску так яно і будзе, як Венькава прозвішча.

— Быць не можа! Не трындзі! — заліўся дробным, як гарошак, рогатам Кірык. — Адкуль ты ведаеш?

— А ў мяне мама Сара Ізраэлеўна.

Нікому Восіч не перашкаджаў. Прыходзіў у офіс пунктуальна, абавязковым быў у справах. Далікатна трымаўся з усімі

ўзроставымі катэгорыямі. Хіба крыху злавала і абяззбройвала зялёную ўніверсітэцкую моладзь, толькі-толькі прыторкнутую стажорамі на выпрабавальны тэрмін у прэстыжную кампанію, якую не раз наведваў «грозны бацька», характэрная прытоенасць усмешкі і хітраваты позірк бляклых старэчых вачэй Восіча. Калі ў курылцы хтосьці спрабаваў сканфузіць «старарэжымнага дзеда» сучаснай камп'ютарнай фішкай, прынесенай са студэнцкай тусоўкі, высвятлялася, што дзед і сам не хіла прасунуты, тырчыць у тэме і валодае сучасным слэнгам не горш за кодара ці прогера.

Працоўны калектыў прадпрыемства, якое за апошнія гады вырасла ў геаметрычнай прапорцыі ў параўнанні з тым, першапачатковым, заснаваным у маладым веку Восіча (ну, не зусім маладым, але ж гадоў на дваццаць пяць ад сягонняшняга маладзейшым), патрабаваў быць у рэжыме. Калі чвэрць веку назад з сябрамі, былымі аднакурснікамі, арганізоўвалі яны адну з першых у краіне прыватную кампанію новага кірунку, усе здаваліся роўнымі, ва ўсякім разе думалася так. Зараз амаль нікога з былых не засталося, акрамя генеральнага, на чые грошы усё абапіралася, і вось самога Восіча. Менавіта гэтай прычынай і тлумачыла сабе прысутнасць «лядашчага пенсіянера» ў калектыве нецярплівая моладзь: маўляў, за тое, што плячо ў плячо з зубрамі стаяў ад вытокаў, тут і трымаюць яго толькі з павагі. Вельмі хацелася хутчэй заняць аўтарытэтнае месца ў калектыве, ды змагацца са старым лічылася «не камільфо». Насамрэч, кожны з іх у свой час займеў шанц апячыся ўласнай пыхай перад вопытам, спрытам, кемлівасцю і ведамі дзеда. Карацей, «цярпелі і трымалі» яго тут зусім не за выслугу гадоў. Былыя паплечнікі Восіча — хто памёр, хто сышоў на пенсію ад імклівага руху электроннага праграсу, які даганяць няпроста. «На здароўе!» — адказваў Восіч былым калегам, на агітацыю таксама пакінуць працу, пайсці на заслужаны адпачынак: паказвалі кашы з грыбамі, нахвальвалі ўраджай на лецішчах. Лецішча і Восіч меў, садзіў грады, паліваў сам — жонка гадоў пяць як памерла. Любіў і грыбы збіраць.

Усё ў яго ішло без мітусні. Заробак дазваляў дапамагаць сем'ям дарослых дзяцей і паездзіць у вандроўкі па свеце, чаго не мог раней дазволіць сабе на дзяржаўны заробак. І ездзіў у вандроўку Восіч зусім не ў сумнай адзіноце.

Каханне яго жыцця прычакала Восіча на сходзе гадоў. Блакітнавокую, мініяцюрную Эмілію ён любіў ад студэнцкіх гадоў. Выйшла замуж Эмма не за Восіча — за іх агульнага сябра, аднакурсніка, потым калегу, навуковага кіраўніка вось гэтай жа кампаніі: высокага, яскравага Яраша… Восіч ажаніўся з Тасяй, роднай Эмілінай сястрой. І пражылі вясёлай кампаніяй больш за сорак гадоў, нарадзілі дзяцей, дачакаліся ўнукаў і аўдавелі адзін за адным, спачатку Восіч і хутка Эма.

Па выхадных і святах Восіч рэгулярна гасцюе ў сваячаніцы. Святкуюць разам свае дні народзінаў, дзяцей-унукаў, пляменнікаў, разы тры на год кавалер вывозіць даму сэрца ў замежную вандроўку.

Ёсць таямніца яго мянушкі.

У калектыве ведаюць — Восічу хапае сто грамаў каньяку, каб асалавець. Тады ружовая лысіна і густа пабарвавелы твар пачынаюць ільсніцца, белы пушок на галаве робіцца яшчэ бялейшым, тырчыць у розныя бакі, бы намагнічаны, у такі момант яго прытомлены гадамі арганізм, дзе б яго ні застаў хмель, патрабуе адкінуцца на паўгадзіны для адпачынку.

Аднойчы генеральны дырэктар кампаніі ў момант прыліву сентыментальнага ўспаміну юнацтва ўздумаў наведаць ветэрана-аднакурсніка. Ён заглянуў у кабінет без асаблівай патрэбы, без справы — так, па-сяброўску, і тут яго вачам адкрылася выразная карціна: на працоўным месцы, проста за сталом, спаў вядучы спецыяліст кампаніі. Офісны камп'ютар, «зараджаны парнаграфічнай кінастужкай», дэманстраваў актыўны секс, на экране манітора шчыравалі спатнелыя партнёры, ля ног Восіча ляжала маленькая парожняя пляшачка з-пад каньяку. Генеральны

торкнуўся па інерцыі ў глыб кабінета, потым спыніўся, пахітаў галавой і выйшаў, шчыльна закрыўшы за сабой дзверы.

— М-могу-учий мужик! — пачулі на калідоры выпадковыя сведкі.

Падхапілі. Хутка мянушка прыжылася, а Восіч, здаецца, не даведаўся пра няўдалы візіт начальніка. Не раз пачуўшы дзесьці побач два гэтыя прыемныя словы, Восіч палічыў за права прыняць іх як ганаровы статус, належную і зусім не беспадстаўную ўзнагароду за доўгія працоўныя поспехі на прадпрыемстве.

## Невядомы прыпынак

*(Сон напярэдадні 9 жніўня 2020)*

Напэўна, спаў я, альбо глыбока задумаўся, бо, калі цягнік мой спыніўся шэрым ранкам — ці то быў надвячорак? — на якойсьці невыразнай станцыі, за лязгатам і мітуснёй не пачуў я металічнага, нібы запаволенага магнітнай плёнкай голасу дыспетчара, які аб’яўляў назву прыпынка. Магчыма, назвы і не прагучала, бо словы падаліся незразумелымі, зусім незнаёмымі. Спаў я? Які тут сон! Цягнік трасло і кідала туды-сюды, туды-сюды! Вагон трашчэў па швах, і дах, здавалася, вось-вось абрынецца на пасажыраў. Колы грукаталі на стыках, бразгалі зачэпы. Чакалася: кіне мацней убок — і пакоціцца цягнік пад адхон. Задумаўся я? Што мог я думаць доўгім марудным шляхам? Ён быў бясконцым, час цягнуўся нібы гумовы, у галаве асобныя словы боўталіся без прытулку, напэўна з ляноты, а то і без звычкі, яны не дужа жадалі складацца ў разумовыя паслядоўнасці. Я зірнуў праз шыбіну свайго вагона — на пероне гандлявалі ежай. Доўгія шырокія сталы ўздоўж пуцей стаялі застаўленыя рыбай усякага гатунку, у невялікіх конавачках бялелі і рудзелі гурбачкі рысу з паторкнутымі ў іх парамі доўгенькіх пруточкаў. Прайшла чутка, нібы цягнік далей адправіцца не хутка. Пасажыры сышлі на перон, хто куды разбрыліся па платформе. Выйшаў і я размяць

ногі, ачомацца з дрымоты. Паволі зрок мой пачаў адрозніваць людзей на прывакзальнай плошчы — то спрэс былі іншаземцы, маіх спадарожнікаў не засталося і следу.

Змрочныя насільшчыкі соўгалі перад сабою гружаныя паклажай вазкі. Яны нібы не чулі мяне, і нават не бачылі, ва ўсякім разе — увагі ніякай на мне не звярталі, іх вочы глядзелі ў адну кропку. Хада іх і ўсе іншыя рухі іх цел нагадвалі рухі электроннай дзіцячай цацкі — робата. Я так і не дазнаўся ад насільшчыкаў назвы дзіўнага прыпынку.

Чаму я не бачу сваіх спадарожнікаў? Іх ехала разам са мною шмат, яны кудысьці імкнуліся, іх багаж заставаўся ў вагонах, але… Дзе мой цягнік? Я кінуўся на свой пуць — там стаяў супермадэрновы экспрэс, яго дзверы былі зачыненыя і вагонаважаты паказваў машыністу адпраўную шыльдачку. Магчыма, цягнік мой пагналі ў тупік — я пабег поперак шчыльных радоў заклапочаных пасажыраў, прабіраўся лабірынтамі падземнага пераходу, пераскокваў праз чыгуначныя рэйкі, стукаў у высокую браму, заглядаў у шчыліну варот — за імі ў тупіку стаяў чырвоны паравоз. Я прыехаў сюды на блакітна-зялёным. Магчыма, ён чакае на запасным пуці? Я зноў бег, спатыкаўся, дапытваўся. Мяне ні хто не разумеў — і сам я не мог дакладна патлумачыць, куды я ехаў. Паўз мяне праносіліся доўгія гружаныя эшалоны таварнякоў. Праплывалі мініяцюрныя турыстычныя электравозікі. Углядаўся я ў шыльды іх назначэння — літары і словы здаваліся загадкай: я не ведаў такой мовы. Куды падзеўся мой цягнік? Дапытваўся я настойліва ў кожнага мінака. Куды падзеўся мой цягнік?! Але ж павінен быў перадусім я патлумачыць сам яго напрамак. А я не памятаў, куды ён вёз мяне.

Магчыма, удасца мне падмацавацца і потым, спачыўшы, я дам больш выразнае тлумачэнне, атрымаю выразны адказ? Сталы вабілі багатым заморскім сняданнем — хацеў, каб замовіць, спытаць я іх назвы. Меню мне таксама нічым не дапамагло — у ім пералічваліся стравы на незнаёмай мове. Спрэс сядзелі маленькія

жаўтаскурыя чорнавалосыя чалавечкі. Яны не звярталі на мяне ўвагі. Магчыма, тут самаабслугоўванне, мільганула здагадка: дастаткова пацягнуцца рукой — і атрымаеш жаданае. Сапраўды, смуглявыя бралі са сталоў усё, што жадалі. Пацягнулася і мая рука, але пападаліся чамусьці мне толькі аб'едкі.

Я зноў і зноў кідаўся на пошукі свайго цягніка. Гучней, гучней настойваў, дапытваўся ў чыгуначнікаў, мінакоў і пасажыраў, ці не бачылі яны блакітна-зялёнага саставу. Яны не разумелі мяне, але і сам я ўжо не разумеў, што шапталі мае змярцвелыя вусны — я ж не ведаў, куды вязлі мяне! Толькі ведаў, пакуль што, назву адпраўнога пункту і паўтараў, паўтараў, каб не забыцца, назву сваёй радзімы — а яна знікала, раствaралася ў памяці.

## Той жа мерай

Прачнулася з лёгкай галавой. Прыслухалася да настрою — ніякага сумневу не засталося. І што гэта было? Спакуса, навязлівая, разумовая спакуса. Вось праўду кажуць: Бог з намі размаўляе праз душу, а д'ябал галавою. Якраз і сон у руку! Напярэдадні сніўся. Вялікая куча г…на, а над ёй прапелер — будуць вялікія грошы, ды зляцяць прэч. Набрала на тэлефоне нумар бухгалтэрыі.

— Добрай раніцы. Касіру дайце трубку. Прывітанне. Пералічыце касу.

На тым баку провада падхапілася маленькая, сухенькая палахлівая кабетка, ціхенька заекатала, яе рукі задрыжэлі — нельга паказаць разгубленасці, нельга выдаць хвалявання. Нават пытання лішняга ў трубку няма як задаць — адразу ўловяць сэнс, здагадаюцца. А потым?! Ва ўсім і заўсёды вінаваты касір, як той стрэлачнік — яна так усхвалявалася, што пачала губляць патрэбныя рэчы: дакументы, штамп, пячатку, упусціла на падлогу звязку ключоў ад кабінкі, стала, сейфа: іх звон напалохаў яе, сэрца давала збой. Прыблізна ўдалося пералічыць грошы —

жанчыну праняло халодным ліпкім потам, па целе пабеглі ручаі. Касірка выйшла патэлефанаваць з другога кабінета — там ніхто нічога яшчэ не ведаў, а свае пачалі здагадвацца, прыглядацца, услухоўвацца. Недастача!

Ну як жа так? Яна заўсёды старанная, уважлівая, акуратная, скрупулёзная; выдавала кіраўнікам арганізацый грошы — заробак на ўвесь калектыў: пералічвала кожную капейку па колькі разоў. На даверанасці подпісы ставілі ўсе прысутныя работнікі бухгалтэрыі. Дык і адказваць не адна яна павінна! Як касіру працаваць, калі блытаюцца ў побыце два розныя ўзоры грошай?! Але каму гэта баліць… Вядома ўсім, ад прыбіральшчыцы да начальства: даверанасці ліпавыя. Ніякай адказнасці тыя подпісы не нясуць. Выдаваць грошы так запраста на ўвесь працоўны калектыў аднаму чалавеку права яна не мае — грошы возяць як папала, на папутках, без аховы. А што касіру рабіць? Транспарту аб'ехаць вясковыя школы, бібліятэкі, клубы ў аддзеле не даюць — начальства па ўласных справах катаецца, яшчэ і камандзіровачных сабе панаафармляюць роўна на другі заробак. Пярэчыць касірка не ўмела, не магла і запатрабаваць чагосьці самага неабходнага для сваёй работы. У загадчыцы заўсёды быў гатовы адказ: не згодная — ахвотнікі на ваша месца знойдуцца. І праўда, знойдуцца і будуць зад начальству лізаць, толькі б не страціць работу. Час такі.

Спачатку работнікі культуры па зарплату, ігнаруючы працоўны дзень, з'язджаліся з усяго раёна два разы ў месяц. Дык начальства прыдумала, як уберагчыся ад страты працоўнага часу: абавязала кіраўнікоў арганізацый забіраць грошы самаходам. Ні адзін кіраўнік не мае ні транспарту, ні аховы, ні спецыяліста па бухгалтарскім уліку, аднак згаджаюцца на беззаконную аперацыю з прымусу.

У касіркі заставалася надзея — недарэмна ж тэлефанавала дырэктар школы, раіла касу пералічыць, магчыма, у яе лішкі засталіся. Вельмі значная сума! А раптам і ў школе недастача?!

Учарашнім вечарам я падлічыла апошнюю выплату і заўважыла, што цэлы цюк нераспячатаных «зубраў» застаецца ў сейфе. Гэта, лічы, яшчэ адна месячная зарплата школы. Няўжо памылілася?! Папрасіла кожнага выкладчыка яшчэ раз пералічыць грошы. Ніхто не скардзіўся на памылку А ў сейфе спакуснай, ледзь не ў паўметра вышынёй, увесістай, каляровай вежай заставаўся цюк самых значных купюр: вышэй за «зуброў» намінацыі не хадзіла. Выдалі старым і новым эквівалентам, а ссумавалі ў адным значэнні? Пяць подпісаў пад даверанасцю! Ніхто не здагадаецца… Ніхто ніколі нічога не дакажа.

Ад першай хвіліны я ведала: лішак вярну касіру, але так хацелася памарыць аб ім. Вось ляжыць цючок, такі роўненькі, тугенькі! Тут і абутак сыну, тут і новыя куртачкі дочкам, тут столькі ўсяго неабходнага і неадкладнага, на што заўсёды не хапае грошай. Тут даўна і ў тры гарбы адпрацаванае і заробленае ў дзяржавы, але не аплачанае па справядлівасці…

Столькі гадоў працавала дарма! Ні выхадных, ні святаў дома не сустрэла: канцэрты, мерапрыемствы, сходы! А ўзнагародай толькі вымовы, кпіны, папрокі і кожны тыдзень праверкі, праверкі, праверкі. Хто правярае?! Невукі! Абсалютныя прафаны ў тваёй справе. Ускіпала злосць ад застарэлых крыўд. А гэты цяперашні новы абавязак — грошы вазіць на ўсю школу!

— Я не касір, не эканаміст, вы не маеце права прымушаць мяне вазіць на папутках, без аховы вялікія грошы. Увесь раён ведае, хто і калі возіць зарплату. Як абрабуюць мяне, хто з людзьмі разлічвацца будзе?

— Вы! — холадна і цынічна прыпячатала загадчыца аддзела культуры. — Не згодны — ахвотнікаў на ваша месца процьма! З вашага ж педагагічнага калектыву дачакацца не могуць, як бы ваша месца перахапіць.

Ніхто ніколі не дакажа, што грошы тут. Пяць подпісаў пад дакументам.

У бухгалтэрыі пад час выдачы грошай стаяла шмат работнікаў, прыезджых з вясковых школ, клубаў, бібліятэк. І хоць касірка на прамілы бог прасіла заходзіць не больш як па тры чалавекі, хтосьці торкаў галаву запытацца, забягалі па справах з іншых кабінетаў, без чаргі прасіліся на рэйсавы аўтобус, ды і сваіх людзей, пастаянных работнікаў бухгалтэрыі, сядзела ў пакойчыку за сталамі пяць чалавек. Прысутныя баілі байкі, дзяліліся вясковымі навінамі, жартавалі, смяяліся. Касір нервавалася. Рабіла заўвагі, патрабавала цішыні. Яе слухаліся — на кароткі час сціхалі, але заходзілі новыя кліенты, і хваля ажывала. Акрамя касіра, ніхто не пералічваў грошы, усе падпісваліся «аўтаматам».

Ніхто і ніколі не здагадаецца.

Ні пра што іншае, як пра той прыемны цючок, думаць не магла. Гэта не крадзеж. Трэба браць тое, што жыццё скінула з неба. Досыць думаць пра іншых. Ад малку знойдзены рубель заўсёды аддавала ў чужыя рукі. Вось і атрымала! Увесь калектыў на сваіх уласных аўто раз'язджае, а я — дырэктар — на папутках езджу. Злосна прыпамінала дзяржаве запазыкі перада мной, перабірала патрэбныя, проста — кроў з носу — неабходныя пакупкі. Дзеці паснулі, а ў галаве кваслі думкі: там яшчэ засталося на новую модную сукенку, я буду ў ёй такая прыгожая, новыя туфлі! Магла б купіць прас харошы. Мужу касцюм. І мяне адпусціла. Як рукой зняло. Стала лёгка-лёгка і смешна. Патраціла столькі сілы на бязглуздую фантазію! Побач пасопвае муж, ён кахае мяне, паважае. Вазьму той цюк — і павагі між намі не застанецца.

Хутка здараецца новае становішча. Везла грошы. (Адно палепшала: не трэба ў чарзе гадзіны вычэкваць, касір з удзячнасці за вернутыя грошы без чаргі выклікае.) Атрымала, падлічыла, распісалася, паклала ў звычайную жаночую сумку некалькі цюкоў запячатаных банкнотаў, выправілася на пошукі папуткі. Да мяне праз плошчу прамуе суседка з пасёлка, просіць пазычыць грошай.

— Нагледзела сыну харошы касцюм — не хапае крыху…

Свой кашалёк я сунула на самае дно сумкі, прыйшлося ісці з суседкай ва ўнівермаг прыткнуцца — не ў паветры ж перакідваць цюкі з грашамі. У фае першага паверха ўнівермага, перад уваходам у гаспадарчы аддзел, месціліся тры касавыя кабіны, паўз іх праходзілі туды і назад пакупнікі, касіры заадно кантралявалі выхад і гандлёвую залу. Адна з кабінак аказалася вольнай: тут і паставіла я на прылавачак сумку, дастала ўпакоўкі, выцягнула кашалёк, адлічыла грошы, падала суседцы.

— Хадзем пакажу, што нагледзела, магчыма, і табе глянецца пакупка.

Доўга я не бавілася: будынак меў тры паверхі, па некалькі аддзелаў на кожным — прабегла, мелькам агледзела вітрыны і накіравалася да выхаду. Сходзячы па апошніх прыступках я выразна адчула: якісь дзіўны морак, зачараванне пануе ў прасторы першага паверха. Гэта нельга патлумачыць. На касах ні аднаго работніка. Воддаль купкай сонныя прадавачкі. Самі сабе, нібы ў цягучым сіропе, рухаюцца безуважныя леныя пакупнікі — абедзенны, самы гарачы для гандлю час! Незнарок і сама я акунулася ў гэту дзіўную ірэальную субстанцыю, соннай мухай даплыла да выхаду, узялася за ручку дзвярэй, пераступіла парог, і ў апошні момант якаясь нябачная моцная сіла павярнула галаву назад. Ад убачанага ўсю скаланула, пераняла жахам.

Так ужо было аднойчы. У Ленінградзе ўсёй сям'ёй адпачывалі ў санаторыі. У Петра-Паўлаўскай крэпасці ля шапіка з сувенірамі дачка настойліва запатрабавала ўвагі. Тузала за руку, дапытвалася.

— Мам, ну мам! Паглядзі сюды! Які мне купіць значок, вось гэты ці той?

А галаву якаясь моцная сіла павярнула ў другі бок, наперакор патрабаванню дачкі. Рука цыганкі ў той момант выцягвала з маёй сумкі партманет — а ў ім грошы, усе, якія ёсць, дакументы і білеты на зваротную дарогу цягніком на ўсю сям'ю. (Тымі днямі

горад Ленінград зрабілі замежным, а мы нечакана аказаліся ў сваёй дзяржаве іншаземцамі.)

Вось і зараз — азірнулася. Сярод фае раённага ўнівермага ў час пік, роўна насупраць уваходных дзвярэй, зрабі колькі крокаў, у самым людным месцы, на пустым прылавачку нікім не кантралюемай тэрыторыі чакалі мяне пакінутыя цюкі банкаўскіх купюр — заробак усяго педагагічнага калектыву школы.

На тым падзяка лёсу не скончылася! Пенсійным векам зарабляла я на кватэры дзецям у сталіцы нянькай у заможных сем'ях. Мілы сэрцу занятак — невычарпальны інстынкт мацярынства жыве ўва мне. Узяліся купляць кватэры. Паехала ў банк мяняць заробленыя даляры на рублі, памяняла, сяджу на прыпынку, падыходзіць мой нумар аўтобуса, разам з ім дурная думка ў галаву: глянуць на атрыманыя рублі. Глянула, а іх няма: не забрала ад акенца пры касе. Мяне абслугоўвалі ў асобным кабінеціку, дзе сведак няма і наступныя кліенты нічым, акрамя сумлення, не былі абаронены ад спакусы забраць цючок, пакінуты на століку, некалькі тысяч даляраў. Касірка сядзіць за бар'ерам, грошы не бачыць. Некалькі кліентаў прайшло праз гэты кабінет, пакуль чакала я свой аўтобус. Мой дзесяцігадовы заробак чакаў мяне…

# Абсалютна адзін і другія

Разговор о героине и о прибыли стиха…

*Паэт Лёха Ніканаў*

Идиш погубит искусство…

*Саламон Міхоэлс*

* * *

А вось і я — вуаля! Гляджу на вас. Паварот галавы направа — ой! Штосьці не атрымалася, пачакайце, трэба ямачкі на шчоках паказаць. У камеру — профіль, анфас. Від зверху найвыгаднейшы: ніякіх зморшчын, ніякіх пухлін над веямі і, самае галоўнае, гэтыя абрыдлыя брылі зусім не відаць. Ну як? Усмешачку! Нішто сабе выглядаю? Паўтарыць у іншым ракурсе? Калі ласка!

* * *

Пасяленец нерваваўся. Стоячы ля акна, што выходзіць на сцежку паўз гулкай высачэзнай брамы і такой жа фундаментальнай агароджы, ён пазіраў з-за фіранкі. Хвілін пятнаццаць назад праехала электрычка, значыць хутка. Вось-вось. У яго ўжо трапятала сэрца, зацінала дыхаць. Ён адчуваў у сабе інстынкт паляўнічага. Далей так працягвацца не магло. Штосьці трэба з усім гэтым вырашаць.

* * *

Увесь свет — вуаля! Мастацтва, музыка, паэзія, выхаванне, каханне… Дзеля прэстыжу, дзеля рэкламы, славы, прыбытку — робім твар! Не для сябе — дзеля маркі, бо так крута, так прынята, лічыцца файным, класна, брэндава! Модны паэт: абавязкова ў рыфмах мат, сексменшасці, наркотыкі — без гэтых тэм не разяўляй рот! Модны музыкант: канечне, імідж сексі, патрасанне ў паветры пышнай фрызурай, адсутны позірк ракавой істоты ў стане экстазу, гады запар — мёртвы, залакіраваны «Шторм» беднага Вівальдзі! Модны

мастак: партрэты зайчыкаў у розных ракурсах, перамаляваных з паштоўкі, і дзесяць варыянтаў Джаконды да Вінчы, пафарбаваныя па алічбаваным трафарэце. Сучасныя «шэдэўры» — купляйце па мегакошце! Без моднага жывапіснага палатна ў інтэр’еры новых палацаў няма адпаведнасці належнаму ўзроўню прэстыжу. Па Джакондзе — кожнаму алігарху! І па ўласнаму партрэту ў каралеўскай позе з сабачай мордай ці свіным рылам замест твару — каму што адпавядае.

* * *

Гэты пляц у «крутым» пасёлку пасяленец купіў з гнілым паваленым парканчыкам. Магчыма, у будцы, што стаяла на сотках, сканаў якісь сусветна вядомы навуковец ці артыст, раней у гэтых мясцінах іншых не вадзілася — тут быў запаведнік геніяў. Нашчадкаў не засталося. Чыстая здзелка! Агент па продажы нерухомасці пацёр рукі і бордза абцяпаў справы. Пасяленец для сябе першым намерам паставіў: вывесці высокую агароджу, каб ні адна гніда носа не торкнула ў яго двор, не падглядвала, не вынюхвала, не зайздросціла — самую звышнадзейную агароджу.

* * *

Набывайце пітомцаў — вуаля! Гэта фішка апошняга часу, як у іншаземных серыялах, не проста сабачку, ката: менавіта пітомца. Хочаш — бясхвостага. Хочаш — бязвухага. Выведзем любую пароду, на любы густ! У вас бязродны дварняк? Прапануем новы варыянт, зірніце — тулава пакінулі, ногі ўкарацілі! Гэта так міла, смешна! Вось зусім без скуры. Яго на вуліцу трэба выносіць у футры. Мы скуру садралі з другой жывёлы і пашылі для вашага галыша такі спрытненькі лялечны палітончык! Не жадаеце? Тады выбірайце бязносага. Ён не дужа разумны, затое не паспее надакучыць. Задыхлівыя сабачкі доўга не жывуць. Яны хварэюць на бранхіяльную астму, хутка дохнуць. Нарадзіўся — захварэў — здох. Такі вось эксперыменцік вам на забаву запаволена канае ў вашай кватэрцы.

Ну нельга сабакам без пашчы з носам: іх потааддзяляльная сістэма ў доўгім сабачым носе.

* * *

Самую неадольную агароджу! І вось цяпер пасяленец сам мусіць выстойваць на дыбачках, каб з-за сваёй жа агароджы ледзь не кожны божы дзень узірацца ў сцежку. Чакаць…

* * *

Якая такая загадка ў нашай расе, што чалавек так бязлітасна зводзіць на шчэнт прыроду?! Няспынна, неадступна вядзе з ёй жорсткую барацьбу, бы з ворагам.

* * *

Падняўся пасяленец у дзевяностыя. Моцна падняўся! Адзін бог ведае, як выкручваўся, душыўся, траляваў, як удавалася абысці чорнымі сцежкамі законы, дамовіцца з падатковай, абхітрыць рэкеціраў, здароўе пакласці на тое, што любы нармальны чалавек мае ў нармальнай краіне ад звычайных пасільных заробкаў.

— Хутчэй ідзі глядзець! — паклікала жонка, яна ў такі час сядала перад экранам у дамашнім кінатэатры (!), уключала любімы канал «Савецкае кіно», падбірала пад сябе ногі, захутвалася ў плед і да апошняй валасіны ўнікала ў сюжэт. — Ці ты чуеш? «Гарадскі раманс». Ой! Тут такое каханне! Ён першы яе ўбачыў, павёў у рэстаран, яна сама прыйшла да яго з абшчагі… Ён яе кінуў, а потым захацеў вярнуцца. А яна — не…

— Ды сціхні ты! Што мне глядзець, як ты ўжо ўсё распавяла — не паспелі цітры скончыцца?

— Пачалося ж!

— Зараз іду.

* * *

Чалавецтва ператварыла ўсё сваё жыццё ў вуаля!

Вам дзіця? — Выбірайце! Тут чорненькія, тут бландзіны, тут еўратып, тут азія; маці для дзіцяці жадаеце з вышэйшай адукацыяй альбо фізічныя паказчыкі ў прыярытэце? Жанчына-інкубатар. Жанчына-кантэйнер. Бізнес-мацярынства. Надыходзіць змяркание рэальнасці…

У вас нарадзілася дзіця! Яго неабходна «адксеракапіраваць» у першы міг яго жыцця на сотні кадраў! Плача — здымачак, усміхнуўся — здымачак! Поўзае, сеў, падняўся на ножкі, пайшоў — шчоўк, шчоўк, шчоўк! На само дзіця няма часу — няньку, няньку! Галоўнае — тавар тварам паказаць. Трымайце: тысячы, мільёны здымкаў. Жыццё прайшло — вуаля! Дайце яшчэ адно — не паспелі перагледзець усе кадры, фоткі, здымкі.

* * *

— Ну пачалося ж, кажу. Ідзі хутчэй глядзець. Музыка бесіць, ад яе чамусьці слёзы цякуць і сэрца пачынае ціснуць і ныць. Не каб далі чалавеку спакойна адпачыць, насалодзіцца!

Пасяленец ужо нічога не чуў, увесь яго слых, зрок…

* * *

А вось і зноў перад вамі я! Я так, і гэтак, і яшчэ вось так… Бо ніяк не магу знайсці праўды слова: я малююся перад вамі. Мой голас набывае інтанацыю пеўніка — Гогаль меў такую самую асаблівасць! Якаясь непадпарадкаванасць галасавога апарату. І вось ужо мая левая нага даўжэе, а правае плячо паўзе ўверх, так прарастае і выказваецца ўва мне значнасць, вялікасць. Падтрымайце! Магу спатыкнуцца аб няроўныя ногі і бразнуцца долу.

Звярніце ўвагу, калі падымаешся па лесвіцы прыступка за прыступкай, немагчыма рабіць твар. Вось як ідзеш уніз, лёгка клеіць з сябе каралеўскую асобу! А падняцца на сваіх нагах не проста. Не

атрымліваецца адначасова несці фізічную вагу, яшчэ і «вялікасць з самазначнасцю».

* * *

Уся яго ўвага, зрок, слых, свядомасць, калі толькі яна заставалася ў момант лову, нібы ўвасобіліся ўвачавідкі ў той істоце, што праплывала зараз па дарожцы прыстанцыйнага сасновага парку да высачэзнай агароджы. Падплывала — лепш не скажаш. Істота быццам і не кранала долу нагамі.

* * *

Калі проста — «та, ці-ці-ці, та-а» — просіцца флейта… Не! Флейта занадта гжэчная! Тут чуецца вулічны, вайсковы, глухаваты, расстроены кларнет. І зусім не «та, ці-ці-ці, та-а»! Вось: «Па-а-па-а, па-а-па-а», — нібы арэлі, рэхам, аддаленым, ясным, жывым, самастойным. Гэта пачатак! Яшчэ, яшчэ пачатак. Пачатак не азмрочаны, не затуманены будучыняй. Будучыня не патрэбна вечнасці. У вечнасці няма страху за будучыню. Пачатак і прысутнасць. Як у шчасці, кожнае імгненне — пачатак і прысутнасць.

* * *

Гэту кволую бесцялесную постаць нібы хтосьці звесіў з неба на нябачных нітках і, пасміхаючыся з назіральніка, проста на здзек яму, перамяшчаў у паветры без неабходных простаму чалавеку пры хадзе строга рытмічных рухаў ног, рук, тулава, галавы. Істота перасоўвалася ў самым сапраўдным танцы, бо ў яе мозгу бесперапынна гучала музыка. Як можна так хадзіць?!

* * *

Быў канцэрт у зале кансерваторыі. Бісіравалі да трох ночы, потым ішлі ўсе пеш. Неслі на руках.

* * *

У істоты не было патрэбнага для існавання і апірышча на зямлі прыцягнення, вагі, фізічнай моцы, дужасці, сілы. Халера ведае чаго! Але яўна не хапала, каб лічыць яе чалавекам. Пасяленца гэты факт начыста выбіваў з яго прывычнага, раўнамерна наладжанага жыцця.

* * *

Сучаснае мастацтва нараджаецца ад сімбіёзу генію з паталогіяй. Абавязкова да таленту патрабуецца дамяшаць гнілі, экскрэментаў — больш выразнасці, ударнай сілы — ды па чалавеку! Моцнадзейны прыём перарос у неабходнасць. Іначай ніхто твайго мастацтва не заўважыць. Ой любім! Любім пачухаць гнойныя прышчы — своеасаблівы эратычны масаж. Еўропа выдыхлася. Яна ўжо бясплодная. Даўна сядзіць на допінгу матываў і таямніц усходнеазіяцкіх культур. Еўропа здольная зараз толькі на адно — змагацца за правы сексменшасцяў, падсвядома маючы на ўвазе педафілію.

* * *

Пасяленцу не хапала паветра, ён ігнараваў фізіялагічны працэс — забыўся на жыццёва важную неабходнасць — дыханне. Няўжо ён страціў палову жыцця дарма: будаваў сямейнае гняздо, ірваў пуп, каб вось так на вачах усё рассыпалася?! Сну няма, больш няма сну!

* * *

Сон больш чым таямніца! Сучаснасць, цывілізацыя мацней за ўсё іншае паўплывала на сон, на начное. Шмат бяды і напасці адсюль. Мы лічым, што спім, нам так здаецца: насамрэч мы ўжо даўно не спім. Сумесь дрымоты, прышрубаванасці, павержанасці, знямогі, стомы, яна не можа звацца сном. Якія сны прыходзяць у галаву цяперашняму чалавеку? Ён чуе касмічную музыку, бачыць

зоркі, стасуецца з вечным? А ноч менавіта для таго і дадзена, для сілкавання ад вечнага.

* * *

Спакой знік, задавальнення няма, няма ніякай радасці існавання, працы, набытку. Няма здароўя, няма адпачынку. Адно — чаканне, сверб у грудзіне і неадступная патрэба прасачыць, дазнацца, разабрацца — зачапіць, спыніць, падмяць пад сябе!

* * *

Чалавецтва стамілася. Яно хоча аб’яднаць зямное з вечнасцю, зліцца з геніяльным, зразумець неспасціжнае, адкрыць бесчасовае, разабраўшы на вінцікі касмічны гадзіннік, застаючыся ў часовым. Так не бывае! Так не бывае — ствараць шэдэўры для «вельмі важных людзей»… А гэта раса ўсё стварае для паказу «вельмі важным людзям». Хто яны? І што яны здольны разумець у тым, што ствараецца на здзеку, на катаванні душы? І хто ў тым вінаваты — ці «гледачы», ці вартыя шкадавання стваральнікі мастацтва, не ўсвядоміўшыя сябе абсалютам?

* * *

Глыбока дзесьці, у патаемным сваім нутры, Пасяленец адчуваў, што жыць па-ранейшаму, не раскрыўшы таямніцы, ён не зможа. Ува ўсім гэтым было самае сапраўднае шаленства — моцная, чараўніцкая залежнасць яго асабістага часу, «персанальнага» жыцця ад якойсьці няіснай прычыны. А ён прывык кантраляваць усё, што адбывалася вакол яго.

* * *

Калі грубае, чалавечае пачынае пранікаць у вечнасць, не задуманую Богам для чалавечага ўсведамлення, наступае крызіс, катастрофа. Яе перажылі ўсе геніі, хто адчуваў прагу спадабацца «вельмі важным людзям».

* * *

Вось зараз, як здзейсненая задума пасяленца паўстала кітайскай сцяной вакол сядзібы: шырокага двара, трохстольнай мураванай камяніцы, спартовай пляцоўкі, басейна, газона; калі нарэшце «чаша напоўнілася да краёў» і, здавалася б, жыві і радуйся. Аказалася: займеў ён не спакой і ўпэўненасць — сапраўдную псіхічную хваробу ён займеў.

* * *

Калі адбыўся той канцэрт у зале кансерваторыі, мне было трыццаць гадоў. Як я гарэзаваў пры раялі! Як дуралесіў з клавіятурай, я вывіваўся змяёй і — ніякага «сексу»! Ніякай паталогіі! Чыстаплотным, цнатлівым удавам апаўзаў усе брудныя інтанацыі і гукі, апавіваў музычнай імправізацыяй гэты натоўп — к чортавай матары!

У мяне тады яшчэ былі спадарожнікі: стасаваўся толькі з тымі, у каго сэрца навыварат. Зараз я заўсёды адзін, зусім адзін.

* * *

За той час, пакуль цягнулася будоўля без агароджы, пасяленец мусіў дзень за днём назіраць абрыдлую суседнюю халабуду, «галубятню», якая, магчыма, калісьці лічылася шляхетнай забудовай, а зараз не гадзілася нават пад хлявок пры сядзібе пасяленца. І мусіў ён назіраць не толькі саму халупу…

* * *

Акрамя кампазіцыі, я яшчэ абсалютны дырыжор. Мае рукі перадаюць гук. Левая мая заўсёды трапная і дакладная, яна ліха «адплёўваецца» ад фальшу. Абавязак дырыжора зусім не ў тым, каб адбіваць рытм. Добрыя музыканты самі рытм адчуваюць не горш за дырыжора. Рукі дырыжора павінны перадаваць гук, жывіць музыку.

Назаўтра пасля таго канцэрта два вядомыя таленавітыя савецкія кампазітары бегалі па кансерваторыі, крычалі: «Чаму вы тут нас вучылі? Калі магчыма Такое і без навукі?!» Сапраўды — чаму

вучылі? Дырэктара кансерваторыі запатрабавалі ў КДБ, ён зваліўся з інфарктам. Мяне забаранілі.

* * *

Там, у гэтай клятай халабудзе жыло Такое! Чалавеку прыстойнаму, самавітаму выцерпець падобнае суіснаванне праз плот не хапала ніякіх сіл!

* * *

Побач з маёй дачай вырас палац. Раней тут быў прытулак геніяў. Зараз замест іх тэрыторыю засталбілі дачнікі-пасяленцы. Ранейшыя жыхары імкнуліся сюды наблізіцца да прыроды — гэтыя аддаляюць яе ад сябе: ссеклі лес, рэчку загарадзілі маналітнымі сценамі, палі і вырубкі спрэс забудавалі палацамі — турма.

Першатворная прырода была словам, цяпер яна — лічба, раней прырода была дыханнем, сёння яна бездыханная, у старой прыроды быў гарызонт, у новай — абмежаванасць. Прырода была непасрэднай, зрабілі апасродкаванай. Заўсёды прырода натхняла, цяпер патыхае тхлом. Яна мела таямніцу, ужо палохае.

Мой сусед, сыты, злосны пасяленец, не жадае жыць са мной побач. Яму перашкаджае мой двор, дом, мой берэт, мае пасастыя штаны і жоўты швэдар з шалікам бардо. Яго раздражняе ўвесь мой выгляд, голас, мая хада. На днях гэты сусед піхнуў мяне ў плячо, калі я праходзіў паўз яго брамы. Нечакана выскачыў з-за варот, і, хоць на сцежцы хапала месца, я саступіў. Калі мы разміналіся, чамусьці ён ткнуў мяне ў плячо сваім магутным тулавам.

* * *

— Што за яно?
— Як ён выжывае ў гэтым свеце?
— Ну хоць бы хто патлумачыў!
— Што за яно?!
— Адкуль наогул бяруцца Такія?

— І яшчэ тэлевізіёншчыкі з камерамі гужам віюцца! Быццам не хапае прыстойных людзей паказаць па тэлевізары?!

* * *

Нарадзіўся я ў 1927 годзе. Калі мне стукнула два гады, бацьку арыштавалі. Ён быў музыкантам, скрыпачом. І я ад першых дзён зацікавіўся музыкай. У музычнай школе-дзесяцігодцы мяне прызналі вундэркіндам, забаўлялі мною Сталіна, зберагласяа дзяржаўная кінастужка — хлопчык-анёл у аксамітнай тужурачцы з белым каўнерыкам, у кароценькіх штоніках — мама пашыла. Мне, лепшаму вучню, даручылі несці на дэманстрацыі сцяг. Але так блізка праязджаў прыгожанькі трамвайчык — яны тады хадзілі без дзвярэй, я і ўскочыў на падножку, не памятаю, сцяг я, напэўна, камусьці перадаў… Былі яшчэ прычыны: я не паддаваўся дрэсуры, і ў трынаццаць гадоў мяне выгналі з элітнай школы. Але прынялі ў музычнае вучылішча. Потым выгналі і адтуль, ды залічылі на трэці курс кансерваторыі… Чаму можна вучыць такіх, як я, каму Бог даў усё? Я збег ад усіх настаўнікаў, зразумеў: я сам па сабе і ад сябе нікуды не пайду. Дзе геніяльнасць і яснасць, няма патрэбы ў прафесіі і майстэрстве. «Абсалюту ў мастацтве нельга вучыцца: яго будуць кастрыраваць, знішчаць». Абсалют адзін, побач з ім нікога няма. Сёння ён такі, заўтра іншы. Яму трэба адно: дабравольная згода на нікога не абвінавачваемую адзіноту.

* * *

— Ты толькі зірні, што вытварае задрот! Підар гэты, перараджэнец! Чатыры краны прыгнаў!

— І як ён дамаўляецца з людзьмі?!

* * *

У суседнім двары стаялі чатыры краны. Іх крукі прыладжвалі да рагоў даху. А сам гаспадар быццам і не заўважаў мітусні, падскокваў у балетных па каля елкі і штосьці напяваў сабе пад нос. І вось па

жорсткай камандзе дах паплыў у паветры. А на другім паверху драўлянага дома тварам да сталі ляжала на канапе разбітая інсультам жанчына. Раптам перад яе вачамі адкрылася блакітная прастора…

— Лёка! Лёка, што адбываецца?!

— Ой, мама, прабачце, я забыў вас папярэдзіць! Мне прывезлі з Фінляндыі арган, і зараз яго будуць усталёўваць. Не хвалюйцеся.

— Не-е, Лёка, усё не так проста! Гэта неба папярэджвае мяне — пара…

* * *

— Сёння мне казалі, што гэты шызоід, толькі ўяві сабе! — грае лежачы, ці стоячы на каленях перад раялем, ды яшчэ з навалкай на галаве! У Эрмітажы!

Пасяленец рагатаў, выціраючы слёзы пульхнымі барвовымі пальцамі.

— І хто яго туды пускае? Хто яго слухае?

— Я б іх выводзіў з залы і — з аўтамата! Бл…! Што робіцца ў свеце!

— Іх трэба газам труціць!

* * *

Пасля таго канцэрта мяне закрылі ад вас на шэсцьдзясят гадоў. Нашу сям'ю пераследавалі. Прасілі за мяне самыя магутныя, самыя вядомыя — бонзы ад мастацтва, — «Ніколі! Ні за што!» — адказвалі ім. А гэта ж не я! Гэта толькі музыка… Я яе не прыдумваю! Вы бачыце вясёлку некалькі хвілін, а вясёлка Там існуе вечна. Проста вам яна не бачная. І сонца ноччу нікуды не дзяецца, і зоры ўдзень не знікаюць. Вось так і музыка — яна Там існуе, чуе яе не кожны. Я чую. Я яе адкрываю. «Яго музыка перашкаджае працэсу стрававання!» О, я рады кампліменту, толькі трэба ўдакладніць — яна адмяняе яго неабходнасць.

* * *

— Такія вось неданоскі зямлю дарагую займаюць!
— Кошт соткі з кожным годам расце!
— Ды ён грошы ў вочы не бачыў!
— Напэўна, ведаць не ведае, што колькі каштуе.

* * *

Калі мяне вазілі ў Англію музыку пісаць, быў я тады зусім бедным. Красоўкі парваліся, дык мяне адразу павезлі абуваць. Паклаў я сумачку на падлогу ў магазіне, завязаў шнуркі і пайшоў: сумачка з двума пашпартамі — савецкім і замежным, з дакументамі — там засталася. Што мне рабіць у чужой краіне? Патэлефанаваў на ВВС, назваў сваё прозвішча — яны ўзрадаваліся — пазналі! Мяне ўратавалі. Дома амаль ніхто не ведае мяне, акрамя вузкага мастацкага кола музыкантаў і кінематаграфістаў. Пад маёй музыкай у каля дзвюх соцень кінастужках не ставілі прозвішча і не лічылі патрэбным плаціць. А музыку ведалі — слухалі, пазнавалі. Заўсёды знойдзецца хтосьці гатовы цябе абдурыць — ратуе пагардлівасць да жыццёвых нявыкладак і адчуванне сваёй абранасці.

Вучоба. Яна ператварылася ў купіраванне, дагмат, забарону. Вучоба наша — выбудова абмежаванняў і комплексаў. Як толькі хтосьці надумае вас вучыць дыхаць, вы пачняце задыхацца. Калі кенійцу на вуха ў час забегу дыктаваць, якімі мышцамі і суставамі трэба паслядоўна працаваць, — ён тут жа заваліцца на бегавую дарожку і назаўсёды страціць свой прыродны дар. Прырода сама ўсё прадугледзела. Абучаны ва ўніверсітэце чалавек ніколі не праплыве на воблаку, таму што яму ўдзяўблі ў галаву: воблака чалавека не вытрымлівае! А я саджуся і плыву. Абучаны абсалют — ганебнае відовішча.

Дух вядзе, электрычнасць трымае на пальчыках прыму-балерыну з траўмай сустава, расцягнутым сухажыллем на сцэне, заварожвае тоечасным імгненнем беспрацяглай абсалютнасці.

Не, геній не можа быць пераемнікам і пасля сябе пакінуць пераемнасці не можа. Бог паглядзеў на людзей і падумаў: кагосьці ж трэба вучыць, і стварыў іўдзея. Яны самыя найлепшыя пераемнікі. Вось хто здольны граць навучаным! Я сам не іўдзей, але, калі ў мяне ёсць сябра іўдзей, я яго паклічу, ён паслухае мяне, зразумее, пяройме, яшчэ навучыць кагосьці. Без іўдзеяў не было б нашай цывілізацыі — яны нясуць код пераемнасці. І тым зберагаюць абсалют.

Вялікая асаблівасць іх нацыі — раздзяліць і зразумець, як усё ўстроена. Яны здольны адшукваць штосьці абагульненае, праз прызму чаго можна разглядаць любую з'яву. На жаль, яны ж і развілі гэту здольнасць да крайняга памеру… Фрэйдызм давёў планету да гніення, да страты генію на зямлі. Не існуе таго суцэльнага Усяго, што можна абагульніць і разгледзець пад мікраскопам. Свет — асобныя адзінкі абсалюту. У свеце няма аднолькавага, ёсць незлічоная колькасць непадоўжанай непаўторнасці, якая няспынна мяняецца.

Ці страціў я што ад забароны? Я нічога не страціў. Гэта вы страцілі. І гэта вас закрылі, а вы нават і не здагадваецеся. Да гэтай пары вы нават не здолелі як след навучыцца лаяцца па-мацернаму. Вы лаецеся дзе папала, як папала і на каго заўгодна. Трэба лаяцца ТАМ і ТАК, каб ні адзін мярзотнік не асмеліўся больш ніколі распараджацца вашым жыццём!

Я быў і ёсць, і мая музыка са мною заўсёды, яны не здольны мяне разлучыць з музыкай. Ну вось Бог — стварыў свой шэдэўр і — пайшлі вы ўсе на хер! Не патрэбны я вам (?) — «ён навалачку на галаву» і — жывіце як знаеце без мяне!

Тое, што ад Бога, вам не па нутры. Вы аддалі сваё жыццё ў рукі мярзоты! Толькі мярзота, ад пуза нажраўшыся ў рэстаране, здольна дадумацца аддаць загад: пасыпаць увесь горад соллю, садраць з глебы да карозіі ўсю залатую лістоту ў восеньскім парку. Толькі разбэшчаны да шызу блазан у перадсмяротнай агоніі, з адэномай прастаты ў незваротнай стадыі можа даць загад скінуць на людзей атамную бомбу, выправіць дзяцей на парад пад радыяцыю…

Каб дазволіць чалавеку кіраваць аўтамабілем, у вашых парадках будучага кіроўцу падвяргаюць абследаванню па ўсіх правілах медыцыны. Вадзіцель машыны мусіць быць здаровым фізічна і псіхічна! А сабой, людзьмі, вашым жыццём вы дазваляеце кіраваць чалавеку без даведкі.

«Ідыш загубіць мастацтва…» — казаў Міхоэлс. Я малым часта бываў, нават жыў у Міхоэлсаў. Мова — гэта вельмі, вельмі няпроста! Людзі не разумеюць. Нацыя — зямля, на якой жывеш, у якой продкі, а мова — сувязь з імі і дзецьмі. Страціў зямлю — страціў мову. Страціў мову — і зямля табе ўжо не належыць, бо цябе не чуюць ні дзяды, ні твае родныя дзеці.

«Ідыш загубіць мастацтва!» Тады я ўпершыню пачуў іўрыт. Калі Міхоэлс іграў на іўрыце «Караля Ліра», я ўголас рыдаў усю ноч. Такое ўражанне! Іўрыт — геній! Прыгажэйшай за іўрыт няма мовы: ён заўсёды ў выструненай постаці, з прыроднай паставай годнасці, павагі да сябе і свету. Іўрыт — найвышэйшая мова зямлі, яна дадзена была для стасункаў з Богам, для мастацтва, навукі, любасці.

Калі іўдзеяў прагналі з Палесціны, яны рассыпаліся па свеце, яны мусілі выжываць — трэба было круціцца, выдыгаць, хітраваць; яны ўвабралі ў сябе і сваю мову не лепшыя рысы іншых народаў і нацый. Адмовіліся ад іўрыту. Іўрыту больш няма, страчаны. Прыйшоў ідыш, грубы сродак абмену бытавой інфармацыяй, набор рэплік для штодзённых зносінаў, і ён зніштожыць не толькі мастацтва. Ідыш — здольнасць выкручвацца, зарабляць грошы, прыстасоўвацца, рабіць кар'еру. Рускі? А дзе вы бачылі рускага? Усе ўжо даўно ідыш. Рускім быць таксама забаронена, як і ўсім іншым. Пачынаюць адраджацца нацыі. Ды няма ужо нічога — усё, усё ідыш. Увесь свет ідыш. Сям'я — ідыш, творчасць — ідыш, каханне — ідыш. Ідыш пераверне гэты свет. Усе хваробы ад яго. Пад сорак іўдзей хранічна хворы. Вось што такое мова! Зараз іўдзеі ўзяліся будаваць новы Ізраіль. Уваскрашаюць іўрыт, прынялі яго за дзяржаўную мову: памагай ім Бог. Толькі б не атрымалася «ўваскрашэнне» Лазара. Іўрыт — вечнасць і трагізм, нават там, дзе трагедыі няма, трагізм

прысутнічае як боль за недасканалае. І заве на ўдасканаленне свету. А ўсім хочацца пабольш салодкай і вясёлай задаволенасці.

Я доўга жыву, а вось адчуваю, што маладзею з кожнай вясной. Мне цяпер дванаццаць. І мне вельмі лёгка з аднагодкамі, каму таксама дванаццаць. Калі мой сусед пасяленец схапіў мяне за шкірку і скруціў рукі за спінай, сябры мае, туташнія падшыванцы, крычалі яму ўслед: «Не тронь нашага Ку-ку! Ён Касманаўт!» Я шчаслівы, калі чую дзіцячыя галасы, іх гучанне на мяне дзейнічае роўна як гучанне званоў і бомаў — рот да вушэй!

Мне прыслалі ад сацыяльных служб памагатую. Дзявіцу гадоў дваццаці шасці. Яна цягала мяхі з смеццем! Бог мой! Жанчына цягае мяхі! Для мяне такое немагчыма назіраць — мне цяжка, я не знаходжу месца… А чым я ёй дапамагу? Толькі падышоў і пацалаваў ёй руку… І жыццё маё спакойнае скончылася. Гэтая дзева дасылае наступным панядзелкам шматслоўны ліст. Яна аб’яўляе пра сваё каханне: «Вашы вусны такія мяккія!» Яна ўжо плануе нашу сумесную будучыню! Усё маё жыццё мяне пераследуюць падобныя ці то паклонніцы, ці то аматаркі, якіясь незразумелыя закаханасці. Яны жыцця не даюць, праходу, яны пракрадаюцца ў жытло, лезуць на дачу, мне страшна. Мне пагражаюць расправай за адмову належаць ім. Яны нават не пытаюць дазволу: хапаюць у абдымкі, прыстаюць з пацалункамі, нахабна рвуць мае валасы, гузікі. Гэта завецца ў іх каханнем! Гэта вельмі страшна. Напорыста так, бязлітасна любіць — паталогія. Навошта яны знеслі мае дамашнія туфлі? Хаджу босы, падлога сцюдзёная.

Самая вышэйшая закаханасць, любасць — патаемнае, асцярожнае пачуццё. Боязь быць навязлівым, пашкодзіць, пасягнуць на чужое паветра. Яно нават вышэй мастацтва. Закаханасць — трымценне, прасвятленне, найвышэйшая форма рэальнасці, паўнейшая незалежнасць ад прычын. Вось я — пудзіла, і тут уваходзіць Яна. Мы ж не маем патрэбы ў прычынах, каб закахацца. Вось Яна! А мне б толькі дабрацца, крануць клавішы — і я ўжо абсалют. Жаночае цела — калыска сусвету. Ды ну вас! Жаданне

ўсё патаемнае ўвагнаць у словы, катэгорыі, формулы, патлумачыць невыказнае зніштажае недатыкальнасць сакральнага. Ператварае святое ў пошласць, робіць вульгарным. Не дадзена нам ад багоў нявечыць таямніцу. Бог стварыў каханне для таго, каб не па Дарвіну адбіралася, не шляхам гешэфтаў і прынцыпу ўзаемнай карыснасці, а па ртутнай душэўнай рухомасці, надчалавечай абаяльнасці. Твар асобы — не вынік матэматычнага адбору — адбітак боскага падабенства.

«Толькі няспыннае імкненне дысанансу да кансанансу нармалізуе стан усёй слізістай у чалавеку, развівае здароўе нацыі».

А мне ў панядзелак зноў ліст! «Я падпалю дачу! Мы павінны загінуць разам і назаўсёды закрыць астральнае кола!» Такая вось любоў.

А вы ведаеце колер Аўстрыі? Прапаную свой варыянт: жоўта-залатое поле па белым, плямамі — шэры ў багатай гаме адценкаў; глыбокі, насычаны зялёны — ён не крычыць, не дамінуе, ён спакойны, «як артадокс з чатырма тузамі на руках». А па межах кропельна руды і чорны ў срэбры. Кожная краіна, кожны горад мае сваю каляровую гаму, свой асобны гукавы каларыт. Небяспечна парушаць код, гэта абавязкова кепска адлюструецца на здароўі жыхароў горада ці краіны, на іх жыццёвых абставінах і шляхах. Калярова-гукавыя пашпарты маюць гістарычныя забудовы, архітэктурныя шэдэўры. Яны ствараюцца вякамі «абсалютнымі адзінкамі» — адзінкамі абсалюту. І зусім не па той прычыне, што Манчыні, Гаўдзі, Брантэ альбо іншыя, не вядомыя нам геніі архітэктуры звышдакладна прытрымліваліся разлікаў і выведзеных формул. «На вока» старыя майстры будавалі не горш. Сакрэт у тым, што менавіта яны здолелі быць незалежнымі ад уплыву прынятых агулам правілаў і ўзораў, скарыстацца падказкамі вечнасці, яны не страцілі сваёй асобнасці, сувязі з бесчасовым.

Я адзін у свеце. Заўсёды адзін. Як у мяне з верай? А навошта яна мне, калі я знаю? Я дакладна ведаю — Бог ёсць! І ён ува мне. Толькі вось да «бу-бу-бу» ў храмах ён не дужа мае дачыненне.

І да ўсіх гэтых ёгаў, крышнаітаў, будыстаў і ўсіх іншых агітбрыгад… Будда да Бога йшоў у абсалютнай адзіноце, праз душэўныя пакуты, найцяжэйшым пошукам! А яны гуртом мітусяцца ў сваіх каляровых халтанах, блямкаюць донкай ля голенага чэрапа і аб'яўляюць сябе істотамі «прасветленымі».

Чалавеку ўласціва быць незадаволеным Божым дарам. Ужо і так яму ўсё дадзена, а хочацца яшчэ і яшчэ. Чалавеку пастаянна хочацца павялічыць, дабраць. Хвароба! Яна пераследуе гісторыю. Сучасная малітва — дай, дай, яшчэ і яшчэ, больш і больш, і супынку няма. Мой сусед паставіў жудасную агароджу пад неба, і сонца ў маім жыцці не засталося. З радасці засталося — музыка і векавая елка ў маім дворыку! Гэта дрэва расло на вачах маёй мамы, яна бачыла яго з акна свайго пакойчыка, калі свае апошнія дні жыцця ляжала ў нерухомасці, з ім яна размаўляла. Мне хутка дзевяноста. Елка — адзіная, хто застаўся з маёй радні. Дакранаюся да лапкі — быццам маму трымаю за руку.

Не буду вам сёння іграць. У мяне ціск. Выпадкова не памёр ноччу. Я ніколі не ведаў, што гэта такое ціск. Паглядзіце на мяне — шкілет, хіляк, дрышч, які ціск пры такім целаскладзе, якая арытмія? А ў мяне сёння ціск, арытмія, і я ўжо мярцвяк. А што я мог яму сказаць? Я не ведаю яго мовы — ён адкрыта смяяўся мне ў твар. Я толькі падышоў запытацца — навошта ён спілаваў маю елку? А ён зарагатаў і адказаў, што елка зацяняе яго лазню. Таму ён выламаў дзірку ў маім парканчыку, забраўся на маю тэрыторыю і ссек векавую елку. У мяне маладое сэрца, таму яно вытрымала гэту ноч. Што я мог яму сказаць? Проста вось буду зараз вам іграць на раялі. У адчаі напісаў балет. Сапраўдны балет — найвышэйшая скульптурная чысціня без патрэбы першапрычыны…

Адчай? Ой, Божа! Я з яго не выходжу. Я ў ім ўсё жыццё. Я прызвычаіўся да яго. Да такога адчаю, які вы нават уявіць сабе не здольныя. Наўрад ці хто ў свеце, акрамя такіх, як я, можа ведаць ШТО ГЭТА за адчай! А я дабрыду да сваёй халупкі, замкну дзверы,

нікога не пушчу. Буду сядзець дома і ствараць музыку. Мне больш нічога не трэба. Адчай — гэта маё ўсё.

Яна тады ўжо выйграла на Алімпійскіх у Мехіка, рыхтавалі да сусветных. А ў нас каханне. Каханне па-за часам: ты не спіш, ты плачаш па начах, ты не зямны — а ў яе трэніроўкі кожны дзень і строгі, пахвілінны рэжым.

Вось тут за нас узяліся ўсе! Трэба было знішчыць перашкоду. Перашкодай быў я. У КДБ хуценька зладавалі справу, знайшлі «сведак», тыя ўсё, што патрабавалася, засведчылі, падпісалі… У мяне такая фізіялагічная асаблівасць — цярпець не магу даткнення цел. Нават да жанчын вельмі гідлівы – толькі з абранай, толькі з абранай! Ад мужчынскага даткнення мяне проста званітуе. Яны ж мяне на ўвесь свет зняславілі — «зрабілі» гомасексуалістам. Ставілі мэту знішчыць мяне — загубілі яе…

У выніку на зямлі ўсё цудоўна! Суму няма! Ёсць дзіцячае дуракавалянне, любасць, раскоша, хараство. Ад усяго гэтага і камень плавіцца ў крышталь, крышталь — у слёзы, празрыстыя слёзы. Жыццё нашмат мацнейшае, вышэйшае і важнейшае за любое мастацтва. Нават самае геніяльнае. У ім куды больш гукаў, чысціні, і колераў. У ім хуліганства, у ім маладосць, і святло, і святасць. Не трэба, каб было шмат, шмат лепшага і найлепшага, трэба, каб было ўсяго толькі даволі.

Прыйшоў хлопчык са школы, тузануў званочак, не электрычны — сапраўдны, што на ланцужку: дзынь-дзынь-дзынь. Гук бацькоўскага парога — пароль яго дзяцінства. І перад хлопчыкам расКРЫЛАся жытло. Крылы! Крылы — яго дом. А ў грубачцы паленцы, а над паленцамі агонь. А ў доме цёпла і пахне дымком. Дымок пахне домам. Вось ён — камфорт галактыкі.

(Варыяцыі на тэму: партрэт «сумасшедшего» кампазітара, дзіўнага музыканта, «Касманаўта», проста «Ку-ку» — Алега Мікалаевіча Каравайчука. Тэкст насычаны яго думкамі.)

# Туман і Ліра

Між цагляным кубам качагаркі, якая ўжо гадоў дваццаць перастала адпавядаць свайму ранейшаму назначэнню (у ёй, пасля таго як кожны гаспадар асобна падключыў сваю кватэру да ўласнага катла, складаюць дровы), і цагляным кубам гаража, у прахадной (да невялічкіх гародчыкаў) шчыліне крыва і коса прыторкнулася будачка. Калісьці ў ёй «шыкаваў» касматы жвавы Жук. Яму вельмі адпавядала імя. Чорная ільсняная поўсць аж гарэла на сонцы. Вясёлы звонкі брэх Жука здалёк гукаў кожнага мінака. Жук прапаў ноччу, яго ланцуг перакусілі якімсь невядомым інструментам. Гаспадар не мог не здагадацца, чыіх то рук справа. Было здарэнне вясной. Яны з суседам выпілі лішку, і сусед пайшоў жартам цкаваць Жука. Сабака п'яным суседа не пазнаў, хапнуў за бараду, пракусіў ніжнюю губу. Бегалі ў бальніцу. Рабілі ўколы.

Пасля Жука ў будцы жыў Рэкс. Здох сабака пасля таго, як пабач, у пары метраў ад будкі, у хляўку знайшлі з вяроўкай на шыі дзеда, бацьку гаспадара менаваных сабак. Апошнім пасяліўся ў будцы Туман. Гэты сабака ніколі не быў вясёлым, страшна выў, асабліва па начах. Нават шчанюком яшчэ Туман выглядаў ссохлым, скурчаным, запалоханым, аблезлым старэнькім дахадзяжкам. Яго спраўна даглядалі, кармілі як належыць, але сабака захадзіўся выццём кожную ноч, чым палохаў усю ваколіцу. Казалі суседзі, што і Туман не працягне доўга. Памыліліся. Карчок карчом — ды сабака перажыў усе магчымыя сабачыя гады. Яму зараз не менш за дваццаць. Перастаў выць. Перажыў сваю гаспадыню, застаўся ўцехай гаспадару.

Была ў Тумана гісторыя.

Ля дзіцячай бібліятэкі сталавалася Ліра, маленькая калматая сабачка. Бібліятэкаркі насілі ёй пачастунак, больш ні на што Ліры разлічваць не выпадала — у пасёлку сабак бадзялых не любілі, маглі «пастраляць» пад настрой. Каб жа стралялі! Параняць

атручанай іголкай — сабака потым на вачах у дзяцей і дарослых не адзін дзень канае, памерці не можа. Ліры пашанцавала, яе кармілі, хавалі ад мясцовых шкурадзёраў.

Зіма той год стаяла марозная, снежная, мяцельная. Ліра шчанят насіла ўжо. Шкадавалі многія, а чым дапаможаш? Безвыходнае становішча ў сабакі.

Суседка мая (тады яшчэ жывая была гаспадыня Тумана) мяне падазвала і кажа: «Паглядзі, якое дзіва ў нас. Туман наш другі тыдзень ля будкі сядзіць. Такі холад, вецер, сцюжа, а ён не заходзіць унутр. Ежы пакіну — не кідаецца да міскі, як раней. Нібы каго чакае. Думаю, што з ім робіцца? Сёння — дай пагляджу, што там у яго будцы, — зірні!» Яна пасунула ад будкі Тумана — на нас з кануры вінавата, жаласліва і ўдзячна паглядала Ліра, а ля яе касматага жывата шалапордалі чатыры камячкі.

Як Ліра змагла патлумачыць Туману сваю нядолю? Як дамовіліся яны між сабой? Як ён згадзіўся на такую невыгоду — стаяць ля маленькай будачкі на кароткім ланцугу ў мароз і сцюжу, саступаць свой паёк?

— Гэта добрая прыкмета. Я не ганю шчанят, — прызналася суседка.

Радасна было ад гэтай гісторыі і адначасова горка-сумна — Туман нам, людзям, даваў урок дабрыні і спагады.

Апраўдалася прыкмета. Начальнік маёй суседкі неўзабаве паведамляе ёй:

— На днях Вічку падвозіў з Глыбокага ў Падсвілле, бачу — цяжарная яна. Пытаю: чый? Кажа — вашай сакратаркі сына. Дык, Мікалаеўна, унука сустракаць рыхтуйся.

Суседка не адмовілася ад шчаслівай прыкметы, прыняла ўнука ў сям’ю.

# Жаночая логіка

## Пінгвін

Жывот выпірае на ўсе восем месяцаў — чыста пінгвін! Дзіця, вагой у чатыры з паловай кілі, не схаваеш, трэба б скінуць лішак вагі — патрабуе доктар, ды так хочацца салёнага! Як вынік — піць, потым салодкага кісленькім шліфанеш — яшчэ кіля на вагах.

«Кафэ-бар», — чытаю, аж заказытала пад лыжачкай!

У Наваполацку, калі вучыліся ў музычнай вучэльні, бегалі пасля стыпендыі ў бліжні павільёнчык «Марозка» ці дальняе кафэ «Пралеска» выпіць малочнага кактэйлю «Пінгвін». На абедах зэканоміш — але купіш некалькі порцый, паспытаць рознага гатунку. Гадоў пяць не сустракала любімы ласунак, і вось прыехала ў сталіцу! Як убачыла шыльду «Кафэ-бар», не адышлася ад дзвярэй, дачакалася адкрыцця і прамым ходам да стойкі.

— Сядайце за столік, — ласкава прапанавала жанчына. — Да вас падыдзе афіцыянт. Там ляжыць карта.

Ну канечне, — сталіца! Я села, глянула ў дабротна выкананае меню — цэны ўразілі, але не спынілі. Падышла прыемная дзяўчына.

— Што жадаеце?

— Два кактэйлі па дзвесце грамаў.

Яна ўтаропілася ў мой жывот і ледзь знайшла словы.

— А вам можна?

— Напэўна не, ды вельмі хочацца.

— А не многа будзе?

— Ой! Я ў свой час і па чатыры адразу выпівала. — супакоіла я афіцыянтку.

— Гэта вельмі вялікія порцыі — так не заказваюць у нас.

Якая дзіўная! Кожны гандляр імкнецца прадаць, а гэта — адгаварыць.

— Калі ласка, два па дзвесце, — настойваю.

— Гэта вельмі дорага каштуе, — не супынялася афіцыянтка.

— У мяне ёсць грошы.

— Добра, я прынясу вам, але спачатку толькі адну порцыю.

Калі я атрымала свой заказ, зразумела, чаму так культурна і дальнавідна адразу разлічыла мяне афіцыянтка за першую порцыю і схавалася з вачэй у патаемную камору. З першага глытка мае вочы скруціліся з арбіт. Гэта быў моцны алкагольны кактэйль. Ад сораму я хуценька зграблася з кафэ, на стале пакінуўшы дзвесце грамаў «Пінгвіна» за палову свайго заробку. А каб мне прынеслі два, як прасіла? Смешная дзяўчынка, яна пасаромелася адкрыта папярэдзіць. Падумала, а раптам я сапраўды хворая на гарэлку.

## ДЭБІЛ на экскурсіі

Дзвінскую эксперыментальную базу інстытута лесу, скарочана: ДЭБІЛ, рэгулярна вывозілі на экскурсіі. Папала і я праз мужа. Пасялілі групу разам, на падлозе, на матах спортзала адной з ускраінных ленінградскіх школ. Мужчыны ноч — п'юць, дзень — п'юць. Аўтобус з нанятым экскурсаводам стабільна дастаўляе экскурсантаў да культурна-гістарычных кропак слаўнага горада, але выходзяць з аўтобуса толькі жанчыны, мужчыны працягваюць гуляць у карты між стаканамі.

Мана! Засталіся ж групавыя здымкі, зробленыя па замове ў мясцовых фатографаў: у тры шнурочкі, хто ўпрысядку, хто стаіць. Сімпатычныя, маладыя. Вецер дзьме ў твары. Значыць, выходзілі з аўтобуса і мужчыны, не толькі да ветру.

Адна з жанчын, не знаёмая мне работніца вясковай філіі, узялася бадзёра і актыўна са мной сябраваць, ды яшчэ з правадырскімі замашкамі. Трымала ўвесь час у полі зроку, крочыла нага ў нагу, падавала каманды. Бедная кабета, не ведала, што не на тую нарвалася, не знала майго непадуладнага нораву, нелюдзімасці. Я — воўк-адзіночка. Камандаваць мной не дадзена нікому. Самы жорсткі начальнік жыве ўва мне самой.

— Чаго ты стала? Няма там нічога цікавага. Ідзі сюды. Глядзі, якое дзіва! Хопіць спаць, пайшлі ва ўборную мыцца, зубы чысціць. Займай чаргу, я пабягу наглядаць, што прадаюць. Бяры па дзве порцыі марожанага — я сяду, пасцерагу столік.

— Пакіньце мяне. Я не люблю загадаў, — не сцярпела я нарэшце.

— Ненармальная, — абурылася «сяброўка», але адчапілася.

Тыя гады апельсіны былі дэфіцытным прадуктам. Асабліва правінцыялы, непрывычныя да вольніцы, хто пакінуў дома малых дзяцей, марылі смачным гасцінцам адкупіцца за «бацькоўскую здраду». Мы з'ехалі аж ад траіх, так што пільней за іншых шукалі, дзе б купіць апельсіны. Ні ў цэнтры, ні на ўскраінах імі і не пахла. І раптам запахла!

Былі ў Піцергофе, ішлі па «гофе», і тут улоўліваю фантастычны водар! Апельсіны! Дзе?! Дрэвы, дрэвы, кусты, газоны, статуі, фантаны, лавачкі, альтанкі, зноў дрэвы, дрэвы, кусты. Я ішла па нюху, упоперак маршруту групы, галасна аб'явіўшы мэту свайго напрамку: «Апельсіны!» Адна пара кінулася за мной. Куды нос вядзе? Вось — летняе кафэ! А ў ім апельсіны! Нам шчодра аддалі апошні запас, па скрыні на плечы. Назад, у школу, група вярталася водным шляхам — катарам. На «докераў» — да слёз смешных мужчын: самы высокі і самы малы ростам, згорбленых пад вагой скрынь, у порце здзіўлена паглядалі гараджане-мінакі. Культпаездка ўдалася.

## Жаночая логіка

Тое, што ніводнаму заезджаму кіроўцу, які спыніўся без «задняй мыслі» перапытаць, як даехаць туды ці туды, я ніколі не выдала патрэбнага аб’екта: тыцкала ўпэўнена левай рукой напрамак, а тлумачыла — павярніце направа; што не раз пытала ў прадмагу — ёсць у вас ліманад? — ёсць — дайце малака. Тое — сваё і не ўражвае.

А вось аднойчы пераблытала раённая газета ў аб’яве лічбу ў нумары тэлефона і выпаў мой.

Хтосьці надумаў прадаць аўтамабіль, а тэлефануюць мне — немагчыма перадаць, што пачалося! Кожнае імгненне — дзынь ды дзынь! Не ў тым шаленства. Яшчэ як у трубцы мужчынскі голас — туды-сюды, а ўжо як жаночы — кідайся аб падлогу і крычы: ратуйце! Чамусьці цікавяцца аўтамабілямі больш жанчыны. Ніколі не думала, да чаго ж мы, жанчыны…

(Гэта я тры разы стукаю аб стол.)

— Добры дзень. Па аб’яве тэлефаную.

— Нумар пераблыталі — не прадаю нічога.

— Чаму не праядаеце, перадумалі?

— Нумар не той далі ў газеце, памыліліся.

— Дык нашто тады аб’яву даваць?!

Кладу трубку — дзынь, зноў жанчына, другая.

— Па аб’яве.

— Нумар пераблыталі ў газеце.

— А якая машына?

— Я не прадаю. Гэта памылка.

— А хто прадае?

— Не ведаю.

— А машына ў добрым стане?

Кладу трубку — дзынь, на дзясяты раз мужчына:

— Па аб’яве.

— Нумар пераблыталі.

У трубцы гучны смех.

— Спачуваю — не пазайздросціш вам! Трымайцеся.

Зноў сто першая жанчына:

— Па аб'яве.

— У рэдакцыі пераблыталі нумар, я нічога не прадаю.

— Ужо прадалі?

— Нумар пераблыталі ў аб'яве.

— Дык можа той купец яшчэ перадумае?

— Тэлефануйце ў раёнку.

— У машыны вялікі прабег? Што там з рухавіком?

## Сімпатыя

Паехалі ў раённы Дом культуры на зводны хор. Адспявалі. Пайшлі ва ўборную. Самую сапраўдную, тую, аб якіх дзесяцігоддзямі складаюць анекдоты і прыпавесці: мураваны бункер з метровымі сценамі і дзюркамі ў цэментаванай пліце! У Глыбокім трымаюць такія за культурна-гістарычныя помнікі архітэктуры. Спадчына СССР! Зайсці няма як — нос рве, ванітуе, з дзіркі хваляй сшыбае! У курчах паралюшавых пастаіш, кінеш у дзірку «рубель» — вецер вяртае яго назад у твар!

Маёй каляжанцы дамскую сумачку назад не вярнуў. Не змагла ўтрымаць. Крукоў у сценах дота для сумкі не прадугледжана. Цяжка, маючы толькі дзве рукі, падол трымаць, каб не выпацкаць, сумачку, парасончык, яшчэ паперкі кідаць.

Тут побач майстэрня — мастакі працуюць. Салідныя хлопцы, як на падбор — арлы! Ніколі б не насмеліліся да такіх звярнуцца! Але ж у сумачцы сёння атрыманы заробак!

— Мальцы, дайце палку!

— ?!!

— Сумку з уборнай дастаць.

— А ці ў вас, дзеўкі, г…на свайго не хапае? Наша чарэпаць прыехалі!

Палку знайшлі, цвік увагналі, сумку дасталі.

Каб не канфуз — так і не загаварылі б, жывучы ў адным горадзе, працуючы ў «адной культуры», з маленства візуальна знаёмыя.

— Я з маладых гадоў на цябе пазіраў, падступіцца баяўся, так і не асмеліўся загаварыць.

— А я лічыла цябе такім недасягальным, нават павітацца не рашалася!

## Дамовіліся

Пачатак і канец ацяпляльнага сезону ў пасёлку на тыя гады быў вялікай праблемай. Па загадзе высокага начальства і жаданні мясцовага атрымаць прэміяльныя за эканомію паліва вядзецца «рэжым пратаплівання» — што гэта за тэхнічны тэрмін, адкуль узяўся? Ясна адно: пад відам ацяплення з трубы пускаюць дым і пад яго спісваюць паліва. Людзі мерзнуць, скардзяцца. Там, наверсе, арганізоўваюць пасяджэнні, розныя камісіі — вынікі аднолькавыя: ніякіх зрухаў.

Па пэўных датах месяца прыходзіць лабарантка з кацельнай правесці дакладны замер тэмпературы. Дзень замеру назначае начальнік кацельні, па камандзе качагары даюць жару! І ад самай раніцы азначанага дня ў кватэрах прыемна цяплеюць трубы. Аднак нават у такія дні ў музычнай школе вучні і настаўнікі працуюць у футрах, шапках і рукавіцах.

Лабарантка кладзе на стол метровы драўляны градуснік, сядае пачакаць.

— З вуліцы — моцна ахаладзіўся, — тлумачыць жанчына.

Звычайна за месяц «рэжыму пратаплівання» ў памяшканні не набягала вышэй за чатырнаццаць рысачак цяпла, а зараз — ледзь-ледзь, але дасягнула шаснаццаці, таксама не норма. Лабарантка нецярпліва падскоквае, глядзіць на дасэчку, стараецца неўпрыкмет дакрануцца да шкляной колбачкі чырвонага спіртавога слупка.

— Пачакаем яшчэ, — дужа ж з вуліцы настыў, — упрошвае жанчынка.

Яна сама і дырэктар школы туляцца ў каўняры зімовай верхняй вопраткі, шморгаюць змерзлымі насамі, чаравік б'е па чаравіку — чаго чакаць?

А жанчына ўсё наровіць памацаць чырвоную балванку ў пачатку шкляной трубачкі — разагрэць. Дырэктар з усмешкай паглядае, але маўчыць. Шкадуе лабарантку. І тут у другім пакоі зазвягаў здраднік-тэлефон!

Выбягае з кабінета дырэктар, праз нейкі час вяртаецца. Лабарантка неяк сарамліва хавае вочы: на слупку — дваццаць градусаў. З роту валіць пара, зуб на зуб не пападае.

— Можа, запішам васямнаццаць? — з надзеяй паглядае жанчына.

— Дык чаму ж васямнаццаць? Дваццаць паказвае!

## Двайны стандарт

Рамонт школы. Сваімі сіламі, сваімі сродкамі. Выкладчык прыбівае велізарны самаробны карніз з васьміметровай дошкі пад заслону сцэны, цяжкі — як узняць траім. Дырэктар пытаецца.

— Добра прыбіў? Вытрымае?

Выкладчык пакратаў дошку — хадуном ходзіць.

— Ледзь трымаецца, хліпенька. Пад ім вучні будуць бегаць — небяспечна! Трэба перарабіць! Не гадзіцца! — канстатуе дырэктар.

— Нічога не здарыцца — добра, вытрымае! Што тут перарабляць?

У момант спрэчкі забягае маленькая дзяўчынка, дачка выкладчыка, які прыладжваў карніз, пачынае гуляць на тым самым, крытычным месцы, круціцца ля бацькі пад карнізам.

— Алеся! Зараз жа адыдзіся адсюль — дошка зваліцца на галаву!

## Куды мы едзем?!

Траса Віцебск–Вільня, стаю ля Полацка, каб даехаць дамоў у Падсвілле — спыняецца вялікая грузавая машына, у кабіне прыемнага выгляду вадзіцель майго веку. Едзем пра штосьці нязначнае гамонім. Я з бальніцы — у кабіне скразняк, але што ж зробіш. Раптам машына рэзка зварочвае ў бок лесу, у мяне бессвядома вырываецца на ўсю моц: «Куды вы едзеце?!»

— Дык у Глыбокае. Кашляеце вы — вокны хачу пазакрываць.

І, праўда, вылез з кабіны, замацаваў шыбіну звонку — механізм зламаўся.

Я засмяялася, выбачаючыся, і распавяла паўднёвую гісторыю, нечым падобную на гэту.

Пасля другога курса музычнага вучылішча групай дзяўчат мы паехалі збіраць памідоры ў Крым. Жылі ў сяле Гарнастаеўка, сорак кіламетраў ад Керчы. Адзначалася свята горада — захацелі з’ездзіць паглядзець. Стаім, маладыя-прыгожыя, на трасе. Толькі-толькі ад нас адышла спагадлівая цётка з папярэдай — глядзіце, дзеўкі, не сядайце ў папутку! Спыняецца аўтамабіль — запрашальна расчыняюцца дзверцы. Страшнавата — ды нас жа трое! Селі. Едзем. Утульна, хутка — гэта табе не драндулет, напханы пасажырамі, як селядцамі цэбар. І вось перад самым горадам вадзіцель, не мовіўшы ні слова, заварочвае машыну ў другі бок і коціць глухой ускраінай. Нават не згаворваючыся, не пераглянуўшыся, мы ў адзін голас заверашчалі: «Куды вы нас везяце?!» Кіроўца спыняе машыну і адчыняе дзверы — калі ласка — выходзьце па жаданні, праезд па цэнтры перакрылі. Мы спакойна даехалі з ім бліжэй да галоўнай вуліцы і ад чыстай душы паклалі сагрэтыя за дарогу ў далонях металічныя рублікі на панель, хоць чалавек і цураўся нашай узнагароды.

Пакуль гаманілі з цяперашнім вадзіцелем, адчулася між намі штосьці блізкае, знаёмае.

— А чаго вы ў Глыбокае едзеце? — пытаецца ён у мяне.

— Я родам адтуль.

— І я таксама, зараз жыву ў Віцебску, але бацькі там засталіся, вучыўся я ў глыбоцкай школе.

— У каторай?

— У першай.

— Дык і я ў першай. А з якога вы года?

— Пяцьдзясят восьмага. А вы?

— Таксама. У класе «А» вучылася, — разгубленасць неверагодная.

— Люся?!

— Алег?!

За адной партай сядзелі.

## На лаўца

Апошняя была сходка. Выбары (1994) усім паказалі «ху іс ху»! І адраджэнцам сярод саміх сябе таксама. Многія, што граху таіць, марылі выключна аб уладзе, на тым і скончылася жыццё раённай суполкі. Разыходзіліся сумныя. Прагучала незнарок кінутая фраза: «На ўсіх нас даўна ў адпаведным месцы справы заведзены пад першымі нумарамі».

І пайшла я «красіва» дадому, разгублена разважаючы: што здарылася? Нічога ж не змянілася. Калі было мэтай адраджэнне — чаму зараз усё павінна спыніцца? Няўжо хтосьці быў такім недальнабачным і наіўным, меркаваў аб хуткай перамозе на выбарах? Не бачылі і не разумелі рэальнага становішча вакол?! Вось ужо нехаця прыпамінаецца цытата класіка: «Слишком далеки были они от народа». Толькі пачаўся рух, думкі, жыццё — зноў застой, ціш. Спужаліся.

І тут заўважаю, ля мяне трэці раз крутае адна і тая машына. Падалося? Не, зноў вяртаецца, вадзіцель пільна ўглядаецца. Пачалося?

Вадзіцель знаёмы, адзін раз нават у кампаніі разам Новы год сустракалі. Ён жа мент! Так і ёсць! Праўду сказаў той, справы даўна заведзены. Што яму трэба ад мяне? Усё ж разам вучыліся калісьці ў музычным вучылішчы. Потым пакінуў жабрацкую спецыяльнасць, пайшоў на выгаднейшае месца. Можа, што ведае, папярэдзіць рашыў? Трэба павярнуць і пайсці ў другі бок. Да дома тры крокі засталося. Што будзе? Што рабіць?!

Аўтамабіль рэзка прытармазіў, перапыніў мне рух, адчыняецца дзверка:

— Сядай у машыну.

— Навошта?

— Сядай.

— Мне дамоў трэба, я спяшаюся.

— Я табе кажу — сядай!

(Магчыма, ён толькі папярэдзіць захацеў, быццам і не дужа злы, штосьці ў вачах чалавечнае свеціцца.) Села, едзем. Маўчым. Недалёка. Спыняецца. Дастае бутэльку каньяку, адкаркоўвае…

— Вып'ем.

Гляджу са здзіўленнем, з усіх сіл стараюся не паказваць страху…

— Давай вып'ем, я паўдня на цябе палюю.

— Я не п'ю, тым больш такое моцнае.

— Ну не знаў, што ты шляхцянка, — купіў бы сухога.

— Што вы хацелі мне сказаць? — насцярожана пытаюся.

— Ну, яшчэ не хапала на вы. Тое і хацеў сказаць — «даўвай ўвып'ем» — што тут незразумелага?

— І ўсё?

— І ўсё! Далей —як карта ляжа, я чалавек мірны, без крыміналу, не дык не, захочаш — я заўсёды згодзен.

Ён заржаў на ўвесь салон весела і смачна, так, што на мяне напаў прыступ істэрыі са слязамі і смехам.

— Ідыёт? Дэбіл? Прыдурак!

— Ну, ужо не зусім, іначай з табой, гэдакай разумнай, не вучыўся б.

— Ты мяне напалохаў! Ледзь інфаркт не хапіў. У цябе галава варыць?!

— Давай кульнём — дужа кепска мне гэтыя дні, сама ведаеш прычыну — пракінулі нас.

Я глядзела на яго ва ўсе вочы, хацелася пашкадаваць, але не адышоў страх і поўная разгубленасць у жыцці.

— Вязі дамоў.

## Мытня

Быў час, як людзі ездзілі ў Польшчу цэлымі аўтобусамі, набудаваўшы пад столь валізаў-хатулёў на продаж, каб адтуль прывезці долары ці дэфіцытны тавар, зноў жа — прадаць. Хацелася і мне з'ездзіць за мяжу яшчэ раз — была ў Германіі. Наклала сумку таго-сяго і еду на «экскурсію». Параілі бывалыя там не раз узяць замест дзвюх дазволеных законам бутэлек гарэлкі шэсць, уторкнула, са страхам вязу. Паглядаю на спадарожнікаў — жанчыны — навошта мужчынам жыліцца, цягаць цяжкія торбы, калі за гэта ўзяліся жонкі?

Пад'язджаем да мяжы — зусім не па сабе зрабілася: парушаю цыркуляр. Пытаюся ў суседкі побач:

— Колькі вы бутэлек узялі?

— Ты што — здурэла?! Нельга больш за дзве!

Я зусім зніякавела, але не паддаюся:

— А ў вас вунь рогі ласіныя з-пад сядзення тырчаць — не дазволенае!

Заходзіць у салон польскі мытнік, строга, як гэта ўмеюць рабіць толькі службоўцы на дзяржаўнай мяжы, аглядае твар кожнага пасажыра і пытаецца, ці ёсць у каго больш за дзве бутэлькі спіртнога. Тады ў палякаў былі выпадкі смяротнага атручвання, змагаліся з кантрабандным завозам алкаголю.

— У мяне шэсць бутэлек, — сказала я маладому чалавеку.

Ён працягваў з пытаннем у вачах сачыць за тварамі іншых жанчын — тыя круцяць галовамі, маўляў — не-не-не, ні-ні-ні…

— Калі ешчэ в аднэго, крамя етой паненкі, знойдзем лішак бутэлькі — все назад! Паварочваем до дому! Штамп в пашпорт! Зберыче дакумент! Зараз жа вылезць всем з салону! Выгружаць багаж!

Што тут пачалося! У двары мытні стаялі чатыры пустыя вялізныя кантэйнеры для смецця. Іх адна перад адной, пільна адсочваючы чэснасць апаражнення чужых сумак, запоўнілі да верху літровымі бутэлькамі спірту «Rojal» мае спадарожніцы — дзе яно ўсё хавалася і месцілася ў аўтобусе?!

Мне было дазволена пакінуць багаж без агляду, але я таксама, выкінула свае бутэлькі праз салідарнасць.

У адной жанчыны заела замок на чамадане, а ў ім штосьці забароненае. Аглядаць рэчы прыйшоў другі службовец, перакапаў сумкі, запыніўся ля зачыненага чамадана:

— Адкрыць.

— Не адкрываецца.

— Адкрыць!

— Замок не працуе.

— Зламаць! Іначай все — до дому!

— Як потым са зламаным я назад паеду?

— Зламаць зараз жа!

І тут, як змовіўшыся, хітрыя жанчыны загаманілі: «А ёй дазволіў той, першы, не адчыняць, правезці шэсць бутэлек, бо яна адразу прызналася».

Я наструнілася. Гэта ўжо падстава — сапраўдны падман! Службовец без даверу паўглядаўся ў маладую жанчыну з чамаданам і пайшоў па першага мытніка. З мяне сарвалі вельмі адметную шапку і напялі на бедную кабетку. Падабенства ніякага! Зноў напхнулі на мяне шапку і ўручылі чужы чамадан. Вярнуліся мытнікі. Аддалі дакументы, прапусцілі праз кардон.

— Вось каб не яна — хана б усім!

Мне ад гэтага не было лягчэй. На рынках у Беластоку і Варшаве не па адной і не па дзве бутэлькі яшчэ выявілася ў вушлых гандлярак.

Калі вярнуліся дамоў, да мяне падышлі вадзіцелі аўтобуса:

— Дзяўчына, не перажывай. Другі раз надумаеш ехаць — столькі табе нахаваем!

Як не нарадзіўся шпікулянтам — нечага брацца за гандль.

## Белая амфара

— З выгляду зусім ненадзейны.

— Ага. Не сур'ёзны чалавек на выгляд.

— Хлапчукаваты, тварык вузенькі, бледненькі, скура ад касцей адстае, вусны надзьмутыя, неяк аладкамі павесіўшы крывіць.

— Непрызнаны геній.

— Галовачка набок — ківель, ківель, грыўкай кідзель — валоскі з лобіка скідвае. Ніяканькі. Ножкі хлі-іпенькія, далонька селядцом.

— Усё забягаў да нас, калі наведваліся сюды да бацькоў жонкі з нейкімі грандыёзнымі планамі, маштабнымі праектамі.

— На яго глянеш — не верыцца! У гэтага хіпі-дрыпі могуць быць нейкія сваякі, сям'я, крэўныя сувязі?

— Сувязі, чутно, ледзь не кожным прыездам завяршаліся бойкай з цесцем.

— Там карова, куры, гаспадарка, няма часу выслухваць яго ўтапічныя ідэі.

— Ды і душа ж смыліць у людзей! Унучка — з былінку, дачка — што тая трасцінка, сама мусіць вымагацца, цягнуць наркота!

— То ён арганізуе з'езды мастакоў — не сабраліся. То ён подпісы на дэпутацтва збірае — недабраў. Рэкламуе скураныя курткі…

— Не! Вось пра курткі благога не кажы. На той дэфіцытны час курткі спрытныя ўдаваліся!

— Жонка шыла!

— Апошняя яго кампанія па размаху не горш за МММ намячалася. Па кватэрах хадзіў, вучыў, як могуць азалаціцца людзі, калі вось зараз на пяць адрасоў выслаць грошы. Праз тыдзень-два павінна спрацаваць якаясь сістэма. З усяго Саюза на іх пасыплюцца грашовыя пераводы.

— І знайшліся ахвотнікі! Не многа, але паслухаліся, разаслалі, чакалі. Прыйшло адной.

— Ага! Ад роднай сястры пяць рублёў.

— Я яму — нічога ніадкуль не возьмецца, для пабудовы залатой піраміды! Трэба кагосьці спачатку падмануць і абабраць, каб «пасыпалася». А ён мне: «Новыя эканамічныя стасункі ў грамадстве ўтойваюць неверагодныя магчымасці».

— Напэўна, не ўдалося пабудаваць піраміду, бо акрамя МММ і яшчэ адной, што маіх сваякоў абабрала, не чутно было працэсаў.

— А вось і чутно! Чытаю газету. Пераможцам міжнароднага конкурсу мадэльераў стаў такі і такі: называюць прозвішча. Гран-пры атрымаў такі і такі. Проста вачам не даю веры!

— Цёзка?

— Ён! Галоўны прыз конкурсу — стажыроўка ў Парыжы ў самых выбітных мадэльераў свету!

— А што ён паказваў?

— Касцюм жаночы са штанамі скураны чорнага колеру. Там, я табе кажу! Дасканаласць крою і задумы! Глянец ад першага да апошняга шоўчыка і рубчыка! Вядома ж — віншаванні, інтэрв'ю, фуршэты! Канферэнцыі, планы, ангажаванні! Вось табе вялікія перспектывы і залатыя піраміды!

— Няўжо?! Во табе на! І што? Паехаў?

— Высвятляецца: пераможца, акрамя васьмі класаў за плячамі, не мае ніякай адукацыі, не валодае замежнымі мовамі для стасункаў з майстрамі… Не ведае, як «тункель з функелем» злучыць. Прыдумаць, можа, і сам прыдумаў, а можа і жонка… кроіла і шыла яна. Паездку адмянілі.

— Пазайздросцілі… Інтрыгі канкурэнтаў!

— Усё роўна выйшла так, як ён і казаў: «Новыя фінансавыя стасункі ў грамадстве». Без іхняй адукацыі адкрыў у Маскве салон моднай вопраткі са скуры. Раскруціўся на ўсю Маскву! Шкада, не доўга чалавек карыстаўся сваёй вікторыяй.

— Нейкі, казалі, няшчасны выпадак?

— Загінуў. Але ў бізнесе нічога не змянілася. Жонка як шыла, так і шые, зараз ужо з дачкой.

## Пеця-Амараканец

Пеця-Амараканец, беларусам жыве ў Расіі з маладых гадоў. На радзіму прыязджае пагасціць. Яму мянушка дасталася ад бацькі, некалі той, роўна як Джэк Васьмёркін з аднайменнага фільма, ездзіў у Амерыку шукаць шчасця. Напэўна, не знайшоў, бо ажаніўся тут на радзіме і Пецю «прыдбаў» пад старасць гадоў. Адным такім прыездам у нервовым стане Пеця даводзіў, як павінны жыць беларусы, як размаўляць. Пеця тым часам хварэў праблемай вярнуць дзве, некалі страчаныя беларускім алфавітам, літары роднай мове. Дні бавіў у бібліятэцы, збіраў матэрыялы, дакументы, сведчанні. Службовыя абавязкі закінуў, хадзіў пад пагрозай звальнення. Зніштэлы да непрыстойнасці — грошы на зваротны шлях збіраў па радні, сям’я на мяжы разводу. За ўсё гэта грэх папракаць, але чаму сам брудны, неахайны, валасы нячэсаныя, пазногці абгрызеныя, зялёны сапыль пад носам? Прывёз чамадан папер, заклікаў на барацьбу ў абарону тых дзвюх літараў. Злосна крытыкаваў пісьменнікаў, выкладчыкаў беларускай мовы, дыктараў, артыстаў, актывістаў, хто бясстрашна размаўляў на роднай мове. Не так! Трэба вярнуць ранейшы алфавіт і тыя дзве літары. Пеця плюецца пенай ад раздражнёнасці. Палову з усіх літараў алфавіту не вымаўляе: шапялявіць, картавіць і сыкае, ён не здольны патлумачыць, як павінны гучаць тыя, страчаныя — усе яны: х, ч, ж, с, ш, дж, дз і тыя дзве аднолькава

выпырскваюцца зашчочна-карэнназубным свістам «хсшч». Усплывае вобраз: чалавек памірае, а яму замест рупных лекаў ад смерці нахлабучваюць старадаўні капар і слязліва пляскаюць у далоні — які прыгожанькі быў маладым!

Гады два прайшло з той пары, прыехаў Пеця з новай жонкай, дзіця новае ў вазочку, хадзіў па радні, збіраў сала, вяндліну, пра мову не заікаўся — выглядаў не кепска, ну — дзякуй Богу, няхай з усяго чалавецтва хоць сябе ашчасліваць. А мы тут неяк самі разбяромся.

## Я вам давяраю

Прыбіральшчыца ў школе мела звычку, атрымліваючы палучку, не глядзець у «той бок», адмахвалася рукамі, крычала: «Не-не-не! Я лічыць не буду, я вам давяраю». Быццам касірка давала ўзнагароду са сваёй кішэні. Пад час пераліку купюр прыбіральшчыца саромелася павярнуць галаву, ледзь згаджалася паставіць подпіс. А праз год магла запытацца:

— Чаму гэта штомесяц даюць па шэсцьдзясят рублёў, а іншы раз яшчэ пятнаццаць капеек зверху дабавяць?

Чым дужа бянтэжыла бедную касірку — адкуль ёй ведаць, год счакаўшы, што там за пятнаццаць капеек набягае ў каго?

## Сангвінікі — меланхолікі

Кандуктар тралейбуса № 9.

— Білет!

— Мне толькі адзін прыпынак.

— Мяне гэта не хвалюе — білет купляем!

— Грошай няма.

— Абнаглелі! Нагой пад ж… на наступным прыпынку — дык адразу грошы паявяцца! Так і пруць на халяву, сволачы!

Кандуктар аўтобуса № 73

— Прапаную набыць квіток. Паважаныя пасажыры, угавор: талоны больш за тры разы не прабіваем. Калі ласка, талончык. Дзякую, удалай паездкі.

Кандуктар трамвая № 1.

— Вам толькі адзін прыпынак? Купіце, калі ласка, квіточак, але можна не прабіваць — будзе на наступную паездку.

Кандуктар аўтобуса № 40.

— Што ў вас там?! Прабілі? Дайце сюды — прабіты быў! — рве талон, дае прыгатаваны квіток.

— Вы яго таксама не адрывалі пры мне. Пакамечаны ўвесь. Другі раз прадаяце?

— Зараз у міліцыю пазваню — навучаць ездзіць у транспарце. Нахабнікі!

Кандуктар аўтобуса № 57.

Бярэ грошы, аддае палову назад, дае прабіты талон, махае рукой, маўляў: дамовімся.

## Айцец кампазітара

Перапоўненая электрычка. На адным з прыпынкаў чацвёра хісткіх мужчын з цяжкасцю ўскараскаліся па высокіх прыступках вагона:

— Айцец кампазітара! — аб'явіў адзін з іх, як толькі ўторкнуўся з тамбура ў салон. Той, што ўвайшоў другім, гопнуўся на свабодную лаву і хутка захроп, трэці заблытаўся ў лямках чужога заплечніка, там і застаўся на падлозе. Чацвёрты ашчадна падхапіў пад руку «айца кампазітара».

— Айцец кампазітара! — праз ікаўку паўтарыў той з вялікім здзіўленнем сам сабою. Прытым ён адштурхоўваўся ад пачатковай «А» і на «цец» рабіў кідок аж на вялікую септыму, а ўжо «кампазітара» адвольна спускаў на глісанда.

— Абсядзься ўжо, — запатрабаваў сябрук ад яго, а потым звярнуўся да ўсіх пасажыраў адразу:

— Вы не думайце, ён праўду кажа.

Адшукаў вольнае месца, пасадзіў свайго падапечнага, а сам узяўся прапаноўваць з далоні зліпшыся камяк «эм-энд-эмс», настойліва і пяшчотна ўгаворваючы тых пасажыраў, якія адмаўляліся.

Пакінуты на нядоўгі час айцец кампазітара, як вялікі мыслівец, абхапіў лоб даланёй левай рукі, апёрся локцем аб шыбіну.

— Айцец кампазітара, — задумліва выводзіў ён, вагон падскокваў на стыках, шыбіна па-здрадніцку спіхвала руку — локаць коўзаўся, айцец кампазітара дзюбаў ілбом у акно.

Той, што раздаваў цукеркі, добразычліва тлумачыў.

— Праўда-праўда, айцец. Вы прабачце нам — крыху папарыліся ў лазні, на сядзібе, тут недалёка адпачывалі, — тыцнуў ён адтапыраным вялікім пальцам свабоднай ад эмэндэмса рукі за спіну з-пад вуха, удакладняючы напрамак. Словамі адрасаваўся ён да салона агулам і адначасова да кожнага асабіста.

— Айцец кампазітара

— Сядзі ты ўжо, сын ты турэцкаподданага… Праўда, ён айцец кампазітара, чулі, «Лепрыконсы» такія пяюць? Тоўсценькі, лупаценькі, глаўны, ціпа, там такі, яго сын, — чалавек зноў скарыстаў адтапыраны палец вольнай рукі, на гэты раз торкнуўшы ў напрамку прыяцеля. — Во нада сыну кватэру купляць — перажывае.

— Айцец кампазітара…

# Змест

**Жаночая логіка**

**Андзілеўка, Л.**

А65 Няхай выбачае юнацтва : кніга прозы / Людміла Андзілеўка. — Мінск : Кнігазбор, 2020. — 144 с.

ISBN 978-985-7227-77-8.

На гэты раз аўтар прапануе «дарожную чытанку для жанчын і чулых мужчын». Сапраўды, апавяданні лёгка чытаюцца, займальныя, прыцягваюць цікавымі сюжэтамі і дзіўнымі паваротамі людскіх лёсаў.

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 64(4Беи)**

16+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Андзілеўка** Людміла Фёдараўна

**НЯХАЙ ВЫБАЧАЕ ЮНАЦТВА**

*Кніга прозы*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Алена Спрытніч*
Камп’ютарная вёрстка *Ларысы Гарадзецкай*
Карэктар *Алена Спрытніч*

Падпісана да друку 22.10.2020. Фармат 60×84 $^{1}/_{16}$.
Папера афсетная. Друк лічбавы.
Ум. друк. арк. 8,4. Ул.-выд. арк. 5,82.
Наклад 99 ас. Зак. 368.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 249-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/167 ад 01.10.2014.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.